23 снежня 2016 | № 49 (514)

# Новы час

**Шаноўныя чытачы! Наступны нумар газеты выйдзе 13 студзеня 2017 года**

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**4** НАКОЛЬКІ БЕЛАРУСЫ ЕЎРАПЕЙЦЫ

**54% беларусаў не могуць быць шчаслівыя без працы, але ў той жа час 53% нашых суайчыннікаў лічаць працу выключна сродкам зарабіць грошы**

**23** КОЛЬКІ ГАДОЎ ДЗЕДУ МАРОЗУ?

**Усе прызвычаіліся ставіць вядомага навагодняга персанажа ў адзін шэраг са старажытнымі казачнымі героямі. Але насамрэч Дзеду Марозу толькі 80 гадоў**

**7–18** Літаратурная Беларусь

## ПАДПІШЫСЯ!



**Паважаныя чытачы! Да Новага года вы яшчэ можаце падпісацца на «Новы Час» па старых коштах!**

# Цуд на Каляды

**У апошнія дні года мы падводзім вынікі і чакаем чагосьці чароўнага, цудоўнага, дзіўнага**




Амаль скончыўся чарговы год. Для кожнага ён быў свой. Для кагосьці — шчаслівы, для кагосьці — не вельмі ўдалы. У гэтыя дні мы азіраемся назад, згадваем, што было ў нас добрага і дрэннага. Добрага — каб яшчэ раз парадавацца за сябе і за блізкіх, — якія мы былі малайцы ў гэтым годзе! І не вельмі добрага — каб такога не здарылася ў будучыні.

І заўсёды чакаем нечага светлага. Надзея, кажуць, памірае апошняй. Насамрэч, яна не памірае ніколі.

Мы чакаем у гэтыя дні цудаў. Добрага настрою, калядных падарункаў. Нават калі з падарункамі праблемы, дык проста цудоўнага настрою. І мары, што ўсё палепшыцца, усё будзе добра.

Большасць з нас ведае, што Дзеда Мароза не існуе. Але мы ўсё адно спадзяемся на цуд.

Насамрэч, цуды мы ствараем самі. Дзедам Марозам можа стаць кожны. І неабавязкова для гэтага чакаць Новага года.

Згадваючы мінулы год, мы бачым маленькія цуды, якія мы ствараем уласнымі рукамі.

Мы пісалі пра тое, як жыхары вёскі Праснакі нечакана былі пастаўлены перад фактам, што іх дзіцячы садок зачыняецца. Пасля публікацыі ў НЧ дзіцячы садок быў уратаваны, а грузчыкі вымушаныя былі занесці ў яго мэблю, якую раней з будынку вынеслі.

У Слуцку жыхары скардзіліся на могілкі галубоў на паддашшы. Пасля артыкулу ў НЧ камунальнікі працавалі тры дні, але дохлых галубоў прыбралі.

Сёлета ў Беларусі на дзяржаўным узроўні прайшоў «Дзень вышыванкі». Гэта тое, што мы разам з «Арт-сядзібай» прапагандавалі некалькі гадоў запар.

Такіх прыкладаў багата. Гэта і ёсць маленькія цуды, якія змушаюць верыць у плённасць нашай працы і выніковасць нашых з вамі стасункаў.

Для таго, каб зрабіць маленькі цуд, трэба проста азірнуцца, агледзецца, і пабачыць тых, каму ты можаш дапамагчы. І не проста пабачыць, а сапраўды дапамагчы. Гэтая дапамога патрабуе вельмі невялікіх высілкаў, але, робячы камусьці дабро, вы і самі становіцеся больш шчаслівымі.

Для гэтага не трэба чакаць Калядаў. Бо можна папросту не паспець.

За год ад нас адышлі ў лепшы свет шмат нашых сябраў. Няма з намі палітыка Юрася Хадыкі, праваабаронцы Сяргея Ханжанкова, літаратара Ніла Гілевіча, мовазнаўцы Змітра Саўкі, музычнага крытыка Вітаўта Мартыненкі, мастацтвазнаўцы Сяргея Гваздзёва, лекара і журналіста Генадзя Шэршаня, гісторыка Анатоля Валахановіча, пісьменніка і даследчыка сталінскіх рэпрэсій Леаніда Маракова... Яны былі нашымі прыхільнікамі, сябрамі, аўтарамі...

Мы абавязкова ўзгадаем гэтых светлых людзей за святочным сталом.

І яшчэ шмат часу будзем адчуваць, што мы іх недалюбілі, недаацанілі, недагутарылі з імі і недачыталі іх...

Гэта яшчэ адна нагода, каб спяшацца рабіць цуды. Маленькія цуды, якія кагосьці зробяць шчаслівейшымі. А значыць, зробяць больш шчаслівымі і нас.

Дзякуй вам, шаноўныя чытачы, што былі з намі гэты няпросты год! Дзякуй, што верыце ў нас і падтрымліваеце. Са святамі вас!

**Рэдакцыя «Новага Часу»**

# Адзіны падатак павышаюць

Генадзь КЕСНЕР

**Мінгарсавет разглядае дакумент, у адпаведнасці з якім павялічыцца памер адзінага падатку для ІП і іншых фізічных асобаў. Павелічэнне складзе 12%. У маі гэтага года такі падатак ужо павышаўся на 15%.**

Што стаіць за павышэннем адзінага падатку і якія наступствы яно можа мець? Пра гэта распавядае эканаміст і прадпрымальнік Леў Марголін.

— Прычына павышэння падатку, як заўжды, адна — грошы скончыліся. Што б там сабе ні казалі ўладатрымальнікі, але справа ў тым, што ў Мінску тыя, хто сплачвае адзіны падатак — а гэта перш за ўсё гандляры на рынках, гэта рэпетытары, гэта тыя, хто здае кватэры, — робяць вельмі вялікі ўнёсак у гарадкі бюджэт. Таму, я мяркую, павышэнне гэтага падатку звязана з прыняццем бюджэту на новы год. Відаць, у прыбытковай частцы ёсць дзіркі, якія не дазваляюць перакрыць выдаткі, таму ўлады шукаюць, чым іх заткнуць.

***— Ці адчуюць на сабе гэтае павышэнне спажыўцы?***

— Калі паслугі, як кажуць, ліквідныя, дэфіцытныя, то, натуральна, спажыўцы гэта адчуюць. Бо любы прадпрымальнік жадае перад усім захаваць свой прыбытак і ўключыць усе выдаткі, у тым ліку і падатковыя, у цану тавараў і паслуг. Але я баюся, што многія не змогуць гэта зрабіць, бо яны і так ледзь-ледзь балансуюць на мяжы пакупніцкага попыту. Калі, скажам, у прадпрымальніка толькі адзін продаж за дзень, то наўрад ці ён будзе павышаць цану на сваю прадукцыю, бо рызыкуе ўвогуле застацца без продажаў. Так што ў любым выпадку ад гэтага нехта пацерпіць — альбо пакупнікі тавараў і спажыўцы паслуг, альбо самі прадпрымальнікі.

***— Якія катэгорыі прадпрымальнікаў могуць пацярпець больш за ўсіх?***

— Натуральна, гэта тыя, хто гандлюе на рынках. Бо тыя, хто аказвае паслугі і аплачвае адзіны падатак, знаходзяцца ў больш прывабнай сітуацыі, хоць і там ёсць больш прыбытковыя сферы ці менш прыбытковыя. Але самая ўразлівая — гэта ўсё ж сфера дробнага гандлю. Там вельмі высокая канкурэнцыя, таму любое павышэнне падаткаў ці арэнднай платы на прадпрымальніках там адбіваецца вельмі балюча.

Наогул, сітуацыя будзе прыкладна такая ж, як і з буйным бізнэсам. Будзе стагнацыя і паступовае загібанне гэтай сферы эканомікі. Гэта працэс не хуткі, недзе, магчыма, нават будуць нейкія ўсплёскі невялікага росту. Канешне, адносна росту, таму што калі эканоміка цягам двух гадоў губляе па тры з большым працэнты, то адзін працэнт росту, калі ён нават і будзе, наўрад ці зможа гэта ўсё кампенсаваць. То бок, дробны бізнес будзе капіяваць лёс буйнога бізнесу.

# Нягледзячы на ўзрост

Зінаіда ЦІМОШАК

**Прынята лічыць, што калі чалавек дасягае пенсійнага ўзросту, яго ўжо нічога не павінна цікавіць. Ён клапоціцца пра ўнукаў, дзяцей і не мае ніякага асабістага жыцця.**

Слуцкія пенсіянеры, якія кожны дзень наведваюць фізкультурна-аздараўленчы гурток «Рух у радасць» пры сацыяльным цэнтры, прытрымліваюцца іншага погляду. Яны з задавальненнем займаюцца фізкультурай.

Праводзіць заняткі былы інструктар лячэбнай фізкультуры слуцкай бальніцы Людміла Уладзіміраўна Яновіч.

— Мне вельмі падабаюцца мае вучаніцы, — кажа інструктар. — Яны дасціпныя, шмат жартуюць. Самыя малодшыя ўжо разменялі шосты дзясятак, а некаторым нават споўнілася 80 гадоў. Заняткі праводзяцца бясплатна для чатырох груп у адпаведныя гадзіны з раніцы да абеду, доўжацца каля гадзіны. Гімнастыка ў сталым узросце мае вялікае значэнне. Падбіраю такія практыкаванні, якія б маглі падтрымліваць тонус сасудаў і суставаў. Рэзкіх рухаў мы не робім, але ёсць практыкаванні даволі сур'ёзныя.

Адаптаваць арганізм сталых людзей да паўсядзённых нагрузак, адрэгуляваць працу сардэчна-сасудзістай і нервовай сістэм, умацаваць апорна-рухальны апарат і стварыць добры настрой людзям старэйшага ўзросту — галоўная задача, якую ставіць перад сабой трэнер.

Марыі Адамаўне Раманоўскай споўнілася 80 гадоў. На фізкультурныя заняткі ў сацыяльны цэнтр ходзіць другі год:

— Спачатку было цяжкавата, пачынала з невялікай нагрузкі, — гаворыць жанчына. — Пасля ўцягнулася, і зараз мне здаецца, што стала меней пакутаваць ад сваіх хвароб. Лічу, што тут сапраўды я аздараўляюся. У нашай групе 8 чалавек, усе культурныя і добразычлівыя, дзелімся рознымі навінамі. Пасля заняткаў на працягу цэлага дня ў душы пануе добры настрой. Тут у нас шмат адзінокіх людзей, але яны вельмі актыўныя. Некаторыя наведваюць і іншыя гурткі. Я яшчэ хаджу на сустрэчы з псіхолагам і бацюшкам.

Пры сацыяльным цэнтры для пажылых людзей існуе шмат іншых аб'яднанняў: «Школа здароўя», «Храм душы», «У нагу з часам», клуб аматараў тэатра і кіно, камп'ютарны, літаратурна-музычны, гурток дэкаратыўна-прыкладной творчасці, «Прыгажосць і здароўе».

# Перапіска з Андрэем Бандарэнкам зноў спынілася

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Апошнім часам не атрымліваю лістоў ад Андрэя Бандарэнкі, хоць накіраваў яму з канца лістапада тры лісты. На апошні з лістоў прыйшло паведамленне аб яго атрыманні. Але лістоў ад вязня ў адказ — няма.**

Бацька Андрэя — Валеры Бандарэнка — атрымаў ліст ад сына 8 снежня. Бандарэнка-малодшы паведаміў, што лісты ад яго «не прапускаюць», некаторыя вярталі па 5–6 разоў (і гэта ў нашай дзяржаве, дзе цэнзура строга забароненая!? — аўт.). У якасці прычыны называюць тое, што ў лістах «ўтрымліваецца інфармацыя пра крымінальную справу».

Андрэй Бандарэнка піша, што кантроль за ім узмацніўся. На яго думку, адміністрацыя шукае падставы для накладання новых спагнанняў з мэтай падмацавання абвінавачвання па артыкуле 411 КК. Нагадаем, гэтую справу ў дачыненні да Бандарэнкі пачала адміністрацыя турмы за, нібыта, «злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы». Па новым артыкуле Бандарэнку пагражае працяг турэмнага зняволення да двух гадоў.

Стала вядома, што 19 снежня суд Ленінскага раёна Магілёва адхіліў скаргу вязня і яго адваката на спагнанне, якое было вынесена Бандарэнку 30 верасня. Падставай стаў несвоечасовы даклад Бандарэнкі супрацоўніку адміністрацыі, які ўвайшоў у камеру ў перыяд здачы прадукцыі (Бандарэнка ў камеры склейвае канверты).

Адзначу, што «Новы Час» — адзіная нітачка, якая звязвае Андрэя Бандарэнку са знешнім светам. Ён — яе падпісчык з першых месяцаў адбыцця пакарання. Бацька Андрэя і я — таксама сябры газеты (прывітанне ўсім, хто яе чытае, і пабольш шчасця, багацця і радасці ў новым годзе!). Ва ўмовах непрапускання да яго лістоў хачу праз газету перадаць Андрэю Бандарэнку словы падтрымкі і сказаць, што мы пра яго не забываем і пільна сочым за кожным яго днём у няволі.

Упэўнены, што прыйдзе час, калі прысуд па яго крымінальнай справе будзе перагледжаны новым складам суда і справядлівасць пераможа.

# Уладнае трыа заўтра тваёй краіны

Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ, спецыяльна для НЧ

**Кадравыя перастаноўкі, якія адбываюцца ў апошні час на розных паверхах улады, большасць экспертаў расцэньвае як сімптомы сур'ёзнага крызісу цяперашняй улады.**

Але ёсць і тыя, хто лічыць, што гаворка ідзе проста пра працэс самаўзнаўлення ўладнай вертыкалі. І яно мае на ўвазе вытворчасць не столькі новых, колькі больш маладых адданых кадраў. Больш чым за дваццаць гадоў кіравання Лукашэнкі такія кадры былі выгадаваныя, выхаваныя і сёння іх паслядоўна сталі ўкараняць не проста ва ўладныя структуры, а на кіруючыя пасады.

Сярод такіх «наменклатурных зорак» бачацца, па меншай меры, тры вартыя ўвагі фігуры.

Як вядома, у сыходзячым годзе тры кадры былі ўзнагароджаныя Лукашэнкам ордэнамі: Усевалад Янчэўскі, Ігар Бузоўскі і Міхаіл Орда. На думку шэрагу назіральнікаў, гэтыя кадры апынуліся разам у кіраўніка дзяржавы не выпадкова. І наогул, такія карцінкі для тэлебачання ды іншых у Лукашэнкі выпадковымі не бываюць. Сярод чыноўніцкага люду адразу ж пачаліся размовы аб пасланым такім чынам ім меседжы на тэму «хто ёсць хто ў іх каралеўстве» ў агляднай перспектыве.

Здавалася б, у гэтым трыа з біяграфіямі з БРСМ найбольш дасведчаным выглядае 48-гадовы Міхаіл Орда. Сёння ён засядае ў Савеце Рэспублікі, дзе, трэба меркаваць, працягвае спасцігаць асновы апаратных інтрыг у такога аксакала, як Міхаіл Мясніковіч. Магчыма, бачаць сябе і на яго месцы. А пакуль Орда з'яўляецца прафбосам і трымае на ланцугу праўладную (па сутнасці, дзяржаўную) Федэрацыю прафсаюзаў.

Эканамічная сітуацыя ў краіне не дае спакою ўладатрымальнікам, якія баяцца некіравальных настрояў працоўных. Мяркуючы па тым, што Орду вырашылі пасадзіць у верхнюю палату Нацсходу (у ніжняй ён ужо сядзеў), з пастаўленымі задачамі на працоўным фронце ён спраўляецца. А таму і можа мець перспектывы росту ва ўладных нетрах кіруючага рэжыму.

Што тычыцца 43-гадовага Ігара Бузоўскага, які неяк раптоўна з'явіўся і гэтак жа раптоўна знік на важнай пасадзе намесніка кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі па ідэалогіі, то яго актыўнасць на ніве адданасці ідэалам савецкага мінулага назіральнікі бачылі выключна ў сувязі з тым, што ён сын чэкісцкага палкоўніка. Публічныя выказванні Бузоўскага накont рэформаў у адукацыі і значэння СМІ ў жыцці Беларусі пераконваюць у мадэрнізаваным бачанні ідэолага спосабаў апрацоўкі народа.

Відавочна, паніжэнне ў статусе не сведчыць пра яго вялікі ўплыў ва ўладнай вертыкалі. Але гэта сёння. Як уяўляецца, з'яўленне новага міністра адукацыі з партыйным білетам сучаснай КПБ можа надаць палітычную вагу маладому ідэолагу рэжыму. Разам яны павінны — і, хутчэй за ўсё, змогуць — задушыць слабыя намеры рухацца ў бок еўрапейскіх стандартаў у адукацыі і іншых сфер жыцця стабільнай Беларусі.

Да прыкладу, усе надзеі на ўдзел краіны ў Балонскім працэсе канчаткова ператворацца ў ілюзіі. Усведамленне гэтага ўсё больш настойліва прыходзіць у беларускія ВНУ і ў астатнія галіны адукацыі. Накont СМІ, у прыватнасці тэлебачання, ужо даўно няма ілюзій. Літаральна ўсе сферы жыцця ў Беларусі знаходзяцца пад каўпаком ідэалагічнай вертыкалі — анахранізму савецкага мінулага.

Варта прызнаць, што асабняком да сваіх партнёраў па ўладным трыа глядзіцца 40-гадовы Усевалад Янчэўскі — памочнік прэзідэнта, начальнік Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Нягледзячы на сваю маладосць, ён можа прэтэндаваць на месца аднаго з нямногіх ветэранаў акружэння кіраўніка дзяржавы. Яго нярэдка называюць «адзінай светлай галавой» у прэзідэнцкай адміністрацыі. Мабыць таму яму і даверылі куратарства прыбытковага і перспектыўнага праекта «Парк высокі тэхналогій».

Гэты праект разглядаецца ледзь не адзіным, які рэальна развіваецца для будучыні Беларусі. Менавіта гэты кірунак развіцця краіны дазволіў Янчэўскаму апынуцца ў складзе беларускай дэлегацыі, якая наведала ЗША. Кажуць, ён там размаўляў на зразумелай амерыканскім суразмоўцам мове, што ў Мінску ўспрынялі з энтузіязмам. А калі яшчэ звярнуць увагу, наколькі заўважны быў Янчэўскі ў тэлерэпартажах БТ аб гістарычным візіце прэзідэнта Турцыі ў Мінск, то больш нагляднымі становяцца вага і перспектывы маладога доўгажыхара кіруючага рэжыму. Яны ўзаемна запатрабаваныя.

Гэта трыа выхаванцаў Лукашэнкі ў даволі хуткім часе можа з'явіцца на самым Алімпе ўладнай вертыкалі, якая знаходзіцца сёння ў турбулентным стане.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У новы год — без ЕАЭС!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Памятаецца, Лукашэнка папярэджваў Расію: калі не будуць урэгуляваны праблемы, мы можам выйсці з інтэграцыйных аб'яднанняў. Праблемы засталіся. Можа, час здзейсніць задуманае?**



Фота www.dlmn.info

Ужо канец года. Аднак у нас дагэтуль не развязанае нафтагазавае пытанне з нашым найшчырэйшым саюзнікам. Прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў разлічвае, што кампраміс усё ж будзе знойдзены. У развязанні гэтых перамоваў ён нават задзейнічаў такі моцны інструмент, як галоснасць, даўшы інтэрв'ю агенцтву «Рэйтар».

«Мы разлічваем на тое, што па выніках актыўнага дыялогу, які цяпер ідзе, мы дасягнем кампраміснага выніку, — адзначыў прэм'ер. — Павінны быць супастаўныя, а лепш — роўныя ўмовы паміж суб'ектамі гаспадарання для таго, каб можна было весці размову па ўсіх чатырох свабодах эканамічнага саюза, а не разынкі з булкі выкалупваць і лічыць, што астатнія павінны з гэтым пагаджацца».

«Разынкі з булкі выкалупваюць», зразумела, рускія. Кабякоў справядліва лічыць, што «наша супрацоўніцтва павінна ўлічваць інтэграцыйны складнік. У адваротным выпадку інтэграцыя проста не будзе працаваць».

Кіраўнік урада падкрэсліў: Беларусь цікавіць не столькі цана на газ, колькі розніца ў цэнах паміж Беларуссю і Расіяй. У рэгіёнах, якія знаходзяцца побач з Беларуссю, цана на газ у два з лішнім разы ніжэй, чым у Беларусі, паведаміў ён. А калі так, дык навошта мы тады інтэграваліся? Навошта падпісвалі пагадненні пра ЕАЭС і іншую «дагаворную прававую базу»? Няма дзе было асадку распісаць?

Кабякоў прапануе два выйсці. Альбо, згодна з пагадненнямі, пастаўляць газ у Беларусь па ўнутрырасійскіх коштах, альбо ўзняць цану на паліва ў Бранску і Смаленску — да ўзроўню беларускай.

Такая сітуацыя з газам узнікае не ўпершыню, і таму падставы для аптымізму ёсць. Было нават, што пагадненне па газе падпісвалі за пяць хвілін да наступлення Новага года.

Чаму рускія так учапіліся ў газ? Усё проста: у гэтым годзе іх асноўны напаўняльнік бюджэту, мегаканцэрн «Газпром» — у мінусе. Фінансавы дырэктар холдынгу Андрэй Круглоў паведаміў, што з-за рэзкага падзення коштаў на газ, якія ў кантрактах прывязаныя да нафтавых каціровак, і росту выдаткаў, якія павялічваюцца, нягледзячы на праграму эканоміі, год кампанія завяршае з нулявой свабоднай грашовай плынню.

Чысты прыбытак «Газпрома» за 9 месяцаў упаў у 2,3 разы, прыбытак ад продажаў знізіўся ў 2,8 разы. Экспартная выручка, нягледзячы на рост паставак у Еўропу, звалілася да мінімуму за 12 гадоў.

Што ў такім разе робяць нармальныя кампаніі? Нармальныя кампаніі звальняюць усіх, адказных за правалы, і прызначаюць «антыкрызісных менеджараў». «Газпром» жа пайшоў ва ўладныя колы Расіі «выбіваць» запазычанасці з Беларусі. Пры гэтым выплаты топ-менеджарам «Газпрома» ўзраслі на 22%, а прэміі 17 чальцам праўлення карпарацыі за 9 месяцаў павялічылі аж на 72%!

Заплаціць ім, пэўна, павінны беларусы? Заробак аднаго толькі Мілера — прыкладна 27 мільёнаў долараў у год. Калі памножыць яго на 17 чальцоў праўлення, то нават беларускага доўгу не хопіць, каб усім ім заплаціць! А яны яшчэ і прэміі паднялі на тры чвэрці!

Газ і нафта — не адзіная нявырашаная праблема ў «саюзных адносінах».

Нелюбімы намі Рассельгаснагляд на тыдні прапанаваў «жорстка кватаваць» пастаўкі беларускай «малочкі». Пра гэта заявіў намеснік кіраўніка ведамства Мікалай Уласаў на парламенцкіх слуханнях у Маскве.

Паводле яго слоў, наяўнасць на рынку беларускай прадукцыі, а таксама фальсіфікаванай прадукцыі і непрыняцце жорсткіх мер забіваюць расійскую малочную жывёлагадоўлю. «У нас ніколі не будзе нармальнага малака, калі гэтыя праблемы не будуць вырашаны», — сказаў ён.

Дзеянні Рассельгаснагляду падтрымлівае Мінсельгас РФ. Як сказаў першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі Расіі Джамбулат Хатуаў, абмежаванні на ўвоз прадукцыі некаторых, «на жаль, неналежных пастаўшчыкоў былі справядлівыя».

Што ж не задавальняе рускіх у беларускім малацэ? Іх не задавальняе тлустасць і якасць нашага малака. Але большасць прэтэнзій да якасці нашай прадукцыі не пацвярджаецца пры паўторных праверках і ў незалежных лабараторыях трэціх краін. Іх непакоіць, што частка прадукцыі, якая пастаўляецца ў РФ, нібыта выпрацавана з «малака невядомага паходжання». Прычым, яны самі палічылі, колькі малака мы пастаўляем, і колькі, на іх думку, надойваем. Але асабліва іх абурэнне выклікае тое, што беларускія вытворцы прадаюць сваю прадукцыю па цэнах ніжэй, чым у расійскіх вытворцаў. Па словах Хатуава, усяго толькі месяц санкцый да беларускай «малочкі» прывёў да таго, што запасы сметанковага масла ў вытворцаў Расіі прыйшлі да нормы.

Што агульнага ў газа і малака? Агулам мы бачым, што, нягледзячы на ўсялякія «саюзы», няма роўных умоваў гаспадарання. Мы бачым, што няма вольнага перасоўвання тавараў і паслуг. Мы бачым, што Расія ўжывае лабісцкія і абмежавальныя захады для абароны сваіх вытворцаў у шкоду нават не беларусам, а сваім жа пакупнікам, якія набываюць больш таннае і якаснае беларускае.

Дык, спадарства, пра які ЕАЭС можа ісці размова? Які ў нас Мытны саюз, калі беларуская прадукцыя тармозіцца на мяжы РФ? Якая ў нас ад саюзаў выгада? Хіба што тысяча чыноўнікаў маюць заробак, працуючы ў «органах ЕАЭС», ды прадпрымальнікаў канчаткова задушылі «сертыфікацыяй саюзаў». Прычым, рускія на гэтую сертыфікацыю пляваць хацелі, мы ж выконваем усё «да літары».

Варта, нарэшце, шчыра прызнаца: ад розных «інтэграцый» у нас больш шкоды, чым карысці. Гэтыя праекты папросту не працуюць. Трэба скараціць чыноўнікаў у тым жа ЕАЭС і скасаваць гэты саюз, які не апраўдаў спадзяванняў.

Ад скарачэння чыноўнікаў мы хаця б выгаду атрымаем, і не малую. Па-першае, не будзем марнаваць бюджэтныя грошы на іх утрыманне. А па-другое — хай заплацяць падатак на дармаедства.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Леанід Маракоў

**Беларусь 19 снежня развіталася з пісьменнікам і даследчыкам сталінскіх рэпрэсій.**

Леанід Маракоў пайшоў з жыцця 17 снежня. У пачатку года ён перажыў інсульт, пасля якога ў яго выявілі пухліну галаўнога мозгу.

Леанід Маракоў нарадзіўся ў 1958 годзе. Па прафесіі інжынер-радыёэлектронік. Ён быў паспяховым бізнесменам, але пасля ў 1990-я гады пачаў вывучаць біяграфію свайго дзядзькі паэта Валера Маракова, які быў расстраляны 29 кастрычніка 1937 года. Вынікам працы стала маштабнае даследаванне сталінскіх рэпрэсіяў у Беларусі — падрыхтаваны і часткова выдадзены энцыклапедычны даведнік у 10 тамах пад назвай «Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794–1991». Агулам сабраныя звесткі пра 20 тысяч ахвяраў.

Маракоў выдаў таксама дакументальны доследа «Ахвяры і карнікі», дзе прыводзіць біяграфіі ахвяраў і тых, хто датычны да рэпрэсіяў у Беларусі. Асобна выйшла кніга, дзе сабраныя звесткі пра рэпрэсаваных у Беларусі праваслаўных святароў.

Леанід Маракоў таксама вядомы сваімі літаратурнымі творамі, аўтар некалькіх кніг. У 2014 годзе выйшла яго манаграфія «Галоўная вуліца Мінска. 1880–1940».



## Наталля Качанава

**Ужо былая віцэ-прэм'ер Беларусі стала кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта.**

Наталля Качанава скончыла Наваполацкі політэхнічны інстытут (1981) па спецыяльнасці «Водазабеспячэнне і каналізацыя», а таксама Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Беларусі (2006), па спецыяльнасці «Дзяржаўнае кіраванне нацыянальнай эканомікай». З анкеты вынікае, што Качанава валодае англійскай мовай і ўганараваная ордэнам Святой Еўфрасінні Полацкай.

Качанава амаль усё жыццё працавала ў сістэме ЖКГ, якая выклікала ў гэтым годзе шмат нараканняў з боку кіраўніка дзяржавы. Сёлета яна таксама адзначылася заявай на калегіі Мінспорту, каментуючы заробак трэнераў у 1,3 мільёна недэнамінаваных рублёў. «Ну што рабіць, такая зарплата! Наогул чалавек, які скончыў школу, выразна павінен уяўляць, якая зарплата яго чакае на месцы трэнера… На гэтыя месцы павінен быць вельмі сур'ёзны падбор кадраў. Туды трэба накіроўваць тых, хто хоча займацца трэнерскім рамяством, можа ім займацца і хто адэкватна ўспрыме гэты перыяд з заробкам 1,3 мільёна. Вы ўсе пакудараўы людзі і павінны разумець сітуацыю ў краіне», — сказала яна.

Зразумела, гэтае выказванне абурыла трэнераў, тым больш, што заробак Качанавай — у разы большы.

Нагадаем, 5 снежня 2016 года ад пасады кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта ў сувязі з пераходам на іншую працу быў вызвалены Аляксандр Косінец.



## Вікторыя Азаранка

**Лепшая тэнісістка Беларусі нарадзіла сына, пра што паведаміла ў Instagram.**

«Сёння быў мой самы цяжкі бой і мая лепшая перамога. Наш сын нарадзіўся здаровым і шчаслівым! Так удзячная і шчаслівая! Дзякуй!» — напісала Вікторыя. Запіс з'явіўся ў 5.10 раніцы па беларускім часе, але нарадзіла Азаранка ў ЗША.

Пра тое, што Вікторыя Азаранка цяжарная, стала вядома 15 ліпеня. Пра будучую прыемную падзею яна таксама паведаміла прыхільнікам праз сацыяльныя сеткі. У сваім звароце да фанатаў двухразовая чэмпіёнка турніраў «Вялікага шлема» сказала тады пра тое, што яна і яе каханы вельмі рады гэтаму факту і рыхтуюцца да новага этапу ў іх жыцці.

Бацька сына — амерыканец Уільям Маккег. З пачатку мінулага года ён суправаджаў беларуску на ўсіх турнірах. Білі любіць спорт, часта трэніруецца з Вікай і гуляе ў хакей. Па словах тэнісісткі, стаць прафесійным хакеістам яе бойфрэнду перашкодзіла траўма.

Таксама Азаранка запэўніла, што не збіраецца сыходзіць са спорту, а наадварот, натхнёная гісторыямі іншых жанчын-спартсменак, якія пасля нараджэння дзяцей дасягалі яшчэ больш вышынь у сваёй прафесійнай кар'еры, і хоча зрабіць тое ж самае. Яна падзякавала ўсім за падтрымку, і адзначыла, што гэта для яе шмат значыць.

# Наколькі беларусы еўрапейцы

Сяргей ПУЛЬША

**Інтэрнэт — гэта не толькі забаўка. У сеціве існуюць даволі сур'ёзныя праекты, якія дазваляюць высветліць настроі глабальнага грамадства. Адзін з іх — даследаванне «Generation What?»**


Фота www.ninjamommers.com

Інтэрактыўны праект-апытанне «Generation What?» стартаваў у Францыі ў 2013 годзе. Тады ў даследаванні паўдзельнічала каля за 250 тысяч французаў, якія адказалі прыкладна на 140 разнастайных пытанняў, што тычыліся сям'і, кар'еры, палітыкі, тэхналогіяў, рэлігіі, сэксу, грошай і іншага.

У 2016 годзе стваральнікі вырашылі працягнуць апытанне, цяпер ужо па ўсёй Еўропе, у тым ліку і ў Беларусі. На дадзены момант у апытанні паўдзельнічалі 880 000 еўрапейцаў, сярод іх больш за 15 000 беларусаў. Вось некалькі цікавых фактаў пра «пакаленне 18–34».

Наколькі ж беларусы — еўрапейцы? Ці сапраўды іх хвалююць тыя ж пытанні, што і жыхароў Старога кантыненту?

Чатыры самыя важныя праблемы, якія турбуюць еўрапейцаў, нібыта, агульныя: гэта праца, навакольнае асяроддзе, адукацыя і жытло. Ці такія ж праблемы ў беларусаў?

## Адукаваныя невукі

Як і ўся Еўропа, беларусы лічаць сваю сістэму адукацыі хібнай. З тым, што сістэма адукацыі эфектыўна рыхтуе студэнтаў для рынку працы, не згодныя 83% жыхароў нашай краіны. Сярод 30 дзяржаў Еўропы сваёй сістэмай адукацыі задаволеныя толькі скандынавы (Швецыя, Нарвегія, Фінляндыя і прылеглая да іх Эстонія) ды Нідэрланды, Швейцарыя, і, як ні дзіўна, Венгрыя.

Аднак толькі 57% нашых грамадзянаў лічыць, што дзяржава павінна аплачваць навучанне студэнтаў. Аналагічна, у межах 57–61%, думаюць і ўсходнееўрапейскія сябры ЕС — Польшча, Балгарыя, Літва, Румынія. А вось старыя «капіталістычныя зубры», як Германія, Італія, Іспанія, Швейцарыя, Нарвегія — тыя на 70% і больш лічаць, што студэнтамі павінна апекавацца дзяржава.

Прычым, чым больш дзяржава дэкларуе сваю «сацыяльнасць», тым гаротней там студыёзусы. Напрыклад, у Францыя з яе сацыялістычным урадам толькі на 67% гатовая ўтрымліваць студэнтаў. А вось Германія гатовая навучаць спецыялістаў за дзяржаўны кошт на 81%.

## Няма шчасця без працы

Ці можна быць шчаслівым без працы? «Шчаслівымі і беспрацоўнымі» могуць быць 46% беларусаў і 30% немцаў. Увогуле па Еўропе лічба людзей, якія маглі б быць без працы шчаслівыя, вагаецца ў сярэдніх межах 30–35% у залежнасці ад краіны.

А вось у Грэцыі людзі адчулі важнасць працоўных адносінаў, і там шчаслівымі без працы сябе могуць адчуць толькі 16% апытаных.

Невядома, ці сапраўды на гэта паўплываў крызіс. Бо недалёка ад грэкаў сышла адносна шчасная Аўстрыя — там 23% могуць быць беспрацоўнымі і шчаслівымі. А 46% беларускіх карэлюецца з працавітымі фінамі, дзе каштоўнасць наяўнасці працы адчувае толькі 51%, а маглі б быць шчаслівымі і без яе — 49%.

Прычым цалкам ці часткова рэалізуюцца на сваёй працы толькі 19% беларусаў. У гэтым мы падобныя на балгараў з тымі ж 19%. А ў сярэднім па Еўропе толькі 38% лічаць, што яны на працы самарэалізуюцца.

Цікава, што 54% беларусаў не могуць быць шчаслівыя без працы, але ў той жа час 53% нашых суайчыннікаў лічаць працу выключна сродкам зарабіць грошы. І толькі 47% — сродкам самарэалізацыі, што падобна на колькасць тых, хто можа быць шчаслівы і без працы.

Такое ж стаўленне да працы — як да сродку атрымання грошай, — у найбольш развітых краінах Еўропы. «Працу як самарэалізацыю» найбольш пазначылі ў анкеце жыхары краін, якіх адчувальна закрануў эканамічны крызіс: Грэцыя, Партугалія, Іспанія, Італія. Выключэннем з гэтага шэрагу з'яўляюцца хіба толькі Данія і Нідэрланды.

Уся Еўропа лічыць, што іх на працы паважаюць. І толькі ірландцы адчуваюць на працы шчасце.

## З мілым рай і ў шалашы

Уласнае жытло — гэта прыярытэт для ўсіх. Але навошта яно? Тут інтарэсы беларусаў і еўрапейцаў значна адрозніваюцца.

Для большасці еўрапейцаў уласны кут — гэта адзнака дарослаcці. Быць дарослым — азначае жыць асобна ад бацькоў (так лічыць 64% еўрапейцаў) і стаць ад іх фінансава незалежнымі (23%).

Для беларусаў жа ўласная хата і фінансавая незалежнасць ад бацькоў — зусім не прыкмета сталення. Нават наяўнасць сям'і яшчэ не азначае, што чалавек ужо дарослы. 65% беларусаў лічаць, што знак дарослаcці — гэта «сталасць і адказнасць». Наконт фінансавай незалежнасці жыхары нашай краіны з еўрапейцамі згодныя — гэты паказчык абралі 26%. У той час, як «жыць асобна ад бацькоў» як знак сталасці ўспрымаюць толькі 4% беларусаў.

То бок, можна жыць разам з бацькамі, але быць ад іх фінансава незалежнымі.

Еўрапейцы, між іншым, слаба ўспрымаюць сваю «сталасць і адказнасць»: на пытанне пра прыкметы дарослаcці выбралі гэты адказ толькі 2% жыхароў ЕС.

Але такое стаўленне да сталення — гэта, хутчэй, ідэал. 35% еўрапейцаў гатовыя жыць з бацькамі да таго часу, пакуль яны цвёрда не ўстануць на ногі — скончаць навучанне і атрымаюць працу. На тое ж згодныя 49% беларусаў. У той жа час 48% жыхароў нашай краіны лічаць, што сыходзіць з бацькоўскага дому трэба раней (так мяркуюць 57% еўрапейцаў).

Варта паглядзець і на тое, што і еўрапейцы, і беларусы лічаць поспехам у жыцці. Гэта не кватэра, не фінансавая незалежнасць, не наяўнасць працы і гэтак далей. Гэта такое абстрактнае паняцце, як шчасце, якое, зразумела, у кожнага сваё.

Адказваючы на пытанне, што яны лічаць поспехам у жыцці, 60% еўрапейцаў зазначылі — «быць шчаслівым». У беларусаў гэты паказчык нават вышэй — 68%.

І толькі для харватаў поспех у жыцці — сям'я. Дзеля яе можна ахвяраваць нават асабістым шчасцем, якое толькі 35% лічаць за жыццёвы поспех.

На сайце Generation-what.eu вы можаце прыняць удзел у апытанні, а таксама паглядзець усе вынікі.



# Мару пабачыць Егіпет!

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Напярэдадні Калядаў заўжды хочацца верыць у цуды, нават тым, хто забыўся, як гэта — спраўляць свята дома. Якіх жа цудаў чакаюць бяздомныя, пра што яны мараць?**



Фота www.cool-hdwallpapers.net

## Калі жыве надзея

Збіраць мары бяздомных я пайшла ў сталічную начлежку, якая месціцца ў Сухарава. Вышуквае, прывозіць, адкормлівае і рэабілітуе бяздомных тут «Іваныч» — былы вайсковец, які вырашыў прысвяціць сябе служэнню бадзягам.

Холадна. У буржуйцы трашчаць дровы. Бяздомныя моўчкі сёрбаюць ранішнюю каву. Замест лямпы — свечка: Іваныч беражэ электраэнергію.

Уладзімір хутаецца ў кажух і першым уключаецца ў размову. Тут ён жыве ўжо тры гады. Часцяком выступае ў ролі кухара — гатуе макароны з мясам, бульбу і супы — боршч і гарохавы. У свае 62 гады Уладзімір выглядае добра і па-інтэлігентнаму. Усё жыццё ён пражыў у Мінску, ажаніўся ў 22 гады, вырасціў дачку. «Мая Таццяна выйшла замуж за немца, таму цяпер жыве ў Германіі. Толькі вось я ўсё ніяк не наведаю яе», — з жалем кажа ён. Працаў памяняў шмат, апошні раз працаваў электрыкам. Мне было цяжка паверыць, што такі інтэлігентны мужчына страціў усё праз гарэлку.

Уладзімір кажа, што жонка яго выгнала. Так ён апынуўся на вуліцы. Аднойчы на адным з абедаў, якія арганізоўвалі ў Мінску для бяздомных, яго пабачыў Іваныч і прывёз у начлежку.

«Мог бы разоў сем адсюль збегчы, — разважае Уладзімір. Умовы ж тут складаныя: не толькі проста не піць і не паліць, але Іваныч яшчэ абавязвае займацца сацыяльным служэннем — развозіць разам з ім ежу для «цяжкадаступных» бяздомных, напрыклад, для тых, хто жыве на цеплатрасе. Але я не збег. Думаю, што нешта трымае мяне тут».

Цяпер Уладзімір дапамагае іншым ужо не па загадзе Іваныча, а па ўласным жаданні. «Вельмі добра, што прыходзяць да нас і дапамагаюць — і вопраткай, і словам. Часам і нас трэба падтрымаць…» — зноўку засумаваў мужчына.

Аднойчы перад Калядамі ў адным з мінскіх пунктаў харчавання для бяздомных Уладзімір пачуў, што ў Кафедральным касцёле арганізоўваецца святкаванне спецыяльна для такіх, як ён. «Нам далі цудоўны канцэрт! — згадвае Уладзімір. — І пакармілі. Ежа была такая хатняя, смачная. А пасля нават і падарункі далі». На тыя Каляды ён загадаў жаданне быць зноў патрэбным, зноў знайсці сябе. І амаль адразу пасля гэтага трапіў у начлежку ў Сухарава. Таму Калядаў і Новага года Уладзімір чакае, загадвае жаданне і верыць у цуды.

Зараз ён вырашыў загадаць жаданне больш маштабнае — у наступным годзе хоча злятаць у Егіпет. «Я мару злятаць у Егіпет. Пабачыць нешта новае, заўжды любіў знаёміцца з людзьмі, — усміхаецца Уладзімір. — А яшчэ мару пабываць у Жыровіцкім манастыры. Але гэта паспеецца».

Мужчына кажа, што грошы з пенсіі для гэтай вандроўкі ён адкладвае не адзін год.

А яшчэ ён марыць, каб людзі станавіліся больш міласэрнымі і перасталі адварочвацца ад такіх, як ён.

## І я буду шчаслівы…

Уладзімір глядзіць на гадзіннік: 11.30, трэба наведаць хворую цётку. Пераапранаецца і кідае кажух.

У куце, абмотаны пледам, сівы дзядуля падбірае гэты кажух. Дзядулю б'е моцны кашаль. «Тут напэўна лёгка захварэць», — кажу я. — «Не, гэта я такі дурань! Пайшоў у завіруху прагуляцца ў вятроўцы!»

Станіслаў — так завуць дзядулю — маўклівы, засцярожаны і негаваркі. Перад тым, як патрапіць да Іваныча, ён пабадзяўся шмат дзе — ад вакзала да цеплатрасы. Кажа, што раней быў адным з кіраўнікоў у рыбнай прамысловасці. «Колькі я мораў бачыў!» — уздыхнуў Станіслаў. Але, як з кіраўніка стаў бадзягай, расказваць не захацеў.

Яго сябры сталі жартаваць: «Стасік наш марыць падняць рыбную прамысловасць!». «Стасік» летуценна пра нешта падумаў, а пасля сплюнуў: «Я мару, каб хутчэй паправіцца мне… І я буду шчаслівы».

Яўгену крыху за трыццаць. У гэтай халоднай начлежцы, дзе няма ні ацяплення, ні гарачай вады, ён апынуўся ўлетку. Яшчэ не так даўно, кажа Яўген, у Мінску ў яго была кватэра. «Я хацеў яе прадаць. Але мяне падманулі рыэлтары». Маленькія няшчасці былі патрэбныя Яўгену для вялікага шчасця: «Я дзякую Богу, што я аказаўся на вуліцы! Інакш я б так і не стаў на гэты шлях выпраўлення. Цяпер я намагаюся дапамагаць і служыць». Вуліца навучыла яго марыць.

Падчас свята Божага Нараджэння Яўген вырашыў горача маліцца, каб Бог падарыў яму жонку: «Напэўна, адзінае, чаго я зараз вельмі моцна жадаю, — сям'ю».



Яўген

Дзіма — самы малады з усіх жыхароў прытулку. Яму яшчэ няма і трыццаці. Ён старанна закідвае дровы ў буржуйку, ля якой грэюцца бяздомныя каты. На мае спробы разгаварыць Дзіму, малады чалавек адказваў кароткай усмешкай. Размаўляць пра сябе не захацеў.

«А пра што вы марыце?» — пытаюся. Апускае вочы мармыча: «Не ведаю, не думаў, не мару…» І сыходзіць. Праз хвіліну вяртаецца, глядзіць мне ў твар і ціха прамаўляе: «Каб я здолеў прыняць гэтую волю Божую на маё жыццё».



Уладзімір



Дзіма і Іваныч

# Петэр Дэтмар: «Мая калядная мара — мір і спакой у свеце»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Рэспубліцы Беларусь распавёў пра калядныя традыцыі на сваёй радзіме, Святы вечар у Буркіна-Фасо ды гісторыю свайго захаплення сабакамі.**



**Петэр Дэтмар: «Па традыцыі, мы зычым адно аднаму блаславёных святаў, удалага Новага года, здароўя, поспехаў у сямейным і прафесійным плане. Агулам жа я мару пра спакой і мір у свеце»**

Імя Петэра Дэтмара найчасцей усплывае ў СМІ ў сувязі з палітычнымі перамовамі альбо сустрэчамі на найвышэйшым узроўні. Асабісты бок жыцця дыпламата звычайна застаецца ўбаку. Гэтым разам мы вырашылі паразмаўляць са спадаром Дэтмарам пра традыцыі святкавання Калядаў у яго краіне і сям'і, на што пасол Германіі ласкава пагадзіўся.

### «Тыпова нямецкая з'ява?.. Калядны кірмаш у Гослары!»

*— Вы паходзіце з вельмі цікавай зямлі — Ніжняй Саксоніі. Як у гэтым рэгіёне адзначаюцца Каляды? Ці ёсць нейкія асаблівыя традыцыі?*

— На жаль, нейкіх асаблівых традыцый, якія б радыкальна адрозніваліся ад астатняй Германіі, у Ніжняй Саксоніі няма. Праўда, ёсць традыцыя адвенцкага вянку, якая паходзіць з Паўночнай Германіі ды ваколіц Гамбургу. Па ўсёй краіне Святы вечар адзначаецца 24 снежня паходам у царкву, пасля чаго дзецям ды іншым сямейнікам раздаюцца падарункі каля елкі. Затым сям'я збіраецца на святочнай вячэры. Пэўных правілаў для гэтай вячэры не існуе. У яе могуць уваходзіць разматыя стравы: ад бульбяной салаты ды каўбасак да каляднай качкі.

Хаця ўсё ж штосьці асаблівае ёсць... Быў такі шведскі пісьменнік і філосаф Ларс Густаўсан, які, на жаль, сышоў ад нас сёлета ў красавіку. Прыкладна 20 гадоў таму яго падчас інтэрв'ю спыталі: «Ці ёсць нейкая тыпова нямецкая з'ява?» Спачатку ён адказаў адмоўна, але пазней падумаў і выправіўся: «Так, ёсць. Гэта калядны кірмаш у Гослары!» Справа ў тым, што Гослар — мой родны горад. Ён захаваў сваю сярэднявечную архітэктуру і дух. А Густаўсан неяк пабываў у маім горадзе акурат падчас Калядаў і, як бачым, застаўся ўражаны. Дарэчы, увесь цэнтр Гослара ўваходзіць у спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЭСКА, таму і атмасфера там, асабліва на Каляды, адпаведная.

*— А якія калядныя традыцыі былі ў вашай сям'і?*

— У нашай сям'і было так: бацькі зачынялі ад нас з братам адзін пакой, дзе ўпрыгожвалі ялінку, клалі падарункі. Затым мы з братам ішлі на дзіцячую імшу ў царкву, пасля чаго адбывалася тое, што ў нас называецца «дарэнне калядных падарункаў». Часам да нас зазіраў і Дзед Мароз ((Weihnachtsmann. — рэд.), які ўручаў падарункі афіцыйна.

*— Дзед Мароз так і называўся? Ці гэта быў Святы Мікалай?..*

— Гэта два цалкам розныя персанажы. Дзень Святога Мікалая ў нас адзначаецца 6 снежня, калі ўручаюцца невялікія падарункі, салодкасці ў першую чаргу. Часам яны кладуцца ў панчоху, часам — не. Але мая маці паходзіць з Нідэрландаў, дзе ўсё наадварот: асноўныя падарункі робяцца 6 снежня, а на Каляды ўжо менш значныя.

### «Нам з братам падарылі таксу: так я стаў «сабачнікам»

*— Якія былі вашы найбольш цёплыя перажыванні і ўспаміны, звязаныя з Калядамі?*

— Кожнае Раство было непаўторным. У нас ніколі не было нейкіх «дзікіх» святкаванняў, бо мой бацька быў ва ўзросце. Затое я добра памятаю, як нам з братам на свята падарылі сабаку — таксу з шорсткай поўсцю Анцье! З таго часу я вельмі люблю сабак. І наогул стаў сабачнікам. Апошні сабака Флорыс у нас жыў 16 гадоў і 3 месяцы. Гэта быў сабака фрызскай паляўнічай пароды. Ён суправаджаў нас з Гаагі, праз Маскву, у Мінск. Памёр Флорыс напрыканцы студзеня 2013 года. І пакуль мы не гатовыя да таго, каб узяць іншага. Той сабака яшчэ занадта шмат месца займае ў нашых сэрцах. Але я збіраюся ўзяць сабаку, калі сыду на пенсію.

### «Дэталькі «лега» з майго дзяцінства захоўваюцца для ўнукаў»

*— Калядныя традыцыі, на вашу думку, гэта рэлікт з мінулага, ці стараецеся іх трымацца ды перадаць сваім дзецям?*

— Сёння маім дзецям, Хансу і Ганне, ужо 26 і 30 гадоў, таму і традыцыя збольшага мінула. Але мы трымаліся калядных звычаяў прыкладна да часу, пакуль дзецям не мінула 14–15 гадоў.

*— Ці ведалі вы, чаго хочуць вашы дзеці на Каляды? Ці атрымлівалася задавальняць іх жаданні?*

— У маіх дзяцей была вельмі багатая фантазія, але я заўжды ведаў, чаго яны хочуць. І не заўсёды іх мары былі выканальнымі. Калі дзеці былі маленькімі, вельмі папулярнай была гульня «лега», і яны хацелі атрымаць у якасці падарунка лега. Я з гэтым знаёмы яшчэ са свайго дзяцінства, таксама вельмі любіў лега. У мяне, дарэчы, яшчэ ляжаць дэталькі гульні з мяжы 1950–1960-х, калі я сам быў маленькім і з гэтым гуляўся. Гэта ўсё захоўваецца і чакае патэнцыйных унукаў.

Можна дадаць таксама такія падарункі, як пазлы ды дзіцячыя кніжкі — неад'емныя элементы свята.

### «У Буркіна-Фасо за калядным сталом размаўлялі пра... тэалогію»

*— Вы працавалі дыпламатам у Буркіна-Фасо. Ці ёсць там адмысловыя калядныя звычаі?*

— Важна ўсведамляць, што прыкладна 60% насельнікаў гэтай краіны — мусульмане, яны арыентуюцца на традыцыі ісламу. Рэшта жыхароў — намінальна каталікі. Сам я з'яўляюся пратэстантам, таму трэба было думаць, як захаваць і выканаць свае традыцыі там. Знешнепалітычны аддзел каталіцкай царквы высылаў свайго эмісара — духоўную асобу, — каб той змог выступіць у розных частках Афрыкі.

Такім чынам, ён заязджаў і да нас, каб правесці набажэнства 25 снежня, у першы дзень Божага Нараджэння. Падчас яго візіту ў нас з жонкай была традыцыя запрашаць гэтага святара і яго брата па ордэну на вячэру. Гэта заўжды былі прыемныя вячэры, падчас якіх паміж імі завязваліся тэалагічныя дыскусіі, мы з жонкай імкнуліся ў іх не ўмешвацца, але ўспаміны ў мяне захаваліся пра той час толькі пазітыўныя.

*— Каляды ў Германіі — гэта больш рэлігійнае свята ці сямейная традыцыя?*

— Трэба адзначыць, што з часам гэта свята набыло камерцыйны характар. На жаль, ягоны першасны сэнс, калі можна спакойна сесці ды асэнсаваць мінулы год, прыйсці ў сябе і да сябе, адышоў на другі план. Але традыцыя адзначаць Каляды сем'ямі ды хадзіць адно да аднаго ў госці захавалася, нягледзячы ні на што. А з камерцыйным фактарам нічога не паробіш.

*— Каляды — час загадваць жаданні. Ці былі ў вас у дзяцінстве запаветныя жаданні? Яны здзейсніліся або не?*

— Мне пашчасціла. Я магу азірнуцца на вельмі ўдалае і напоўненае жыццё, як у асабістым, так і ў прафесійным плане. Таму наконт мараў пра нешта асабістае, напэўна, цяжка казаць. Агулам жа я мару пра спакой і мір у свеце. Калі б гэтак атрымалася — мая мара была б здзейсненая.

### «Беларусы маюць трымаць пост, а пасля святкуюць паўмесяцы»

*— Вы ўжо сутыкаліся з беларускімі калляднымі традыцыямі? Ці адрозніваюцца яны ад нямецкіх?*

— Асноўная розніца ў тым, што ў Беларусі збольшага трымаюцца праваслаўных традыцый. Паводле юліянскага календару, ёсць розніца нават у даце. Не ведаю, наколькі ўсе гэтага трымаюцца, але праваслаўная традыцыя кажа пра абавязковы 40-дзённы пост перад Раством.

У адрозненні ад немцаў, у Святы вечар праваслаўныя ядуць не так і шмат, посныя стравы, а вось у першы дзень Раства можна сябе ўжо не стрымліваць у кулінарным плане. Пасля людзі апранаюць касцюмы, ходзяць з вёскі ў вёску, святкуючы амаль палову студзеня! Гэта тое, што я зразумеў наконт мясцовых калядных традыцыяў.

*— Што вы маглі б пажадаць беларусам напярэдадні Калядаў і Новага года?*

— Па традыцыі, мы зычым адно аднаму блаславёных святаў, удалага Новага года, здароўя, поспехаў у сямейным і прафесійным плане. І нават калі не ўсе жаданні здзяйсняюцца, важна, каб чалавек атрымліваў унутранае задавальненне. Не заўсёды гэта звязана з набыткам матэрыяльных каштоўнасцяў. Таксама я ад усяго сэрца жадаю міру ды спакою ў Беларусі і за яе межамі.



Калі мы размаўлялі з Петэрам Дэтмарам, трагедыя ў Берліне яшчэ не здарылася. Шматлікія турысты і жыхары Германіі, як і жыхары ўсяго свету, рыхтаваліся да святаў.

Людзі бавілі час на Калядным кірмашы каля Мемарыяльнай царквы кайзера Вільгельма ў Берліне, калі раптам з'явіўся цягач з прычэпам, гружаны сталёвымі бэлькамі. Ён праехаў каля 80 метраў па тэрыторыі каляднага кірамашу. У выніку загінулі 12 чалавек і 48 атрымалі раненні.

Здарэнне было кваліфікавана як тэракт. Мяркуецца, што перад тым, як заехаць у натоўп, злачынец скраў грузавік, які належаў польскай кампаніі, і забіў кіроўцу.

Адказнасць за тэракт узяла на сябе так званая «Ісламская дзяржава». Адпаведнае паведамленне распаўсюдзіла інфармагенцтва ІД «Амак».

Пасля гэтай перадкаляднай трагедыі яшчэ больш глыбокі сэнс атрымліваюць словы спадара Дэтмара, вынесеныя ў назву артыкулу: «Мая калядная мара — мір і спакой у свеце».

Спадзяемся, што пасля тэракту людзі ў Германіі знойдуць сілы пайсці далей і таксама марыць пра мір і спакой ва ўсім свеце.

Рэдакцыя «Новага Часу» выказвае свае шчырыя спачуванні спадару Петэру Дэтмару, супрацоўнікам Пасольства Германіі, жыхарам Германіі і ўсяму цывілізаванаму свету з нагоды тэракту.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №12 (124)
(снежань)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест





# Паэтычныя каляды

Янка КУПАЛА

* * *

*Іду я, сняжысты, ўсясільны,*
*Па сцежках-пуцінах пустых,*
*І ночкай, і днём безупынна*
*Пільную абшараў сваіх.*
*Палац мой —*
*лес буйны, вяцвісты —*
*Ірдзіцца брыльянтамі скрозь,*
*Мне воўк і мядзведзь у паслугах,*
*Мне служаць вавёрка і лось.*
*Як пухам, сняжком пасыпаю*
*І хвою, і ёлку, і клён;*
*Хто ў госці ка мне забярэцца,*
*Тулю тых, галублю іх сон.*

Якуб КОЛАС

* * *

*Ходзіць дзед белабароды*
*Полем, лесам, пералескам,*
*Засцілае рэчкі лёдам,*
*Брыльянцістым снежным блескам.*
*Сыпле іней на бярозы,*
*Туліць дрэвы лёгкім пухам,*
*Крые руні, травы, лозы*
*Белай воўнаю — кажухам.*
*Дзеда ўсюды носяць ногі,*
*І к нам прыйдзе на хвілінку*
*Адпачыць крыху з дарогі,*
*Важна сеўшы на ялінку.*
*А ялінка!... Чаго толькі*
*На яе няма галінках!*
*Свецяць зоркі і вясёлкі*
*У бліскучых павуцінках.*

Рыгор БАРАДУЛІН

* * *

*У ноч калядную збяры*
*Усіх здарожаных, халодных,*
*Усіх забытых і галодных,*
*І раздары свае дары.*
*Усё, што даў табе Гасподзь,*
*Каб ты апошнім*
*Мог дзяліцца.*
*Бо ўдачы гладкая цяліца*
*Пасецца,*
*каб аддаць стокроць.*

*Прасі на кут сваіх Дзядоў*
*Абнашчыцца куццёю поснай,*
*Каб не шукаць гадзінай познай*
*У небе памяці слядоў.*
*Як вогнішча, разварушы*
*Тугу,*
*Што пазірае нема.*

*І ціха вока Бэтлеема*
*Узыдзе ў поцемках душы.*

Авяр'ян ДЗЕРУЖЫНСКІ

* * *

*Закружыліся сняжынкі*
*Нізка, нізка над зямлёй.*
*Ціха лётаюць пушынкі*
*Незлічонай чарадой.*
*Быццам тыя матылёчкі,*
*Весяляцца нездарма —*
*Адамкнула ўсе замочкі*
*Ў небе ім сама зіма.*

Ірына ЖАРНАСЕК

**Рараты***

*Кволы агеньчык свечкі*
*далоні трымаюць хлапечыя,*
*а побач —*
*яшчэ і яшчэ...*
*Дзівоснай красы ліхтарыкі*
*заззялі зіхоткім святлом*
*і асвяцілі дом Божы*
*на досвітку гэткім марозным.*

*Рараты...*

*«О Езус, на зямлю прыйдзі*
*і дай сваё збаўленне...»*
*Свечка ў руках хлапчаняці*
*просіць у Бога апекі:*
*для мамы — яна, бедачына,*
*не можа ніяк прачнуцца*
*гэтым марозным ранкам,*
*каб разам з маленькім сынам*
*ісці ратаваць свой Край;*
*для таты — ён без настрою:*
*палучка яшчэ далёка,*
*кішэні ж даўно пустыя*
*і пахмяліцца так хочацца*
*пасля ўчарашняе п'янкі.*

*Рараты...*

*Нясе сваю свечку хлапчук —*
*не дыхае, каб не пагасла*
*святло трапяткое, дрыготкае —*
*яно так патрэбна сягоння,*
*каб выслухаў Пан Бог малітвы яго*
*і старэнькай бабулі,*
*што дзесьці на лаўцы мовіць*
*просьбы свае да Бога...*

*Рараты...*

*Звоняць званы святыні.*
*Краіна застыла ў чаканні*
*прыходу Таго, Хто прыйсці павінен*
*і ашчаслівіць зямлю,*
*якая нават не ведае,*
*чаго не стае ёй для шчасця.*

*Рараты...*

*Краю, мой Краю,*
*хто і калі цябе разгадае?*
*Звоняць званы. Але ў ложках*
*соладка спяць сном глыбокім*
*не дзеці — іхнія таты і мамы.*
*Ім для таго, каб прачнуцца,*
*што яшчэ трэба, Божа?!*
*Ды ўсё ж не памерла надзея,*
*бо дзеці, іхнія дзеці,*
*гэтым марозным ранкам*
*са свечкамі і ліхтарамі,*
*з малітвай даверу на вуснах*
*ідуць ратаваць свой Край.*

*Рараты...*

* Слова «раараты» паходзіць ад першага слова перадкаляднага гімна «Rorate coeli». Ратарная Святая Імша здзяйсняецца ў гонар Божай Маці традыцыйна раніцай, да ўзыходу сонца ў перыяд Адвэнту (Каляднага паста). Прымаючы ўдзел у гэтай святой Імшы, мы разам з Дзевай Марыяй чакаем Нараджэння Хрыста.

Аркадзь НАФРАНОВІЧ

**Куцця**

*Куцця — на стол кладзецца сена,*
*Ёсць таінства ў такой хвіліне.*
*Мароз б'е посахам па сценах,*
*У сінім змроку неба стыне.*

*На елцы свечкі зіхацяцца,*
*Ва ўсім і чысціня, і гожасць.*
*Абрус бялюткі, страў дванаццаць —*
*Дары зямелькі з ласкі Божай.*

*Ідзе ўрачыстая вячэра*
*Няспешна, як Імша Святая.*
*Варожым і глядзім на дзверы —*
*А раптам шчасце завітае.*

Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ

* * *

*Дзе пушчы і балоты,*
*Між елак і бяроз*
*На іртах па сумётах*
*Шыбуе Дзед Мароз.*
*Зіхцяцца, як карункі,*
*Сняжынкі ў барадзе,*
*А ў торбе — падарункі*
*Дзіцячай грамадзе.*
*І радасна на свеце,*
*І весела (да слёз!)*
*Калі — у цёплай хаце*
*Гасцюе Дзед Мароз.*



# Пасяджэнне Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў

**Адбылося чарговае пасяджэнне Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», на якім прысутнічалі і старшыні абласных аддзяленняў.**

Новымі сябрамі арганізацыі былі абраныя Вольга Бабкова, Уладзімір Бруй, Сяргей Ваганаў, Міхась Конан, Ігар Кулікоў, Таццяна Нядбай, Таня Скарынкіна.

Ганаровымі сябрамі Саюза беларускіх пісьменнікаў сталі Янка Запруднік, Зінаіда Гімпелевіч і Мікола Нікалаеў.

На пасяджэнні быў зацверджаны спіс Аргкамітэту XVII чарговага справаздачна-выбарчага З'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў у складзе 11 чалавек і вызначаная дата правядзення З'езда: 4 сакавіка 2017 года.

# Падатак на незалежную кнігу?

**Беларускі ПЭН-Цэнтр і незалежныя кнігавыдаўцы лічаць абсурдным прапанову старшыні СПБ Мікалая Чаргінца адлічваць працэнты ад продажаў кніг у Літфонд.**

«Невялікія незалежныя выдавецтвы сёння выпускаюць больш цікавых і патрэбных кніг, чым дзяржаўныя арганізацыі і Саюз пісьменнікаў Беларусі (СПБ)», — заявіў БелаПАН кіраўнік Беларускага ПЭН-Цэнтра паэт і перакладчык Андрэй Хадановіч.

Такім чынам А. Хадановіч пракаментаваў прапанову старшыні СПБ Мікалая Чаргінца, выказаную на III з'ездзе пісьменніцкага аб'яднання, увесці ў практыку адлічэнні ў структурнае падраздзяленне СПБ — Беларускі літаратурны фонд — 1–3% ад продажу літаратуры, выпушчанай за мяжой, а таксама кніжнай прадукцыі недзяржаўных выдавецтваў. Гэтую прапанову М. Чаргінец аргументаваў тым, што на кніжных прылаўках пераважае менавіта замежная літаратура і кнігі прыватных выдавецтваў, таму СПБ «ставіць пытанне аб абароне літаратуры беларускіх аўтараў на тэрыторыі краіны».

«Мне здаецца, што гэта спроба перакласці праблемы з хворай галавы на здаровую, — сказаў кіраўнік ПЭН-Цэнтра. — Замежная літаратура, кнігі незалежных выдавецтваў — усё гэта ўжо даўно з'яўляецца вельмі важнай часткай нашай культуры і актуальнага літаратурнага працэсу».

«Я не бачу падстаў для падобнай дабрачыннасці на карысць Чаргінца і яго таварышаў. Думаю, што незалежны Саюз беларускіх пісьменнікаў альбо прыватныя выдаўцы Ігар Логвінаў, Зміцер Колас, Зміцер Вішнёў і іншыя маглі б з такой жа ініцыятывай выступіць, каб Літфонд Чаргінца адлічваў грошы на іх дзейнасць. Гэта была б такая ж абсурдная прапанова», — падкрэсліў ён.

Каб абараніць аўтараў і развіваць беларускую літаратуру, А. Хадановіч параіў СПБ «пісаць цікавыя кнігі, якія б куплялі зачараваныя талентам чытачы» і такім чынам «падтрымлівалі б гэтую літаратуру рублём». «Тады не давядзецца нічога адбіраць у ні ў чым не вінаватых людзей», — адзначыў кіраўнік ПЭН-Цэнтра.

У сваю чаргу дырэктар прыватнага выдавецтва «Логвінаў» прадпрымальнік Ігар Логвінаў у каментары БелаПАН назваў прапанову Чаргінца «вясёлай ініцыятывай», ад якой ён «проста ў шоку». «Я думаю, што яшчэ трэба ўвесці падатак на дзяцей, на чытачоў, якія выбіраюць замежную літаратуру, і на паветра, якім яны дыхаюць», — з'іранізаваў ён.

«Прыватныя выдаўцы рызыкуюць — выпускаюць літаратуру за свае грошы. Мала таго, што ўсе яны жывуць у галечы, дык яшчэ і плаціць Чаргінцу за тое, што ён нейкі асаблівы? Я ў гэтым не бачу ніякага сэнсу. Мне здаецца, што танней разагнаць яго Саюз пісьменнікаў і Літфонд, і тады з'явяцца грошы для публікацыі кніг».

Каб па-сапраўднаму развіваць беларускую літаратуру, на думку І. Логвінава, трэба, наадварот, вызваліць сферу кнігавыдавецтва ад падаткаў, якія ў выніку ўплываюць на канчатковы кошт кнігі. У Беларусі, сказаў ён, да кнігі ўжываецца «такі ж падыход, як да каўбасы або любога іншага тавару», у той час як «ва ўсім свеце для выдання і продажу кніг ствараюць ільготныя ўмовы, прэферэнцыі».

«Стаўленне да кнігі павінна быць як да асаблівага прадукту, таму што гэта не проста тавар, а аб'ект культуры. У нас у краіне праблема не ў грошах на кнігавыданне, а ў людзях, якія рэгулююць заканадаўства ў гэтай галіне», — падсумаваў выдавец.

# Высновы «Экслібрысу»

**26 лістапада ў музеі Петруся Броўкі адбылося ўзнагароджанне пераможцаў конкурсу «Экслібрыс» імя Антона Луцкевіча.**



Прадстаўнікі розных краін і пакаленняў, крытыкі і літаратуразнаўцы абмеркавалі лёс свайго «рамяства» і ўспрыманне яго сучасным чытачом.

У сустрэчы ўзялі ўдзел сябры журы конкурсу, навукоўцы Ірына Шаўлякова (мадэратарка вечара) і Ціхан Чарнякевіч, Барыс Пятровіч, пераможцы сёлетняга «Экслібрысу» Антось Уласенка, Алена Карп, Дар'я Латышава і Паліна Піткевіч.

Спецыяльнай госцяй літаратурнай дыскусіі стала шведская пісьменніца, журналістка, крытык, намесніца старшыні Шведскага саюза пісьменнікаў Ульрыка Шарнборг.

Віншаванне пераможцаў стала нагодай для літаратурных крытыкаў абмеркаваць будучыню сваёй прафесіі. Ірына Шаўлякова адразу адзначыла, што дыскусія будзе незвычайнай:

— Мы з вамі павінны зараз размаўляць аб будучыні таго, каго ніхто не любіць. Калі вы больш-менш сочыце, што гавораць аб крытыцы апошнія 20 гадоў, вы ведаеце, што многія жадаюць ёй смерці, а той, хто не жадае, думае, што яна ўжо памерла. Сітуацыя неадназначная, але тым і цікавая.

У спробах выявіць парадыгму ў гісторыі беларускай крытыкі Ірына Шаўлякова папрасіла Барыса Пятровіча параўнаць беларускую крытыку 1980-х з сучаснай.

— Я заўважаю, што колькасць аўтараў і артыкулаў была значна большай, — адзначыў Барыс Пятровіч. — Ды і аўтары больш уважліва чыталі творы, параўноўвалі іх з іншымі, рабілі больш глыбокі аналіз. Зараз тэкст пішацца менавіта пра адзін твор, крытыкі не імкнуцца прааналізаваць больш шырока. Магчыма, на гэта паўплывала эпоха інтэрнэту, дзе матэрыял успрымаецца па-іншаму.

Ціхан Чарнякевіч выказаў думку, што вялізны матэрыял — не заўсёды добра для чытача:

— Здаецца, межы сфер размыты. Ва ўсіх жанрах шмат мітуслівай балбатні. І людзі не могуць падысці да вершыка ці да рамана, не нагарадзіўшы 50 старонак — па сорак кіламетраў улева і восемдзесят управа. Лічу, што мікракрытыка незаслужана забытая. Наконт рэцэнзій у інтэрнэце — цяжка іх параўноўваць з кніжнымі артыкуламі. Часцей за ўсё гэта «ўсхліпы» — «ой, божа, я пачытаў гэтую кнігу». Гэта нават не анатацыі — часцей водгукі.

Ульрыка Шарнборг распавяла, што ў Швецыі цяпер маюць места працэсы, падобныя да тых, якія назіраюцца ў Беларусі:

— Можна сказаць, што ў Швецыі мы назіраем крызіс літаратурнай крытыкі. Гэта, у першую чаргу, звязана з тым, што друкаваныя выданні маюць эканамічныя праблемы. Культурныя газеты і часопісы губляюць сваіх чытачоў. За апошнія пяць гадоў сотні крытыкаў засталіся без працы. Безумоўна, у многіх краінах нельга выжыць толькі за кошт таго, што ты пішаш літаратурную крытыку. Але ў Швецыі літаратурны крытык — гэта звычайная прафесія. Таксама ёсць тэндэнцыя, што крытычны твор скарачаецца па аб'ёме і многія газеты хочуць замяніць рэцэнзіі проста на адзнакі — «зорачкі».

Таксама Ульрыка Шарнборг дадала, што ў Швецыі ёсць аб'яднанні тэатральных і мастацкіх крытыкаў, аднак для літаратурных аб'яднання няма. Шведскія крытыкі часта аб'ядноўваюцца, ствараюць літаратурныя часопісы, якія прысвечаны пэўнай тэматыцы, але гэта невялікія супольнасці.

Напрыканцы размовы пытанне, ці ёсць будучыня ў літаратурнай крытыкі, засталося без адказу. Аднак усе пагадзіліся з тым, што пакуль ёсць чытачы і попыт, ёсць практыка замоваў рэцэнзій у рэдакцыях, то будзе расці і развівацца і сама гэтая з'ява.

**Алена Босава,**
**фота: Віка Трэнас**

# Конкурс вокладак

**Саюз беларускіх пісьменнікаў абвяшчае конкурс на лепшае мастацкае афармленне кніг сучасных аўтараў.**

Першай прапануецца аздобіць вокладку кнігі Вінцэся Мудрова «Забойца анёла».

Вядомы празаік, адзін з найбольш яркіх аўтараў полацкага андэграўнду 1970-х, падрыхтаваў да выдання новую кнігу «Забойца анёла» — трынаццаць апавяданняў, напісаных цягам апошняга дзесяцігоддзя. Апавяданне, якое дало назву зборніку прозы, расказвае пра незвычайную сустрэчу на беразе Волгі.

...Беларус прыязджае на працу ў глухую вёску на ўзбярэжжы Волгі, і ўсё было б шэра і будзённа, але пра гаспадара хаты ходзяць няўцямныя чуткі. Некалькі гадоў таму ён вярнуўся з палявання, якое цалкам змяніла ягонае жыццё, ператварыла яго ў пакуту і немарач. На качыным паляванні ён выпадкова забіў свайго анёла...

Як ты ўяўляеш сабе забойцу анёла? Прачытай загалоўнае апавяданне (http://media.catholic.by/nv/n20/art12.htm) і дашлі сваю працу на конкурс да 16 студзеня 2017 года на адрас sbp@lit-bel.org з пазнакай «Конкурс вокладак»!

Фармат вокладкі 84х108 1/32. Вышыня 20 см, шырыня 13 см.

Іншыя творы з гэтай кнігі («Палёты праз цэнтр Зямлі», «Тузік і Кузік», «Кава апоўначы») можна прачытаць на сайце часопіса «Дзеяслоў» і ў электронных версіях новачаснай «Літаратурнай Беларусі».

Усе ўдзельнікі атрымаюць памятныя падарункі, а твор пераможцы стане вокладкай і здабудзе заахвочвальную прэмію. Першае месца будзе вызначана шляхам чытацкага галасавання.

Вінцэсь Мудроў (нарадзіўся ў 1953 годзе) — празаік, аўтар кніг «Жанчыны ля басейна» (1992), «Гісторыя аднаго злачынства» (1993), «Зімовыя сны» (1999), «Ператвораныя ў попел» (2005), «Альбом сямейны» (2007), «Багун» (2013), «Албанскае танга» (2016). Лаўрэат прэмій часопіса «Крыніца» і «Залаты апостраф», прызёр Літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройца. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і Таварыства вольных літаратараў.

**Прэс-служба СБП**

## Вечар літоўскай літаратуры ў Мінску

**У кнігарні «ЛогвінаЎ» адбылася прэзентацыя зборніка навелаў «Бог дажджу» Альвідаса Шляпікаса ў перакладзе на беларускую мову Сюзанны Паўкштэла з удзелам літоўскіх і беларускіх аўтараў.**

Кніга выйшла пры падтрымцы Інстытута літоўскай культуры, зладзілі вечарыну Саюз беларускіх пісьменнікаў, Саюз пісьменнікаў Літвы, Амбасада Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Літаратурны дом «ЛогвінаЎ».

У межах вечарыны прайшлі паэтычныя і празаічныя чытанні на літоўскай і беларускай мовах. Пераклады сучаснай літоўскай літаратуры на беларускую мову здзейсненыя дзякуючы штогадовым пленэрам, якія праводзіліся Саюзам пісьменнікаў Літвы ў Літве і ва Украіне.

У літоўска-беларускіх творчых дуэтах выступілі паэт Дайнюс Гінталас і паэт, ягоны перакладчык Антон Рудак, пісьменніца Бірутэ Янушкайтэ і паэтка, перакладчыца прозы пані Бірутэ Валянціна Аксак.

# Ад перажытага і пражытага

## Да дзесяцігоддзя з дня смерці народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі

Алесь ЖУК

**Прыйшоў Іван Навуменка ў маё жыццё кнігай «Верасы на выжарынах». Не ведаю, чым яна кінулася ў вочы: стракатай у восеньскіх танах вокладкай? Я тады яшчэ падлеткам прападаў на паляваннях у лясках, пералесках, ручаінах і балацінах на ўскраінах Капыльскай грады, за якой ляжаць вялікія — ажно да небакраю — палі-палеткі.**

У жніўні пачынаўся паляўнічы сезон, таму я люблю і жнівень з яго золатам саломы, і верасень з квітучым верасам, які наступаў на лясныя выжарыны, ад якіх праз некалькі гадоў не заставалася і следу.

Ды і першае апавяданне «Жуль Верн» пра любоў да геаграфіі, да чытання кніг пра падарожжы начамі, нават і катанне на каньках-дзеравяшках, — гэта ўсё было і пра мяне, напісана добраю, яснаю і празрыстаю моваю. Адчуваўся ўжо свой стыль сталага пісьменніка.

Навуменка стаў для мяне маім пісьменнікам.

«Люблю фантазію і таямнічасць. Гэта з самых малых год. Усякаму падшывальцу, калі яму міне пяць вёснаў, хочацца, каб свет хадзіў дагары нагамі. А незвычайнае пачынае вабіць з калыскі. У праўдзівасці сказанага могуць лёгка пераканацца сённяшнія бацькі. Ляжыць, напрыклад, у люльцы сінявокі чалавек, які перажыў вясну, лета, восень і яшчэ не зусім ведае, што такое зіма. Падыдзі да яго звычайна, павітайся, назаві па імені — ніякага ўражання. А надзьмі шчокі, вырачы вочы, прышчокні ў дадатак языком — і маеш захапленне сінявокай істоты...»

Гэта — першы абзац апавядання «Жуль Верн». Кніга выдадзена ў 1960 годзе.

У аўтабіяграфіі Іван Навуменка напісаў: «Выступаць у літаратуры — так лічу я сам — пачаў позна. Першае апавяданне надрукаваў у трыццацігадовым узросце. Не ведаю, добра гэта ці дрэнна. У тым, што пішу, трымаюся бліжэй да перажытага. Сябе як пісьменніка бачу на пачатку дарогі». Аўтабіяграфія датавана канцом 1962 года. А ўжо былі выдадзены паўнавартасныя, без вучнёўства, дзве кнігі апавяданняў і аповесцяў «Сямнаццатай вясной» і «Хлопцы-равеснікі». Пра юнацтва коратка: быў падпольшчыкам, партызанам, на фронце ўдзельнічаў у баях пад Ленінградам, на Карэльскім перашыйку, ва Усходняй Прусіі і ў Сілезіі. Змоўчаў пра тое, што на фронце быў старшыной роты разведкі. А ў разведчыкі нават і ў мірны час хлюпікаў не бяруць...

Быў нечаканым для мяне і яго зваротак да студэнта-смаркача на «вы», і адкрытасць, і добры прыжмур вачэй, і лёгкая, ледзь заўважная ўсмешка, і спакойная ўпэўненасць у сабе. Ды яшчэ і падараваў мне кнігу «Хлопцы-равеснікі» з аўтографам, першую ў маім жыцці кнігу з аўтографам сапраўднага пісьменніка.

Гэта быў высокі, шырокі ў касці мужчына, які зрэдзьчас падгортваў уверх усёй пецярнёю валасы, яшчэ не пазначаныя сівізной.

Калі надышоў час пісаць курсавую, параіў: «А напішыце пра раннія апавяданні вашага земляка Кузьмы Чорнага. У нашым літаратуразнаўстве пра іх успамінаюць мімаходзь, ды і то абыходзяцца адным «Начлег у вёсцы Сінегі». А яны заслугоўваюць большага». Потым адкрыта ўсміхнуўся: «Ведаеце, не заўважыце, як хутка давядзецца пісаць і дыпломную. Разгорнеце курсавую — і будзе добрая дыпломная».

Потым я зразумеў, што Івану Якаўлевічу хацелася, каб я, акамя прозы, заняўся і літаратуразнаўствам. А ў дасягненні сваёй мэты ён быў настойлівы.

У прозе ён настойліва ішоў да трылогіі. Хоць у апавяданнях і пра падпольную дзейнасць, і пра саму «партызанку» міжволі праглядвала ўласцівая маладосці зухаватасць і нават усмешлівасць, і тыя «прыгоды» маглі скончыцца трагічна. Але вось цытата з пазнейшага апавядання «Дом над морам». Ужо відавочны блізкі канец вайны, акуратны прыгожы домік ля мора, прыгажосць...

«Дзень быў па-сапраўднаму майскі. Свяціла сонца, і тысячай усмешак яму адказвала мора. Яго бяскрайняя шырыня ўдалечыні злівалася з небам. Над люстраняй гладдзю вады насіліся чайкі. Рэдка пастрэльвала наша алтылерыя, і яшчэ радзей адгукаліся немцы. Сыпануў цёплы майскі дождж і перастаў гэтак жа нечакана, як і пачаўся. Пад вокнамі дачы ярка зазелянелі газоны.

У поўдзень трэба было аднесці афіцэру разведкі карту, на якую мы штодня наносілі новыя агнявыя кропкі праціўніка. Ісці ў штаб папрасіўся Булавенка.

Праз некалькі хвілін яго забіла асколкам снарада пад самымі вокнамі белага дома, на пясчаным пляжы...»

Прасты і страшны сваёй прастатой трагізм вайны.

Іван Навуменка рыхтаваўся пісаць «Сасну пры дарозе», «Вецер у соснах» і «Сорак трэці». Гэта ці не першыя эпічныя творы пра вайну, напісаныя па-сучаснаму, з парушэннем прынятых тады канонаў абавязковай гераізацыі. Ці не пасля Навуменкі і пісьменнікі першага філалагічнага пакалення дружна пачалі пісаць раманы, дылогіі, трылогіі, нават пенталогіі?

Як і ў прозе, мэтанакіравана і настойліва Іван Навуменка працаваў у літаратуразнаўстве: ад рэцэнзій і крытычных зборнікаў пра сучасную літаратуру, у якіх ён падтрымліваў творчасць пісьменнікаў філалагічнага пакалення, да манументальных, не пераўзыдзеных і на сённяшні дзень прац пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Прайшоў шлях ад радавога пісьменніка і літаратуразнаўцы да народнага пісьменніка і акадэміка, ад універсітэцкага выкладчыка да віцэ-прэзідэнта Акадэміі Навук БССР. І пачэсныя званні, і высокія ўрадавыя ўзнагароды былі заслужанымі...



На Першамайскай дэманстрацыі. Злева направа — Янка Сіпакоў, Іван Навуменка, Ніна Маеўская, Барыс Сачанка, Юрась Свірка. 1958 год

Напрыканцы маёй службы ў войску Мікалай Гаўрылавіч Ткачоў узяў мяне на працу ў новастворанае выдавецтва «Мастацкая літаратура». Па першым часе выдавецтва не мела свайго будынка, рэдактары працавалі ў рэжыме надомнікаў. Працаваў і я, яшчэ не зняўшы лейтэнанцкія пагоны. У выдавецтве мяне і сустрэў Іван Якаўлевіч і прапанаваў, каб я пісаў заяву на паступленне ў аспірантуру. Я сказаў, што за два гады на палігонах у мяне з галавы выветрылася ўся навука, акрамя мовы і літаратуры, а трэба здаваць экзамены: «Нічога, здадзіце», — коратка мовіў Іван Якаўлевіч, усміхаючыся.

І экзамены я здаў, стаў аспірантам і такім чынам атрымаў «від на жыхарства» ў Мінску, бо ваенныя, насуперак усім законам, звольнілі мяне ў запас не туды, адкуль прызывалі ў войска, а «на деревню к дедушке».

Аднак навукоўцам мне не дадзена было стаць. Нейкая «добрая душа» напісала ў аддзел аспірантуры данос, што я і вучуся, і адначасна працую. У той час гэта было забаронена заканадаўствам. У аддзеле аспірантуры мне параілі напісаць заяву аб пераводзе на завочную форму навучання. У міністэрстве вышэйшай адукацыі мяне ветліва павадзілі па кабінетах і далі адказ, што гэта немэтазгодна...

І раней, і цяпер мяне, калі перачытваю творы Івана Навуменкі, уражвае і палоніць крыху нечаканая адметнасць — рамантызм і летуценнасць, — пры ўсёй рэалістычнай аснове творчасці. І яшчэ — любоў да людзей, да жыцця, да прыроды. А гэтая летуценнасць была глыбінная ў Івана Якаўлевіча, — ужо сталы пісьменнік і чалавек, ён напіша раман і назаве яго «Летуценнік». Пра яго ж захапленне збіраць грыбы і па сёння ходзяць успаміны і легенды. Добрыя легенды таксама патрэбны людзям...

Неяк у рэдакцыі ён спытаў у мяне, як стаўлюся да творчасці Змітрака Бядулі. Адказаў, што пра яго амаль забыліся, калі і ўспамінаюць, то пра тое, што ў Мінску, у гасцінным хаце Самуіла Яфімавіча меў прытулак Максім Багдановіч.

Вочы Івана Якаўлевіча засвяціліся знаёмым мне святлом. У тон яго добраму настрою сказаў, што для надрукавання напісанаму «зялёную вуліцу» забяспечваю. Работа была надрукавана і потым выйшла асобнаю кнігаю.

Калі Іван Якаўлевіч пайшоў, я падумаў, як ён моцна «здаў» — гады і хваробы рабілі сваю работу. Яшчэ падумаў: які моцны ў ім гэты беларускі сялянскі пачатак: паміраць збірайся, а жыта сей...

У жніўні ці на пачатку верасня спаткаўся ў горадзе з Міколам Аўрамчыкам.

— Слухай, Алесь, учора толькі з дач! Там Навуменка! Схадзіў да Івана, так добра пасядзелі, пагаварылі!

Назаўтра ранішняю электрычкаю я быў на дачах і ўжо збіраўся да Івана Якаўлевіча. Жонка спыталася: «Куды?». Адказаў.

— А Навуменка ўчора вечарам паехаў у горад.

Жонка бачылася з яго дачкой Валерыяй Іванаўнай, вядомым доктарам-афтальмолагам.

Так мне і не ўдалося развітальна пабачыцца з Іванам Якаўлевічам...



Злева направа — Павел Місько, Алесь Жук і Іван Навуменка

**Як і ў прозе, мэтанакіравана і настойліва Іван Навуменка працаваў у літаратуразнаўстве: ад рэцэнзій і крытычных зборнікаў пра сучасную літаратуру, у якіх ён падтрымліваў творчасць пісьменнікаў філалагічнага пакалення, да манументальных, не пераўзыдзеных і на сённяшні дзень прац пра Янку Купалу і Якуба Коласа**


Фота www.byvladus.blogspot.com

# Вышыванкі*



Марыя ВАЙЦЯШОНАК

## Купіць дом у Сілічах

Пагоркі, лагчыны, зямля дыхае, прыпадымаецца на локаць, невысока, і зноў укладаецца лес — густа, шарсцёй, нерухомы. Назаўтра едзеш, а зямля блінам перавярнулася на другі бок — і ўжо ледзь пазнаем дарогу.

Кавярня пры самай дарозе, ну, забягалаўка звычайная.

Вясна, нейкая веснавая стома ва ўсёй постаці жанчыны за прылаўкам: раз-пораз аблізвае сасмяглыя вусны, быццам адолела каханкам сярод дня, пасярод поля, на людзях, і рады не дала, і хай яно сабе, слабка бароніцца ад поглядаў. Строі ейныя ледзь памочаныя ў фарбы, колеры нябесных багавіц.

Звернецца, як да знаёмай, бы цябе возьме за руку і павядзе да столу, ужо што не пададуць — смачна, хочацца хваліць усё спарадку, ну як у гасцях. Усім хапае прывету ейнага, усе ядуць, нейкія прыручаныя, як гарадскія жабракі, далібог.

У вакне дарога зусім побач, машына за машынай; ой, дайце спокуй, я нікуды не спяшаюся. Дальнабойшчык вунь выпраставу ногі пад сталом, толькі што не разуўшыся, палуднуе, паглядае на буфетчыцу з той пачцівасцю, якая, можа, жадалася б жонцы ці маці нават.

Голас, голас ейны, тая нота, што звычайна ў сям'і, за сталом, над сталом, вось-вось, здаецца, мы загаворым адзін да аднаго ўсе разам.

Нарэшце купляем цукеркі, віншуем чужое дзіця, якраз у кавярню збіраліся запрашоныя дзеткі на «ліманад». «А хто вы будзеце?» — пытаецца ў нас нехта з бацькоў. «Мы тут у Сілічах дом купляем, яшчэ сустрэнемся можа калі», — адказваем.

Хаця на гэту хвіліну, дык здаецца, мы дзеля палудня і ехалі во сюды, з Мінска.

Дарога да дома.

Гэты дом стаіць наводдаль ад вёскі, адышоўся і спыніўся на беразе поля, быццам на беразе мора, калі хвалюецца збажына. Дом з бярвення, апрацаванага сякерай, уручную. Бярвенне, дзе большае, дзе меншае, быццам вось тут на гэтым самым мейсцы высякаўся лес, які быў, і спарадку складаўся, уплятаўся ў вянцы. Крыху прыпадняты на пагорку.

Нялёгка будзе падымацца самой на гэты пагорак, ісці, спадзявацца, што трапіш дамоў.

Пад'ехалі тады, першы раз, убачыўшы дом, ён быў выстаўлены на продаж. «Пачакайце, — няўцямна папрасіла гаспадара, — пачакайце на панадворку!» Хацелася адной зайсці, каб пачуць толькі сваё сэрца.

А дагэтуль было шмат дарог у пошуках свайго гнязда. Стукалі ў чужыя дзверы вінавайцамі, ужо ведаючы: стары чалавек будзе павінен з'ехаць жыць да дзяцей, калі сыну ўдасца прадаць дом. Ён сядзеў і не зварухнуўся, павярнуўшыся да агню ў каміне, ён замаўляў на агонь, каб яму яшчэ ўдалося пажыць на волі.

Часцей гаспадар тлумачыў: дзеці вучацца за мяжой, патрэбны грошы, выходзіла, дом будаваўся на продаж. На продаж?! Адразу менела даверу — дом без выпрабаванняў, ён як нежывы. «Пакоі абстаўленыя? Якая мэбля?» — пытаешся ў рыэлтара. — «Багатая», — адказвае. «Які стыль?» — «Багаты».

Гаспадыня «багатага» стылю вадзіла па пакоях: яна ад'язджае да дзяцей за мяжу. Яна на схіле веку, яе быццам толькі што дасталі з кардоннай скрынкі, як ляльку, і крыху пакамячылі. Яна ўжо гасцявала за мяжой, меркавалася пераязджаць. Дом гэты, кажа, дзе б яна ні была, увесь час з ёю. Вядома, што ейная душа тут застанецца назаўсёды. Купіўшы дом, я буду чуць чыесьці крокі, гукі, ейны жаль. Яна бясконца будзе падымацца па сходках на ганку і вяртацца, быццам забылася ўзяць з сабой ключы. Мы гаварылі пра карціны на сценах, разглядалі дыванкі з Непала ручной работы, каб крыху забыцца пра продаж дома. Высокія вокны, фіранкі спадалі са столі, панаваў лёгкі змрок — вечарэе ці світае. Ізноў гаварылі, гаварылі. Яна развіталася, як з гасцямі, толькі што не было сказана праз парог: «Заходзьце яшчэ». Так, пэўна, будзе з кожным пакупніком.

Дамы на разломе — гаспадары разводзіліся. Не, не, гэта нядобра, шукай, пытайся, чаму каторы прадае, раілі сябры. А чаму? Не будзем жа пытацца: «А ў вас, можа, ёсць прывіды, а суседзі часам не ведзьмакі?» Мы гублялі дарогу, гублялі мэту, хацелася вярнуцца, падзьмухаць на ўчарашнія вугалі, падцепліць печ у старой хаце, крыху затрымацца кожны раз каля агню, як каля невідонай з'явы, бы на небе, апячы руку і не заўважыць наразе болю.

Пачакайце, пачакайце на панадворку...

Дзень быў хмарны, а здавалася, што гэта дрэва з густога лесу яшчэ трымае вакол сябе лясныя прыцемкі. На бярвеннях знакі сякеры зарубінамі, каб не згубіць дарогу скрозь гушчар. Дом без закуткоў, дзе хаваецца смутак памерлых у старых сценах, — тут маладыя гаспадары, яны будаваліся, чакалі трэцяе дзіця. Крокі твае адзываюцца не ззаду, пільнуючы чужога, а побач.

Я шукала роднае падабенства на чужым твары. Дом, які можна было б убачыць, як успомніць.

Пазней я буду ўглядацца, каб знайсці вакол вёскі ў полі ці ў лесе звыклыя сцежкі, пакручастыя, у пошуках удобіцы, сцежкі больш памыслыя, калі нага за нагу ідзеш, гуляючы, сцежкі бягучыя, часовыя, як дажджавыя ручаі, сцежкі калясьмі праз поле, праз лес напраасткі, каб хутчэй, каб спора было. Зніклі яны з мапы вясковай, сляды не чалавечыя, сляды машын, калі ёсць дзе якая дарога. З вакна хацелася бачыць далёкі гарызонт. А поле тут спехам спускалася ад дома да лесу, лес, густы, ссоўваўся ўніз, погляд упіраўся ў ягоную спіну, рухаўся, не спыняючыся, але не аддаляўся, колькі ні ўглядайся.

Наогул, дом на пагорку, іншы раз — адчуванне вышыні, быццам цябе нехта трымае на плячах, каб ты бачыў далей, болей. Яму самому жадалася далёкага гарызонту.

Пазней пачуеш галасы вялікай дарогі, шашы, гасцінца, зрэдку склыгат, рык адносіць у другі бок ад вёскі, у поле, вецер; ноччу гасцінец гасіць вялікія агні, мроіцца ад бяссоння іншы рух: стомлены шоргат бежанцаў, салдат пехацінцаў, фурманкі на кірмаш, каб паспець знайсці мейсца прывязаць каня, жабракі да царквы, перакінуўшы праз плячо вузлы з усім, што маюць, усё з сабой.

Дастаткова было ўспомніць даўнейшае слова «гасцінец», слова з пахам выцягнутага з кішэні табе перніка ці пеўніка, абсыпанага «табакай», і адразу сэрца памякчэла, каб замірыцца з такім галосным суседствам.

На другім паверсе, у вялікім пакоі размяшчаўся вялікі ложак: ні ён ля сцяны, ні ён да вугла, як звычайна, а на самай сярэдзіне, на чатырох слупах. Зеленькаваты палог зацягваў яго мроівам, слупы стрымлівалі ўзнёслае збудаванне на адным мейсцы. Было нешта ўрачыстае і тым жа разам цнатлівае ва ўсім гэтым. Маладая жанчына перад ноччу падымалася, як нявеста, на абранае яшчэ ў дзявочых марах узвышша кахання.

Я стаяла ў пустым памяшканні, узрушана глядзела, узыходзіла да надзвычай рэдкага ў наш час разумення любові, адносін мужа і жонкі, ледзь не прыняўшы будзённа тое, што бачыла, за тэатр.

Яшчэ доўга потым за фатэлем, за шафай я знаходзіла «пёркі» ізняга гнязда: то шпільку з валасоў, то каляровы аловак, шлінку, сурвэтку, збірала, углядалася, як на старажытных раскопках, звычайныя рэчы, можа, князёў ці ўладарнікаў свету, уладарнікаў зніклага, узнёслага жыцця мужчыны і жанчыны..

Тут яшчэ вітаў іхні дух, дух чакання трэцяга дзіцяці.

Дом перабіраўся рукамі па костачках, каб наламаць, зрабіць яго свойскім, прыручыць. Першыя госці: прыляталі сарокі павітацца; ноччу кот суседскі хадзіў па двары з ліхтаром, трывожна запальваючы светадыёдныя лямпы, палюючы на мышэй; недзе брахаў сабака, чыя трывога на каго, я нікога не ведала, было нязвыкла, што і днём у вёсцы, дзе я жыла, сабакі чулі ўва мне толькі чужаніцу.

Ішла да людзей вясна, а зямля не падавала мне аніводнага знаку — нічога не цвіло першым цветам, тачылася зубкамі трава, я разглядала, разбірала яе па нітках, як тканку, не пазнавала: на старым лецішчы такое не расло. Яблыні, ігрушы стаялі на сядзібе ўздоўж дарогі караулам, малады сад, быццам пасля гаспадара, разбегся, а з блізкага лесу прыйшлі на зямлю піхта, лістоўніца, туя, некалькі клёнаў, трэба было (а як?!) іх аб'яднаць у прысады. «Я табе лёхі пачысціла ад пустазелля», — кажа мая сяброўка. Што? Навошта? Я тут новы чалавек! Нікога не ведаю! Мне конча знаць, што тут расце і хто тут жыве, і, наогул, у мяне ёсць улюбёнае пустазелле, я яго не знішчаю! «Ты проста артыстка», — смяецца.

Дом не даваўся, ён чакаў сваіх былых гаспадароў, іхніх дзяцей. Дзіцячыя галасы бліся соннымі матылямі, прачнуўшыся пасля зімы. Не прывыкалася. Расстаўляла свае рэчы, вешала фіранкі, даставала з вандзэлка, унесла лямпу — чыгунная, шчарбатая, пэўна, польскага часу, выхапленая з падмурка ў суседа, куды яе справадзіў разам з арматурай, паставіла за парогам на кухні, не запальваючы. І ўсё! Светла ўваччу, святло пабегла па сценах, высвеціла кожнае бервяно вянцамі, столь, бэлькі над галавой, бы неба вясковае ў хаце. Ступіла першы крок ужо са згодай: я тут буду жыць. Старая лямпа асвяціла маю галаву: пара прывыкаць. Мы нічога не ведаем пра магію старых рэчаў, не ведала я, які скразняк задзімаў яе на маім старым, пакінутым лецішчы.

Упускала пару, цыкл веснавых работ: не перабірала голымі рукамі зямлю, не пільнавала ўсходы, парушыўся цыкл жыцця, як, не раўнуючы, ранняя менапаўза. У доме ўсе ўмовы. Тады я ўзяла місу вады, нагрэтай на сонцы, стала на каленькі, на панадворку выкруціла бялізну і — на сонца, на куст, па-даўнейшаму, каб адчуць энергію, дотык вады, сонца, агню — без пасярэднікаў, так іншы раз ідзеш не да ксяндза, а ў поле, у лес, да ракі.

У якім мейсцы стаіць гэты дом? З вакна другога паверха поле, лес не адзываліся, аніякіх колераў, зрухаў, перамен на працягу ўсяго дня — проста відок у раме.

З вакна першага паверха — толькі неба, зямля хавалася за вялікім плотам. На старым лецішчы ў вёсцы звыкла было бачыць суседнія платы, радочкамі з калкоў, з жэрдзя, падпёртыя там-сям, няроўныя, як почырк старэчай рукой у лісце менавіта да мяне, калі ўспомніш: «Ты тэлефанавала ўчора позна, я толькі сення знайшла твой званок, нешта здарылася?» — палохаецца прыяцелька, яна наязджае ў старую вёску. Не, не, проста пад сэрцам раптам стукне, бы немаўля ў парадзіхі, ці жывыя там мае старыя людзі, і тады хочацца конча некага пачуць, голас, вясковую гаворку, абаперціся на крывы плот і выслухаць сварку, каб не карміла бадзялых сабак. Зайсціся ў хату да старога чалавека, як па пазычыць жывога агню. Крыжыкам нацельным павісла старая вёска.

Набраўшыся моцы, адарвала дошку ў сваім плоце, поле адразу выцягнула ў мяне з-пад ног хаднічок, я кінула дом, пайшла разглядацца.

Пагорак прытка спусціўся ў лагчыну, яна заходзіла шырока, збіраючы з поля ручаі ў вузкае, глыбокае рукаво, аж да вусатага лесу. Ідзеш — ручай раптам ніадкуль, бы спушчаны з рук, светла выплаканы зямлёй. Люблю ручай болей, чым мора. Летам я буду чуць іхні дробны перазвон высока ў небе, у спеве жаўрука. Увосень палосы іржышча пазначаюцца закладачкамі, быццам ты калісьці тут быў і хацеў вярнуцца сюды яшчэ і яшчэ раз да гэтага, упадабанага мейсца.

Падымаешся з лагчыны, вяртаючыся, дом з'яўляецца на пагорку раптоўна, бы ты проста падняўся з зямлі, стоячы на каленьках. Дом з боку лагчыны незнаёмы, таямнічы, дзе ўначы праз адчыненае вакно выплывае шлюбнае ложа, захінёнае зорным покрывам.

Калі табе ўдаецца заснуць толькі пад раніцу, гэта не бяссонне, ты проста закаханая.

Іншы раз мне здавалася, што я губляю час ад часу ключы. Быццам і бульба, тры калівы ад зімы былога гаспадара, зацвіла юлёвым (мой улюбёны колер), і касмея ўзышла, хоць я яе і не сеяла.

Працяг на стар. 15 (9) »

# «Прысядзем на дарожку»

## Вершы з новай кнігі



Сяргей ЗАКОННІКАЎ

### Цёплы пыл

***Майму маленству прысвячаю***

*Што праходзіць*
*Праз увесь мой гонкі лёс?*
*Што найперш успамінаецца заўсёды?*
*Цёплы пыл у каляінах ад калёс*
*На шляху,*
*Што паўстае,*
*Як знак свабоды.*

*З вёскі ціхай*
*Шлях пралёг паміж азёр,*
*Ён рассек*
*Палі,*
*Лугі,*
*Дубровы,*
*Пушчы,*
*Ён наступнаму адтуліну прадзёр,*
*Каб я стаў да волі*
*Чуйным і відушчым…*

*Аглядаючы абсяг жывых гадоў,*
*Што ў сабе неспадзявана назапасіў,*
*Бачу, як брыдуць марудна хадой,*
*Узнімаючы пылок,*
*Каровы з пашы.*

*Крочу ўслед,*
*Прапахлы сонцам, малаком,*
*Дзень стаміў,*
*Бо бегатнёй ушчэнт загушкаў.*
*Мне зара*
*Чырвоным доўгім языком*
*Ліжа рыжую, віхрастую макушку…*

*Цёплы пыл,*
*Як час,*
*Між пальцамі працёк,*
*Ён гаіў не раз*
*Балючы лёсу выверт,*
*Ён сагрэў*
*Мой першы знойдзены радок,*
*І душу да вольнай волі ўрэшце*
*Вывеў.*

### Дыктат

*Усё ўжо сказана да нас,*
*Але радкі дыктуе час.*
*Дыктуе свет, які наўкол:*
*Лясы,*
*Азёры,*
*Рэчкі,*
*Дол.*
*Дыктуе кожны чалавек,*
*Бо ён — загадкаю спрадвек.*
*Дыктуе вораг,*
*Сябра,*
*Брат,*
*Суаўтараў дыктуе шмат…*

*Я прызнаю такі дыктат!*

### Зямля

*Ці папытаўся ты ў сябе калі:*
*«Дык што мяне трымае на Зямлі?»*

*Мая выснова простая зусім:*
*Любові прыцягненне —*
*Над усім.*

*Ёсць войны,*
*Подласць,*
*Катаванні,*
*Кроў…*
*Але непераможная — любоў!*

*З нас кожны ў дол кладзецца,*
*Як вянец,*
*Зямля — людскі пачатак і канец.*

*Усіх яна ва ўлонне прыняла —*
*І вестуноў дабра,*
*І вояў зла.*

*Адпрэчыць прыцягненне не змаглі…*
*Бо мы — зямля,*
*Хоць ходзім па Зямлі.*

### Няўмольны час

*Час — наш няўмольны валадар,*
*З ім фінт хлусні не выгарыць.*
*Кідае ён пальчатку ў твар,*
*І паядынак выйграе.*

*Жыццё няўлоўнае, як дым,*
*У вечнасць вецер ссоўвае,*
*І трэба пагадзіцца з тым,*
*Што ўсе і ўсё —*
*Часовае.*

### ZERN: эксперымент «Вялікі Выбух»

*Нашто вандроўнаму паэту*
*Прыпынак доўгі ў тых краях,*
*Дзе розумы з усёй планеты*
*Даследуюць Сусвету шлях?*

*Навошта пра калайдар звесткі*
*Таму, хто ў Францыю ляцеў,*
*Каб лекі, як хутчэй, прывезці —*
*Шанц для чарнобыльскіх дзяцей?..*

*Карціць вучоным вынік выдаць,*
*Зрабіць у невядомасць крок:*
*Імітаваць Вялікі Выбух —*
*Да Часу і Жыцця штуршок.*

*Але пакуль часцінкам робяць*
*Нязнаны — лоб у лоб — прымус,*
*Ад іх у Ветцы ці ў Нароўлі*
*Канае хворы беларус.*

*То ўдалы ўдар пучкі раскрошыць,*
*То намаганні ўсе дарма…*
*А я кую паэмай грошы,*
*Каб медыцыну падтрымаць.*

*Хоць пальму першынства заўсёды*
*Цікаўным фізікам аддам,*
*Ды не хачу, каб флірт з прыродай*
*Зямлю ператварыў у хлам…*

*Жыццё — нібыта лёгкіх выдых,*
*Як бы расіначка адна…*
*Навошта мне Вялікі Выбух,*
*Калі паўсюль грыміць вайна?*

### Студэнцтва

*Калі мой век пражыты растасоўваць,*
*Па значнасці гады збіраць на веча,*
*Студэнцтва стане светлай паласою,*
*Якая здольная жыццё падсвечваць.*

*Але з вышынь,*
*Дзе рэй вядзе практычнасць,*
*Цяпер лягчэй прыйсці да праўды голай —*
*Усё было даволі рамантычным,*
*Калі не ўлічваць пастаянны… голад.*

### Выбілі лепшых

*Улада не любіць разумных людзей,*
*Ёй больш да спадобы —*
*Грошы,*
*Распуста.*
*Калі на трон запаўзе прахіндзей,*
*То ў наваколлі становіцца пуста.*

*Стагоддзя апошняга каламуць*
*Завершана найвялікшым скандалам…*
*Хоць паўтаралі: «Усіх не заб'юць!»,*
*Але сапраўдных засталося мала.*



### Інтэрв'ю

*Шлях у вечнасць западае лістам,*
*Бо бярэ пачатак ён з зямлі…*
*Абяцалі стрэцца журналісты,*
*Толькі да паэта не прыйшлі.*

*Адкладалі гутарку на потым,*
*Каб цяпер бязгучна мовіць: «Ах!»*
*Ён знікае там — за паваротам,*
*А над ім імгліцца Млечны Шлях.*

### Небу пажаліцца некаму

*Спорненькі дожджык.*
*Вымак пінжак.*
*Неба жальбуе над доляю.*
*Крыўда наўмысная?*
*Можа, няўзнак?*
*Мне разгадаць не дазволена.*

*Нейкі ў прыродзе нябачаны збой,*
*Зроблены ён недарэкамі…*
*Ты можаш плакацца тым,*
*Хто з табой…*
*Небу пажаліцца некаму.*

### Заходняя Дзвіна

*Ёсць у мяне свая рака,*
*Яна цячэ, як кроў у венах.*
*Дзе б я ні быў, што б ні шукаў —*
*Успамінаецца імгненна.*

*Я службу, як яна, нясу*
*У свеце, што ўсё больш лютуе,*
*І нават самы светлы сум*
*Ад грозных думак не ўратуе.*

*Мая віна ляжыць у тым,*
*Што на вачах рака мялее,*
*Што быў пясочак залатым,*
*Ды стаў даўно ўжо клейкім глеем.*

*Цень карабельнае сасны,*
*Водааховныя палосы*
*Шмат год знішчалі дзікуны*
*Пры патуранні безгалосым.*

*А сонечныя берагі*
*Спавіты невыносным смогам,*
*Бо за няясныя даўгі*
*Узяты фермамі ў аблогу…*

*Сініцу маю я ў руцэ,*
*А чым памог сваёй рацэ?*

*Цячэ Заходняя Дзвіна…*
*Расце, расце мая віна…*

### У табе

*Ты — у нязнанасць казачныя дзверцы,*
*Ты — самы дасканалы інтэрнэт…*
*Усё змяшчаецца ў маленькім сэрцы,*
*Хоць за вакном шуміць вялікі свет.*

*Дзень новы*
*Шчодра праўдай не надзеліць,*
*Ён зноў хлуснёй*
*Па мазжачку дзяўбе…*
*А самыя сур'ёзныя падзеі*
*Вось зараз адбываюцца ў табе.*

### Бяззубыя псы

*Снег выпаў,*
*І зноўку бяззубыя псы*
*З дрымоты ляцяць у сваволю,*
*Бо спрактыкаваныя ў нюху насы*
*Учуялі пах звабнай волі.*

*Ля будак утульных*
*Ляжаць ланцугі…*
*Там быць трэба ў час і дарэчы,*
*Дзе зло наразае мярзоты кругі,*
*Каб годнасць людскую нявечыць.*

*На ўскрайку жыццёвай крутой паласы*
*Выдатнай павінна стаць гонка…*
*Ну што, пабрацімы — бяззубыя псы,*
*Яшчэ павалтузім падонкаў?*

### Апошні сон

***«Nox est perpetua una dormienda».***
***(«Нас усіх чакае вечная ноч», — лац.)***

*Мы з вечнай цемры ў белы свет*
*Прыходзім,*
*Каб пагасіць і назаўжды сысці.*
*Кругаварот,*
*Што вершыцца ў прыродзе,*
*Прымае ўдзячна кожны пры жыцці.*

*Ёсць сэнс вялікі ў змене пакаленняў,*
*Каб чалавецтва курс трымала свой —*
*Ад дня невыпадковага стварэння*
*Прастор і час пранізвала стралой…*

*Мае нашчадкі — васілёчкі ў жыце,*
*Жадаю вам*
*Трыльён шчаслівых дзён!..*
*Сваю Зямлю і Волю беражыце…*
*А я пайду глядзець апошні сон.*

### Вышук

*Так павялося ў свеце з даўніны,*
*Што за людзьмі,*
*Якія годнасць маюць,*
*Цікуюць несупынна таптуны —*
*Падслухваюць,*
*Падглядваюць,*
*Здымаюць.*

*Куды б мяне дарогі ні вялі,*
*Хавацца ад вiжоў няма патрэбы.*
*Не страшны злосны вышук на зямлі…*
*Я помню,*
*Што за мною сочыць Неба.*

### Любоў невыведная

*Сяджу пад вярбінаю ніцаю,*
*Гляджу на запылены шлях…*
*Усыпаны часу абсяг,*
*Як зоркамі,*
*Скрозь таямніцамі.*

*Пакінуў любоў невыведную*
*Той век, што пасланы на злом:*
*Усіх адарыў серабром,*
*І мне даў капеечку медную.*



Уладзімер АРЛОЎ

# Радзівілы —

**Выходзіць у свет кніга пісьменніка Уладзімера Арлова і мастака Паўла Татарнікава «Айчына. Маляўнічая гісторыя». Яна найперш адрасаваная дзецям і падлеткам, але прачытаць яе будзе карысна і дарослым: бацькам, дзядулям і бабулям, настаўнікам. Першая частка надзвычай багата ілюстраванага выдання, якое ахоплівае час ад з'яўлення на нашай зямлі людзей да канца XVIII стагоддзя, — выдатны навагодні падарунак для кожнай беларускай сям'і.**

Найбольш багатыя і магутныя роды ў Вялікім Княстве называліся магнатамі. Гэта была наша арыстакратыя. Вельмі часта жыццё дзяржавы залежала ад яе нават больш, чым ад вялікага князя. Шмат хто з магнатаў меў княскі або графскі тытул: Сапегі, Гальшанскія, Хадкевічы, Астрожскія, Слуцкія, Друцкія, Тышкевічы, Алелькавічы.

Да самай багатай ды ўплывовай арыстакратыі не толькі ў нашай краіне, але і ва ўсёй Еўропе некалькі стагоддзяў належаў ліцьвінскі род князёў Радзівілаў. Траплялася сярод іх людзі хцівыя і жорсткія, аднак больш было іншых. Радзівілы далі Беларусі вельмі шмат выдатных палітыкаў, палкаводцаў і дзеячоў культуры, вартых удзячнай памяці і пашаны нашчадкаў.

### «Каралі — у Варшаве, а мы — у Нясвіжы»

Пачынальнікам самага знакамітага беларускага роду стаў Радзівіл Осцікавіч, старэйшы сын баярына Осціка.

Осцік паходзіў з-пад Вільні і быў харуснікам гаспадара Вітаўта ў змаганні за незалежнасць Вялікага Княства. Осцікаў подпіс стаіць пад Тарунскай мірнай дамовай, у якой тэўтонцы прызналі сваю паразу пад Грунвальдам.

Вітаўту паспеў паслужыць і Радзівіл Осцікавіч. Ён займаў пасаду гаспадарскага маршалка, гэта значыць, кіраваў вялікакняскім дваром. Пазней першы з роду Радзівілаў здабыў сабе славу як таленавіты пасол і ваявода. Ён адваяваў у маскоўцаў і вярнуў у склад Вялікага Княства гарады Бранск, Старадуб, Ноўгарад-Северскі і Пуціўль.

За службу дзяржаве вялікія князі шчодра адорвалі Радзівіла Осцікавіча ды ягоных нашчадкаў.

У XVI–XVII стагоддзях яны валодалі некалькімі сотнямі гарадоў і мястэчак і дзесяцці тысячамі вёсак.

Радзівілы гаспадарылі ў Нясвіжы, Слуцку, Клецку, Міры, Койданаве, Шчучыне, Копысі, Капылі, Любчы... Род меў уласныя збройныя сілы, а ў агульнадзяржаўнае войска пасылаў




1000 коннікаў і больш за 1500 пяхотнікаў.

Сталіцаю Радзівілаў некалькі стагоддзяў лічыўся горад Нясвіж, які часам называлі «маленькім Парыжам».

Магутнасць гэтага роду засведчыла тагачасная прымаўка: «Каралі ў Варшаве, а Радзівілы ў Нясвіжы». Кажучы іншымі словамі, Радзівілы былі для Вялікага Княства і ўсёй Рэчы Паспалітай не менш важныя за вялікіх князёў і каралёў.

### Літоўскі Геркулес

Праўнук першага з Радзівілаў, князь Юрай, застаўся ў беларускай гісторыі як абаронца Айчыны ад захопнікаў з усходу і поўдня. Ён перамог маскоўцаў і татараў у трыццаці бітвах.

Сучаснікі так і называлі яго — Віктар (Victor), што ў перакладзе з лацінскай мовы азначае «пераможца».

У 1511 годзе ён разам з слуцкім князем Юр'ем уначы напаў на лагер татарскіх наезнікаў і разбіў вялікі варожы загон. Нашыя ваяры вызвалілі тады тысячы палонных. Праз год разам з Канстанцінам Астрожскім Юрай Радзівіл атрымаў перамогу над стэпавікамі пад Вішняўцом.

Надзейным памочнікам гетмана Астрожскага Юрай быў і ў славутай Аршанскай бітве. Там князь Радзівіл камандаваў ліцьвінскай конніцай на левым крыле нашага войска. Спачатку ён адбіў атаку маскоўцаў, а потым пагнаў ворага прэч. З узнятым над галавой мячом князь, як быццам не кранаючыся зямлі, ляцеў наперадзе сваіх вершнікаў, і маскоўцы ў жаху кідаліся ў Дняпро або прасілі літасці.

Пазней Юрай спыніў пад Крэвам паход маскоўскага войска на Вільню. Тады ж ён дапамог палякам у вайне з Тэўтонскім Ордэнам. Рыцарскі аддзел князя Радзівіла ўзяў Брандэнбург і яшчэ пяць варожых замкаў. Не вытрымаўшы такога напору, крыжакі папрасілі міру.

Калі Канстанцін Астрожскі сканаў, Юр'ю Радзівілу перадалі вялікагетманскую булаву. З новым правадыром беларускае войска вызваліла ад маскоўскіх захопнікаў Гомельскую і Старадубскую землі.

Старажытны герой Геракл, якога называлі таксама Геркулесам, вылучаўся незвычайнай сілаю і здзейсніў дванаццаць славутых подзвігаў. Юр'я Радзівіла часта параўноўвалі з гэтым героем і далі яму ганаровае імя «Літоўскі Геркулес».

Не будзем забывацца, што Літвой тады звалася ўсё Вялікае Княства і ягоная галоўная частка — Беларусь.

У Нацыянальным мастацкім музеі ў Менску вы можаце ўбачыць вялікі партрэт Літоўскага Геркулеса ў поўным рыцарскім узбраенні.

Дачка Юр'я Радзівіла прыгажуня Барбара стала жонкаю вялікага князя Жыгімонта Аўгуста, а сын Мікалай, названы Рудым, як і бацька, увайшоў у гісторыю выдатным ваяводам.

### Мікалай Руды

Мянушку Руды яму далі за рыжыя валасы. Здаўна існуе прыкмета, нібыта людзі з такімі валасамі часцей за іншых робяцца знакамітымі. Мікалай хутка пацвердзіў гэта. Ягоныя вялікі розум і кемлівасць сваякі заўважылі яшчэ ў дзяцінстве.

Хлопец вучыўся ў бацькоўскім палацы, але ад ліцьвінскіх і замежных настаўнікаў атрымаў адукацыю не горшую, чым ва ўніверсітэце. Потым некалькі гадоў ён набываў патрэбны дзяржаўнаму чалавеку досвед пры каралеўскім двары ў сталічным Кракаве. Гэтаксама добра, як і па-беларуску, Мікалай гаварыў на польскай і лацінскай мовах.

Бацька, вялікі гетман Юрай, пачаў браць сына ў паходы з юных гадоў. У дваццаць адзін год Мікалай ужо сам паспяхова камандаваў аддзелам кавалерыі. Ён праславіўся ў новай вайне з Масковіяй, якая пачалася ў 1534 годзе. Конніца маладога Мікалая Радзівіла Рудога асабліва вызначылася ў штурме горада Старадуба.

Пасля бацькавай смерці князь Мікалай застаўся ўладальнікам багатых земляў і маёнткаў, а таксама апекуном малодшай сястры Барбары, у якой памёр муж. Каб заўдавелая сястра не засталася без спадчыны, Радзівіл напісаў ліст гаспадару Жыгімонту Аўгусту... Вялікі князь і княгіня Радзівіл спадабаліся адно аднаму. Яны пачалі сустракацца, а затым пабраліся шлюбам. Тады ўплыў Мікалая Рудога на палітыку Вялікага Княства Літоўскага зрабіўся яшчэ больш. Ад'язджаючы з Вільні ў Кракаў, Жыгімонт Аўгуст прызначыў Радзівіла Рудога сваім намеснікам. Але найбольшую славу князь Мікалай здабыў, стаўшы вялікім гетманам.

Неўзабаве зноў распачалася вайна з Масковіяй, якая прагнула захапіць суседнія з Вялікім Княствам Інфлянты. Даведаўшыся, што сабранае гетманам Мікалаем войска перайшло Дзвіну і рушыла на дапамогу лівонцам, маскоўскія ваяводы спалохаліся і пачалі адступаць. Ліцьвіны гналі іх аж но да Балтыйскага мора.

Пасля таго, як войскі цара Івана Жахлівага захапілі Полацак, над Вялікім Княствам навісла смяротная пагроза. Але ўзімку 1564 года на беразе ракі Вулы, паблізу вёскі Іванск, беларуская конніца Радзівіла раптоўным ударам разбіла ў тры разы большае 25-тысячнае маскоўскае войска. Пасля гэтага захопнікі ўжо не насмельваліся ісці ўглыб Беларусі.

Пазней войска гетмана Мікалая ўдзельнічала ў вызваленні Полацка. Вялікі князь і кароль Сцяпан Батура шмат разоў дзякаваў Радзівілу за добрыя парады і ставіў у прыклад ягоную кавалерыю.

Адзін тагачасны паэт з захапленнем напісаў пра Мікалая Рудога: «Нават калі б у мяне было сто языкоў і сто вуснаў, я не змог бы пералічыць усе бітвы, якія вёў гэты пераможца на варожых палях».

### Мікалай Чорны

Надзейным харуснікам Мікалая Рудога ва ўсіх справах быў стрыечны брат Мікалай Чорны, які атрымаў мянушку таксама за колер валасоў. Ён займаў высокія пасады, кіраваў вялікакняскай Радай і паседжаннямі соймаў, дапамог брату выдаць яго сястру Барбару замуж за Жыгімонта Аўгуста.

У 1550 годзе Мікалай стаў канцлерам — другім у краіне чалавекам пасля вялікага князя. Сябры і непрыяцелі называлі яго некаранаваным уладаром Вялікага Княства. Пра тое, што ніхто не мог запярэчыць канцлеру, казала дасціпная прымаўка: «Дзе Чорны прывяжа карову ў Літве, там яна і стаяць паслухмяна будзе».

За заслугі перад дзяржавай вялікі князь зрабіў канцлера Мікалая віленскім ваяводам і дазволіў захоўваць у нясвіжскім замку Радзівілаў архіў Княства. Амаль кожную пастанову Жыгімонт Аўгуст прымаў толькі са згоды канцлера. За гэта зласлівыя языкі распускалі чуткі, нібыта князь Мікалай пасябраваў з нячыстай сілаю і навёў на вялікага князя чары.

Мікалай Чорны меў шмат ворагаў, але асабліва ненавідзелі яго каталікі. Канцлер, а следам за ім амаль усе іншыя магнаты перайшлі з каталіцтва ў новую веру, якая называлася кальвінізмам. Кальвіністы былі хрысціянамі, але не прызнавалі ўлады рымскага папы і выступалі супраць велізарнага багацця каталіцкай царквы. Яны хацелі зрабіць веру больш простай і чыстай — такой, як у часы Ісуса Хрыста і ягоных вучняў.

Радзівіл Чорны адчыняў кальвініцкія школы, храмы, друкарні. У Нясвіжскай друкарні выдаваў кнігі паслядоўнік Францішка Скарыны асветнік Сымон Будны. На сродкі Радзівіла выйшла славутая Берасцейская Біблія.

Канцлер і ягоныя аднадумцы хацелі, каб ліцьвіны-каталікі і ліцьвіны-праваслаўныя злучыліся ў адной царкве. Гэта абараняла б Вялікае Княства і ад каталіцкай Польшчы, і ад праваслаўнай Масковіі. Мікалаю Чорнаму не хапіла часу ажыццявіць свой намер. Але, як вядома, праз некалькі дзесяцігоддзяў гэта зрабілі яго паслядоўнікі на Берасцейскім аб'яднаўчым царкоўным саборы.

### Незвычайны лёс княгіні Барбары

Гэтай жанчыне вялікага розуму і чароўнай красы выпаў дзіўны і цяжкі лёс.

Калі красуня Барбара адзначыла сямнаццаты дзень нараджэння, бацькі выдалі яе замуж за нашмат старэйшага навагрудскага ваяводу Станіслава Гаштаўта. Ваявода неўзабаве памёр, і маладая ўдава засталася самотнічаць у родавым мужавым замку ў Геранёнах.

Калі скончылася жалоба, Барбара пачала прыязджаць у сталічную Вільню. Аднаго разу на балі яна і пазнаёмілася з вялікім князем.

Неўзабаве ён прыехаў на пару дзён у Геранёнскі замак, а

# ваяры і палітыкі

прагасцяваў там ажно некалькі тыдняў. Жыгімонт патлумачыў, што хаваўся ад чумы, якая забрала шмат жыццяў у сталіцы. Аднак у сапраўднасці ён закахаўся ў Барбару.

Сталася так, што вялікі князь па нейкім часе таксама заўдавеў. Тады Барбара жыла з маці ў Вільні. Жыгімонт Аўгуст загадаў пабудаваць патаемны пераход з свайго палаца ў дом Радзівілаў.

Барбарына маці спрыяла маладым, бо марыла ўбачыць дачку ў кароне вялікай княгіні і каралевы. А вось ейныя браты Мікалай Руды і Мікалай Чорны папрасілі гаспадара Вялікага Княства, каб ён «не чыніў іх дому няславы». Князь паабяцаў больш не прыходзіць, але ўжо страціў да кахання волю. Кожны дзень расстання з Барбарай, якую Жыгімонт Аўгуст ласкава называў дарагой Басяй або Басенькай, быў для яго пакутай.

Аднаго разу ўначы ён зноў выправіўся на спатканне, ды яго сустрэла не каханая, а яе раз'юшаныя браты. Яны запатрабавалі або ажаніцца з іхняй сястрою, або ніколі больш з ёю не бачыцца. Жыгімонт адважыўся на адчайны крок і ў тую ж ноч таемна абвянчаўся з каханай Барбарай.

Чутка пра гэта дайшла ў Кракаў да бацькоў вялікага князя — караля Жыгімонта Старога і каралевы Боны. Яны былі супраць шлюбу, бо лічылі, што род Радзівілаў хоць і дужа знатны, але ўсё роўна ніжэйшы за вялікакняскі і каралеўскі. Каралева Бона залілася слязьмі і адразу зненавідзела нявестку.

Аднак Жыгімонт Аўгуст і ягоная абранніца перамаглі ў барацьбе за сваё каханне. Барбара Радзівіл атрымала ў Кракаве каралеўскую карону.

На вялікі жаль, шчасце было нядоўгім. Ужо праз некалькі дзён Барбара, якой толькі што споўнілася трыццаць гадоў, цяжка захварэла і не падымалася з ложка. Муж праводзіў каля яе дні і ночы, ды нічым не мог памагчы. Хадзіла пагалоска, што каралева Бона падаслала да нявесткі свайго сакратара з атрутай.

Выконваючы жончыну волю, Жыгімонт пахаваў Барбару ў любай яе сэрцу Вільні. На памяць пра каханую ён загадаў пабудаваць там касцёл святой Барбары.

І праз шмат гадоў Жыгімонт Аўгуст не мог забыць любую Басю. Паданне апавядае, што ён паклікаў да сябе самага знакамітага ў краіне чараўніка-чарнакніжніка пана Твардоўскага, каб той паказаў яму ў люстэрку хоць бы цень Барбары.

Убачыўшы яе аблічча, вялікі князь у роспачы закрычаў: «Басенька мая!» Люстэрка разбілася, пакой напоўніўся дымам. Ад таго часу прывід Барбары, які называюць Чорнай Паннай, нібыта з'яўляецца ў Нясвіжскім замку і яго ваколіцах.

## Сіротка і егіпецкія муміі

Гэты князь быў сынам Мікалая Радзівіла Чорнага, а мянушку атрымаў ад самога гаспадара Жыгімонта Аўгуста. Выпраўляючыся да вялікакняскага двара, бацькі аднаго разу ўзялі з сабою і зусім маленькага сыночка Мікалая Крыштопа. Калі Жыгімонт Аўгуст падышоў да яго, Міколка жаласна плакаў на маленькім ложачку. Гаспадар ласкава загаварыў з ім і са шкадобаю назваў сіротка́м.

У гады дзяцінства Сіроткі ў Нясвіжы жылі і працавалі вядомыя еўрапейскія вучоныя, якіх сабраў да сябе Мікалай Чорны. Яны і сталі для хлопчыка першымі настаўнікамі. Потым ён паспяхова спасцігаў навуку ва ўніверсітэтах далёкіх Страсбурга і Цюбінгена.

З юнацтва Мікалай Сіротка любіў вандраваць. Ён пабачыў італійскія гарады Рым, Мілан і Падую, быў у швейцарскім Цюрыху. Знатнасць роду і багацце дазвалялі яму сустракацца з рымскім папам і каралямі, выступаць на самых славутых у Еўропе рыцарскіх турнірах.

Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, князь Мікалай на чале ўласнага аддзелу ваяваў з маскоўскімі захопнікамі. Пры вызваленні Полацка войскам Сцяпана Батуры Радзівіл быў паранены, а пад час аблогі Пскова атрымаў яшчэ адну цяжкую рану. Каб хутчэй акрыяць, Мікалай Сіротка намерыўся здзейсніць вандроўку ў Святую Зямлю і шчыра памаліцца там, дзе калісьці навучаў людзей Ісус Хрыстос.

З Нясвіжа Сіротка накіраваўся ў італійскі горад Венецыю, а далей паплыў на караблі морам. Па дарозе ў Ерусалім і назад падарожнік наведаў астравы Крыт і Кіпр, а таксама Сірыю і Егіпет. Ён аглядаў старажытныя гарады і помнікі, цікавіўся прыродай, звычаямі, гаспадаркай тых далёкіх краін і народаў. Паўсюль князь занатоўваў назіранні ў дзённіку.

На зваротным шляху карабель, на якім плыў Сіротка, трапіў у страшны шторм. Князевы спадарожнікі вырашылі, што Бог гневаецца, бо Радзівіл вязе з сабой егіпецкія муміі для нясвіжскай музейнай калекцыі. Муміі давялося выкінуць за борт, але дзве з іх князь усё ж прыхаваў.

У Нясвіж ён прывёз таксама шмат іншых старажытных рэчаў, а таксама дзіўных для нашых краёў жывёлін і птушак: малпаў, леапардаў, чыюкоў-папугаяў. Аднак самым галоўным багаццем былі падарожныя нататкі. Дзякуючы ім князь напісаў на лацінскай мове кнігу, якая скарочана называлася «Пэрэгрынацыя» («Падарожжа»).

Кніга ў знакамітага вандроўніка атрымалася такой цікавай і карыснай, што дваццаць разоў выдавалася на розных еўрапейскіх мовах, у тым ліку на беларускай.

Мікалай Сіротка адмовіўся ад бацькавай кальвіністкай веры і стаў каталіком. Ён нават скупляў і загадваў паліць выдадзеную бацькам Берасцейскую Біблію. Але князь заставаўся патрыётам роднай краіны. Ён быў паслом вялікага князя на царкоўным з'ездзе ў Берасці і спрыяў царкоўнай вуніі. Каля Нясвіжа ён заснаваў вуніяцкі манастыр.

Землякі найперш памятаюць і шануюць Радзівіла Сіротку за тое, што ён перабудаваў родны Нясвіж і зрабіў яго адным з найпрыгажэйшых гарадоў не толькі дзяржавы, але і ўсёй Усходняй Еўропы.

Добра распараджаючыся велізарным багаццем, князь запрашаў да сябе таленавітых дойлідаў, мастакоў і майстроў розных спецыяльнасцяў. Якраз у тыя часы ў Нясвіжы з'явіліся славутасці, якія сёння вабяць да сябе сотні тысяч турыстаў. Гэта замак, ратуша, Фарны касцёл, які пабудаваў у ўзор аднаго з самых знакамітых рымскіх храмаў архітэктар Ян Марыя Бернардоні.

У Сіроткі плённа працаваў таленавіты мастак Тамаш Макоўскі. Ягоныя творы дапамагаюць нам уявіць, як чатыры стагоддзі таму выглядалі Нясвіж, Вільня, Горадня, Клецак. Макоўскі быў і выдатным картографам — майстрам у складанні геаграфічных карт. На замову Сіроткі ён стварыў першую дакладную карту Вялікага Княства Літоўскага, якая і цяпер лічыцца адным з шэдэўраў еўрапейскага картаграфічнага мастацтва.

## «Хачу Айчыну шчаслівай бачыць»

Князь Януш Радзівіл, як і ягоныя продкі, быў патрыётам Вялікага Княства і змагаром за яго незалежнасць ад Польшчы. Яшчэ ў юнацтве ў спрэчцы з польскімі пасламі ў Вільні Януш сказаў ім, што прыйдзе час, і ліцьвіны будуць выкідаць хціўых палякаў праз вокны.

Князь вучыўся ва ўніверсітэтах Нямеччыны, Галандыі, Францыі ды Англіі. Апрача глыбокіх ведаў у розных навуках, ён меў надзвычайны вайсковы талент. У сорак гадоў стаў віленскім ваяводам, а затым і вялікім гетманам. «Спачатку хачу Айчыну шчаслівай бачыць, а потым дом родны», — казаў князь Януш.

Якраз тады Расея зноў напала на Рэч Паспалітую. Уся дзяржава глядзела на Януша Радзівіла з надзеяй, бо на яго плечы лёг цяжар яе галоўнага абаронцы. У гетмана было толькі дзесяць тысяч жаўнераў, на якіх ішло амаль 100-тысячнае расейскае войска.

Першую бітву ворагу Януш даў у жніўні 1654 года пад Шкловам. Ліцьвіны святкавалі бліскучую перамогу: яны страцілі 700 вояроў, а маскоўцы ледзь не ў дзесяць разоў болей. Але ўсё роўна на аднаго ліцьвіна прыпадала па дзясятку захопнікаў. Царскім ваяводам удалося ўзяць корпус Радзівіла ў абцугі. Блізу тысячы нашых жаўнераў палегла, а сам вялікі гетман быў паранены.

Царскія войскі захапілі большую частку Беларусі разам з Вільняй. Трэба было ратаваць Бацькаўшчыну.

Не маючы дастатковай збройнай сілы, каб змагацца з расейцамі, у 1655 годзе Януш Радзівіл падпісаў у Кейданах пагадненне пра вунію Вялікага Княства Літоўскага з Шведскім каралеўствам.

Такім чынам ранейшая вунія з Польшчай зрабілася несапраўднай.

З дапамогаю шведскай арміі князь Радзівіл разлічваў разбіць маскоўцаў і ўмацаваць самастойнасць Княства. Аднак супроць гетмана-патрыёта ўзбунтавалася частка войска.

Вунія не ажыццявілася, а сам Януш падазрона хутка памёр — напэўна, пастараліся ягоныя ворагі.

З удзячнасцю князя згадвалі не толькі верныя паплечнікі-ваяры. Студэнтам-ліцьвінам ён даваў стыпендыі на навучанне ў еўрапейскіх універсітэтах. На сродкі вялікага гетмана Януша Радзівіла будаваліся храмы і школы.

Ад ягонага імя паходзіць назва славутага Радзівілаўскага летапісу, уладальнікам якога быў князь Януш.




Малюнкі Паўла Татарнікава

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 12 (124) | 23 снежня 2016 | № 49 (514) Новы час

# Супраць плыні

## Вершы розных гадоў



Віка ТРЭНАС



Малюнак www.powerofpositivity.com

***

*Маланка трапляе ў квітнелае дрэва*
*і робіць мёртвым яго.*
*У шторм карабель захлынаецца хваляй*
*па волі няшчадных багоў.*

*Як я, верабейка па крошкі любові*
*ляціць ад страхі да страхі.*
*Як я, немаўлятка расплочвацца мусіць*
*за ўласнага роду грахі.*

*Дык вось, ажыве амярцвелае дрэва*
*і ветразь раздзьме карабель.*
*Дык вось, загняздуе бяздомная птушка,*
*бо кожны сам за сябе.*

### Я ў краіне цудаў

*чэзлі вочы ад вясновае вабноты*
*наваструў свае шыпы калючы снег*
*ўсё сумнеўнае магчыма па вясне*
*неспадзеўку гэты свет прысніцца мне*
*ажывае мёртвы след ды толькі зноў ты*
*не захочаш пазбаўляцца адзіноты*
*з ласкі ветру думак колішніх павеў*
*ззяе ранішняй расою на траве*
*і блукае па лязе гітарных вен*
*разам з пальцамі сумнеў і стогнуць ноты*

### Уяўленне

*Сабака спужаўся поўні*
*У жыцця пасівелі скроні*
*Навошта нам ведаць хто*
*Прымушае расці траву*
*Але калі я бачу ГЭТА*
*Схіляюся перад Сусветам*
*І намаляваны прастор*
*Уяўленнем ірве галаву...*

### Апошні

*Твой першы, як мой апошні,*
*І зноўку ўсмешка поўні,*
*І смак у паветра горкі...*
*Хадзем,*
*пахаваем забітыя зоркі.*
*Дзіўна, ты ведаеш, як,*
*У завулку крадзецца маньяк,*
*Толькі не ведаеш, пра што...*
*Бачыш,*
*яго цень ліжа нашу столь.*

### Зямля анёлаў і самагубцаў

*стаю на даху, гляджу ў далеч*
*застылы водгук былой вайны*
*мы — дзеці, зробленыя са сталі*
*мы — проста сны*
*як заінеюць мае павекі*
*шалёны крык падштурхне мяне*
*паміж душою і чалавекам*
*крывавы снег*
*ва ўлонне маці змагу вярнуцца*
*зямлі спакутаваным дзіцём*
*вучыць анёлаў і самагубцаў*
*любіць жыццё*

### Вязні

*як вязні некалькіх прыступак*
*нясмела прыпыняем крок*
*нябёсы ахінае смутак*
*нябёсы абдымае бог*
*калі бяжыш, не спатыкніся*
*сляды на травеньскай траве*
*пакуль са мной жыве ў кнізе*
*самотны верш*

### Памяці Ігара Канановіча

*Дружа, няма нічога лепшага*
*за жыццё —*
*проста зямлю, проста ваду*
*і проста паветра.*
*Гэта не стэрэатып і не вера —*
*гэта факт, у кожнай драбніцы*
*якога паэзія.*

*У кожным імгненні якога —*
*Божая тэза,*
*надзея на штосьці наступнае*
*ды інакшае.*
*Ты нашая страта,*
*ты няспраўджанасць нашая.*
*Ігару, мне шкада.*
*Мне вельмі шкада.*

### Супраць плыні

*Мора сіняе-сіняе ў шторм.*
*Да чарнаты.*
*Гэта вельмі няпроста —*
*з ім перайсці на «ты»,*
*Загайдаўшыся ў такт*
*перапуджаным хвалям.*

*Гэта страшна, як быццам*
*з глухой нематы вырваць крык,*
*Свет нанова адкрыць*
*І адчуць, што грымотныя*
*хвалі бязгучнымі сталі.*

*Мае ўсіх на прыкмеце —*
*мора танных не любіць пантоў,*
*Мора кожнага ставіць на месца.*
*Поруч з ім мы — ніхто,*
*мы адной падуладныя мэце —*
*Плысці супраць цячэння.*
*Плысці супраць цячэння жыцця.*

***

*Няма чаго чакаць.*
*Няма як ворагаў адрозніць*
*ад сяброў,*
*Няма з кім выпіць за яго здароўе.*
*Навек не назбіраць.*
*Не тое ўсё: і грошы, і майно —*
*усё пустое.*
*Адно кустоўе —*
*Ні душы ў прамерзлым парку.*
*І ледзь чутно, як ніткі лёсаў*
*круцяць паркі.*

***

*Атлантычны. Паўночны.*
*Напоўнены да краёў*
*Чэрвеньскім сонцам*
*і крыкамі чаек.*
*Такі, якім мне ўяўляецца*
*наша любоў:*
*Моцная, гордая,*
*між радасцю і адчаем.*
*У невядомасць, у мора ці неба —*
*абы не дома,*
*Адчальваем.*

***

*калі ты не расчараваўся і выжыў,*
*хаця беглі па тваім следзе выжлы;*
*калі, гледзячы ў вочы ваўчысе,*
*дараваць навучыўся;*
*ведай: зменіцца ўсё,*
*што хуткаплынна,*
*і не паварочвайся спінай.*

*ні да людзей, ні да звяроў,*
*ні да чужых, ні да сяброў.*

***

*Спакой, і доўгая дарога,*
*ад сноў ключы —*
*І мы за пазухай у Бога,*
*і не ўцячы*
*Ад лёсаў сумных,*
*нашых сэрцаў чуйных,*
*Якім адно —*
*Трымацца разам, біцца ў змроку*
*побач, ісці на дно.*
*Каб дараваць, рабіць за спробай*
*спробу,*
*Каб выплываць.*

### Смак адчаю

*адчуць смак незвычайнага адчаю*
*ад трапных стрэлаў*
*рыфмамі ў цішыню*
*і пазбавіцца жадання*
*крануць цябе за руку*
*і захлынуцца пачуццём*
*непапраўнае страты*
*у гняздзе маёй душы*
*растуць птушаняты вершаў*
*час стаць дарослымі і пакінуць*
*прытулак кульгавае любові*
*я не гандлярка, каб падводзіць*
*рахункі з жыццём*
*на скамечанай паперчыне*
*свайго лёсу*
*але так доўга я не стаяла*
*на адным месцы ніколі*
*але нікому я не глядзела ў вочы*
*так доўга*

### Віжы

*ты думаеш — зласліўцы і віжы*
*ў якіх*
*няма ні лёсу, ні віроў сваіх,*
*ні гнёздаў*
*прыйшлі ў спадзеве выжыць*
*рэжуць слых*
*бы чэргі аўтаматныя,*
*радкі чужых прагнозаў*

*ты думаеш — схавацца ці ўцячы*
*або*
*замоўкнуць —*
*ды захрасла ў горле горыч*
*для вусцішы пакуль няма прычын*
*хай сціхне боль*
*прагорклы голас твой*
*не зрушыць горы*

*не торгайся —*
*крычаць не давядзецца*
*бо куля навылёт прашые сэрца*

***

*Гэта пекла на зямлі —*
*дзе мы ёсць, дзе мы былі.*
*Дзе мы будзем — там не светла,*
*Там нам пекла.*
*Спапялімся — станем тлом —*
*Спеліцца ўнутры святло.*

***

*Мы не хочам паверыць у нашыя сны,*
*і тады прыходзіць бяссонне;*
*Мы закладнікі шуму,*
*і нам не стае цішыні.*
*Мы заўжды не адны,*
*дома мы пачуваемся,*
*быццам на зоне.*
*Мы сярод безыменных,*
*і за намі цікуюць яны.*
*Толькі ў момант,*
*калі мы заплюшчваем вочы,*
*Ноч становіцца днём,*
*дзень змяняецца ноччу,*
*І тады сустракаемся тут,*
*за ўскрайкам зямлі.*

***

*сэрца гаворыць:*
*выберы шлях любові,*
*бо ліхам працягнецца злосць.*
*сэрца адрозніць, хоць абернешся*
*ты любоўю,*
*якая насамрэч ты ёсць.*
*рупіцца сэрца, каб сышоў*
*з дарогі ў нікуды*
*той, хто спасціг не адзін*
*пацалунак Іуды,*
*той, хто адчуе нарэшце*
*сэрца сваё.*

***

*Мы хапаем ратамі паветра,*
*быццам рыбы, на бераг выкінутыя.*
*Толькі справа ўся ў тым,*
*што не морам, а самі сабой*
*мы адрынутыя.*

*Толькі гора ўсё ў тым,*
*што сумневаў, быццам камення — горы.*
*Мы заплюшчваем вочы*
*і прадаем свой гонар.*

*І адзінае, чаго мы не здамо без бою,*
*Чаго вораг не возьме цаной любоў —*
*Нашай любові.*

### На каляды

*у вялізным насценным люстры*
*я ўбачыла цень заратустры*
*сны спаўзаліся мне на плечы*
*ад сябе так няпроста збегчы*
*а паэту не трэба многа*
*толькі стаць невялічкім богам*
*у ягоным цяжкім дыханні*
*стогне боязь мяне параніць*
*мысляры ля святочнай елкі*
*патаналі ў моры гарэлкі*
*родных вуснаў святая здрада*
*нараджэнне святла. Каляды*

# Правінцыйная рэальнасць: «Шоу працягваецца!»

**Айчынная сучасная літаратура перажывае глыбокі крызіс.**



Яна строга падзелена на беларускамоўную — беларускую літаратуру — і рускамоўную, якую па непаразуменні называюць «русская литература».

Калі ў паэзіі ёсць нямала годных прадстаўнікоў, то ў прозе назіраецца дэфіцыт таленавітых аўтараў і твораў. Гэта адносіцца і да беларускай літаратуры.

Да ўсяго ж літаратура строга структураваная. Відавочна вылучаюцца праўладны сектар і незалежны. Праўда, праўладныя пісьменнікі саступаюць апошнім. Менавіта твор «вольнага» пісьменніка дзіўным чынам патрапіў да мяне. Аказваецца, Зміцер Вішнёў, галоўны рэдактар выдавецтва «Галіяфы», прапануе крытыкам і пісьменнікам бясплатна кнігі, каб яны напісалі рэцэнзіі. Так я атрымаў дэбютную кнігу «Шоу працягваецца!» пісьменніка з Талочына Сяргея Плескача і ўважліва прачытаў яе. Твор пазначаны як аповесць.

Пачаўшы чытаць, я ледзь было не расчараваўся: аграгарадкі, аграхолдынг, галодныя каровы, нецелі, свінаматкі... Аднак з другой часткі меркаванне змянілася...

Асноўныя дзеянні адбываюцца ў беларускай правінцыі, невялікім раённым цэнтры Волацку. Хоць аўтар і назваў гарадок сугучным з Полацкам імем, але геаграфічна ён, падобна, блізіцца да Талочына. Пра гэта кажа другая частка, якая прысвечана аўтатрасе М1 і прадстаўніцам старажытнай прафесіі, якія зарабляюць на ёй немалыя грошы.

Аўтарскіх ацэнак практычна няма. А дадзенасць у глыбінцы ўжо даўно не на карысць вярхоўнай улады, якую кампраметуюць мясцовыя «князькі». Менавіта такога і паказвае пісьменнік — Анатоля Цімафеевіча Зайкоўскага, намесніка старшыні райвыканкама. «На яго дужых плячах і пенсіі, і культура, і адукацыя, і медыцына. Самае ж галоўнае — ідэалогія».

Анатацыі ў кнізе няма, але я знайшоў яе ў аўтарскім выкананні.

«Застаўшыся без працы, настаўнік Віктар Мікалаевіч Мірановіч, як і большасць жыхароў мястэчка, у якім ён жыве, выпраўляецца на заробкі ў Маскву, дзе не без цяжкасцяў у рэшце рэшт здабывае дастаткова грошай на зваротны білет... Па вяртанні дадому Міранович адносіць некалькі сваіх вершаў у рэдакцыю раённай газеты. Ягонае ўменне рыфмаваць словы ды прыстойна цытаваць класіку прыводзіць у поўнае захапленне намесніка галоўнага рэдактара Алеся Садко, які тут жа прапануе настаўніку неспадзяваны ганарар: сумеснае спажыванне моцных напояў... Здавалася б, да якіх наступстваў могуць прывесці бяскрыўдныя трызненні нецвярозых творчых натур?»

Ужо з гэтага тэкста вынікае, што ў творы досыць гумару. Так яно і ёсць. Часам проста не стрымацца ад шчырага смеху. Памятаю, я так чытаў толькі Ільфа і Пятрова...

Асабліва адзначу стыль і мову. Практычна ўвесь твор чытаецца лёгка. Удалы гумар, уласцівы менавіта беларусам, які найбольш зразумелы толькі на мове, дастаўляе сапраўдную асалоду. Само апавяданне можна параўнаць з прозай Андрэя Федарэнкі...

Кніга С. Плескача не толькі пра Віктара Міpановіча. Не менш важная і асоба Алеся Садко, карэспандэнта мясцовай газеты, які ператварыўся ў горкага п'яніцу, але не пазбыўся лепшых чалавечых якасцяў.

Яго жонка, Вольга Пятроўна, таксама, як і Віктар, настаўніца беларускай мовы і літаратуры. Яна надзейная апора сям'і. Такія жонкі сустракаюцца рэдка. Вольга мужа «не пілiла, ніколі і нічым не папракала... Вольгу заўсёды адрозніваці ад пераважнай большасці жанчын прыродная разважлівасць і вытрымка».

Аўтар умела апісвае герояў. Вельмі аб'ёмна выпісаны галоўны ідэолаг раёна А. Зайкоўскі. Вось, напрыклад, як паказана асноўная яго сутнасць (аўтар параўноўвае героя з партыйным доўгажыхаром Молатавым:

«Анатоль Цімафеевіч жа быў тыповым камуністам новай фармацыі: кар'ерыстам і прыстасаванцам. Таму ў Волацку пытанне аб тым, хто будзе працаваць намеснікам старшыні райвыканкама ў выпадку фашысцкай акупацыі, насіла выключна рытарычны характар: Зайкоўскі прагнецца хоць пад кітайцаў, прынцыповы ён наш, прынцыпова і прагнецца».

Варта прызнаць, што ўлада выбудаваная па тыпу каралеўскай, абапіраецца менавіта на такіх флюгераў-зайкоўскіх, для якіх патрыятызм — мацерныя слова. Вядома, фашысцкай акупацыі не будзе, але да «зялёных чалавечкаў» улада ўжо ставіцца сур'ёзна.

У творы С. Плескача сабрана нямала цікавага. Атрымаўся нейкі зрэз мястэчковай, правінцыйнай рэальнасці. Напрыклад, паказана стаўленне да пісьменнікаў. І не толькі ў наш час. Лёгка адгадваецца віцебская галоўная пісьменніца. У кнізе яна дырэктар Дома культуры Тамара Аляксееўна, якая ўзначальвае літаратурнае аб'яднанне мясцовых пісьменнікаў.

Упрыгожваюць кнігу філасофскія адступленні, развагі аб жыцці. Здаецца, што твор у нейкай ступені аўтабіяграфічны. Ва ўсякім выпадку, аўтара можна атаясамліваць з галоўным героем: адукацыя, месца жыхарства; дэбютная кніга...

Несумненна, для дэбюту гэта выдатная праца. Першая частка атрымалася няроўнай. Яна неяк натужліва чытаецца. Гэта прыкметна па паводзінах Віктара. Акрамя таго, адразу цяжка было «распазнаць» аўтарскі тэкст, за які лёгка прымаюцца думкі Віктара. Падаецца лішнім упамінанне нашых сучасных «зуброў» літаратуры.

У выходных дадзеных адзначана, што твор з'яўляецца аповесцю. З гэтым цяжка пагадзіцца. Усё ж такі аповесць імкнецца да хранікальнага сюжэту. У дадзеным выпадку, мне здаецца, гэта ўсё ж апавяданне. З элементамі сатыры, а то і сатырычнае.

Можна павіншаваць Сяргея Плескача з удалым дэбютам. Ёсць верагоднасць, што на пісьменніцкім небасхіле краіны (а не раёна, вобласці) запальваецца новая зорачка. Наколькі яна стане яркай і вялікай, залежыць ад аўтара.

**Алесь Новікаў**

# Вышыванкі*

**« Заканчэнне. Пачатак на стар 10 (4)**

Але, напаткаўшы суседку, даведваюся, што нашы веснічкі ад вуліцы трэба пераносіць, бо яны на ейнай зямлі. І наогул слівы ля плоту валяцца ім у агарод і прарастаюць, ім турботы высякаць потым. А чаму не сабраць сабе і не з'есці? Пры мне тыя слівы адцвілі першы раз. Варожасць да былога гаспадара перайшла да мяне, як радавое.

Потым быццам чорт пагнаў, як на тое, пайсці па вёсцы, каб купіць кветак у букет, збіраліся прыехаць госці, а ў мяне, акрамя бульбы, нічога яшчэ не цвіло. З вуліцы ўбачыла: сад буяў. Гаспадыня адмовіла, правяла за варотцы на вуліцу, падняла мне кветку ля куста сінегалоўніка, што вецер адвіхнуў да зямлі. Можа, у гэтай вёсцы і ўся мне суседская павага і ўсё маё тут мейсца, што пры дарозе?!

Рэдка бачу на вуліцы старых людзей, няма з кім размаўляць, губляю мову. Я не чую смаку ў гаворцы, калі гавару з чалавекам, які вывучыў мову па кніжцы, тое самае, што з перакладчыкам бярэш у чалавека інтэрв'ю.

Дождж, вецер, стаю, гляджу на вуліцу ў шчыліну ў плоце, абшукаўшыся, куртка sekond з чужога пляча, мужчынскія галёшы, каб можна было залезці ў іх у сабачых шкарпэтках на скорую руку, на скорую нагу. Вось і ўсё маё тут вылюддзе.

Нічога не міла. Вялізны трактар ад'ехаў ад суседзяў, буксуючы, за ім — малады мужчына, пэўна, гаспадар. Ён раптам спыняецца, здароўкаецца. «А мяне завуць Валодзя», — кажа. Мне нічога не заставалася, як вылезці на святло з варожай схованкі на вуліцу, адазвацца. Ён таксама нядаўна купіў тут дом. Гаварылі, шкадавалі, што гасцінец недалёка, але ж вецер іншы раз адносіць галасы машынаў у поле. А людзі? Людзі як людзі, усё як найлепей. Праўда? Праўда! — запэўніваю яго. Я ўжо незаўважна для самой сябе, умомант усё дараваўшы, перайшла мяжу адчужанасці і гатова была абараняць СВАІХ АДНАВЯСКОЎЦАЎ.

Порчу як рукой зняло, я зноў маю ключ ад новага дома. Цяпер я не сумнявалася, што майго анёла-ахоўніка завуць «Владиміръ». Вы ніколі не ведаеце, куды скіруе вас лёс і нават настрой, і наогул, калі чалавек бачыць шыкоўны сон, вы яго не будзіце.

Я ўжо люблю Сілічы. Мяне могуць пераняць, запярэчыць: там і вады блізкай няма, і лес далекавата, і дом, як на віры, залева з поля. А я ўстала, адчыніла дзверы на панадворак і адразу ў лужыну, і прыкра, і нават нейкае замілаванне, выбачэнне, бы гэта «надула» мне пад ногі маё дзіця ці дарагое шчаня, я не залежу ад пагоды.

Тут кожны дом асаблівы. Можна шпацыраваць па той самай вуліцы бясконца і кожны раз нанова разглядаць дамы, бы твары, якія змяняюцца ад настрою, ад пагоды, ад сонца. Нехта яшчэ толькі будуецца там, напроці азярца, а ўжо ля дарогі, на схіле маладзі ельнік, шыпшына. Падымаецца дом, гадуюцца дрэвы, кожнае ў сваім рытме і ў зайздроснай згодзе — на ўцеху. Крыху збоку ад вёскі дом, дом без падмурка, стаіць, як басанож усё роўна, амаль шале, хочацца падыйсці бліжэй, пагладзіць па сцяне, як па шчацэ, такі спраўны, удалы, страха нізка, на вокны капелюшом. О, тут страху падфарбоўвалі. Старэйшыя дамы ў суладнасці з новымі, у кожнай фарбе, рысачцы, аздобе любаванне, інтарэс, ахвота жыць. Іншы раз на вуліцы анікога не ўбачыш, ды я яшчэ амаль нікога не ведаю, а вяртаешся дамоў, як нагаварыўшыся ў ахвоту.

Вось, праўда, ідучы з крамы, бачу — насустрач мне жанчына немаладая, у хустцы па-сялянску, падыходзіць бліжэй, усміхаецца здалёк, быццам ідзе па вуліцы менавіта да мяне, вітаецца. Я здзіўлена і ахвотна адказваю. У вачах ейных спакой, суцяшэнне, што ты тут ужо цяпер не прышлы чалавек, свойскасць, той позірк, які вяртае ў дзяцінства, калі ты быў пад боскай апекай сярод чужых. Болей я яе не бачыла. Калі б мне калі надарылася, то я ў гэтым мейсцы паставіла б каплічку.

Хто ў небе, а хто на зямлі, пэўна, у кожнай вёсцы ёсць свая багавіца.

...Іншы раз едзеш з горада, спяшаешся, раптам схаланешся: мы што... праехалі кавярню? Не? Каб хоць азірнуцца, як прывітацца па дарозе да дома.

### Драбніцы не знайшлося

Ніколі не любіла, не чакала: прыехаў з горада ў нечым белым, картовым, ці, можа, з лёну, як дачнік. У хату не заходзіў, а сказаў звыкла, па-гаспадарску: да ракі пойдзе, купацца — ручнік праз плячо. Даўно не быў.

Стаю, гляджу ўслед, гляджу даўжэй, чым дарала б. Поле роснае падалося шырэйшым, сцішаным: касец?! І мой позірк, жаночы, вечны позірк услед мужчыну.

Ён не азіраўся.

Ішоў павольна, цела пластавалася ў паветры, адчуваючы прастору, быццам ужо плыў па рацэ. Высокая трава, як у брод перайсці.

Пойдзе купацца, болей нічога, быццам ён тут і жыве, і гэтак туга нарабіўшыся, што толькі вада адцягне, і мы, быццам векам жывучы разам, ужо нагаварыліся аж досыць.

Ну і яно сабе, зараз вернецца, трэба прыгатаваць каву? Ці гарбату? З пакоя ў пакой, а можа лепей у садзе на стол сабраць! Адчуванне, што трапіла ў нейкую даўно не паспытаную залежнасць, у ягоную глыбокую плынь. Не ўспомніць, што дагэтуль рабіла, куды, як заўсёды, спяшалася.

«Як вада?.. Ты ўжо ад'язджаеш?» — пытаюся, яшчэ будучы ў стане векавога спакою, як старажытная вежа пад аховай дзяржавы.

Здымаю, як не выкручваючы ў руках, сукенку, бы нарэшце выбраўшыся з вады на бераг у чым была, пераапранаюся ў горшае. І да работы! Каб вярнуцца да змыслаў.

*Дровы, карова*
*І не праполата яшчэ*
*Свету палова*

Іншы раз ідзеш па жыцці, як з крамы: набыў харошае, дарагое, а на рэшту табе далі нешта непатрэбнае, бо драбніцы не знайшлося на той час.

Час на схіле веку?!

* Тэксты друкуюцца ў аўтарскай рэдакцыі.

# Пастаянны пацыент

**Апавяданне «Пастаянны пацыент» Дойла існуе ў некалькіх варыянтах. Гэта звязана з тым, што калі выдаўцы выключылі апавяданне «Кардонная скрынка» з першага брытанскага і шэрагу наступных амерыканскіх выданняў «Нататак пра Шэрлака Холмса» (патлумачыўшы гэта тым, што апавяданне не падыходзіць для маладых чытачоў, бо ў яго цэнтры стаіць адзюльтэр), Дойл сам ўдалы ўрывак з гэтага твора, дзе Шэрлак Холмс чытае думкі Ўотсана, перанёс з нязначнымі праўкамі ў апавяданне «Пастаянны пацыент». У беларускіх «Нататках пра Шэрлака Холмса» апавяданне «Пастаянны пацыент» друкуецца ў сваім кананічным выглядзе, тут жа мы прапануем чытачам той варыянт, які атрымаўся пасля правак Дойла.**

**Ганна Янкута**



Артур КОНАН ДОЙЛ

Перабіраючы паасобныя ўрыўкі нататак, у якіх я пастараўся выявіць адметныя разумовыя якасці майго сябра Шэрлака Холмса, я сутыкнуўся з праблемай, спрабуючы падабраць адзін прыклад, які б ахарактарызаваў яго напоўніцу. Бо ў выпадках, калі Холмс праяўляў сваё майстэрства аналітычных развагаў і дэманстраваў неверагодныя вынікі адмысловых метадаў расследавання, факты былі настолькі дробныя або настолькі відавочныя, што я, мяркую, проста не маю права выносіць іх на публіку. З іншага боку, часта здаралася і так, што ён цалкам паглыбляўся ў чарговае расследаванне, дзе факты былі выразныя і яскравыя, але ягоная роля ў высвятленні прычын здарэння была зусім не такой значнай, як хацелася б ягонаму біёграфу, то бок мне. Невялікае здарэнне, апісанае мной пад назвай «Эцюд у пунсовым», і яшчэ адно, звязанае са знікненнем «Глорыі Скот», могуць паслужыць прыкладам Сцылы і Харыбды, што пагражаюць кожнаму гісторыку. Магчыма, у справе, што я апішу зараз, удзел майго сябра недастаткова ўражвае, і ўсё ж ланцуг падзеяў настолькі выразны, што абмінуць яе ў гэтых нататках проста не выпадае.

Здарылася гэта адным душным дажджлівым кастрычніцкім днём. Парцьеры ў пакоі былі напалову завешаныя, Холмс разлёгся на канапе, зноў і зноў перачытваючы ліст, атрыманы з ранішняй поштай. Што да мяне, дык за час службы ў Індыі я стаў лепей пераносіць спёку, чым холад, так што нават у трыццаць градусаў пачуваўся камфортней, чым у такое надвор'е. У газетах нічога цікавага не было, парламент на вакацыях. Горад апусцеў, і я таксама прагнуў з'ехаць куды-небудзь на зялёныя лугі Нью-Форэста або на жвірыстае ўзбярэжжа Саўтсі. На жаль, апусцелы банкаўскі рахунак вымусіў мяне адкласці паездку да лепшых часоў, а вось майго кампаньёна ані вясковыя краявіды, ані мора не цікавілі наогул. Яму падабалася ляжаць у самым цэнтры пяцімільённага чалавечага мурашніка, сплёўшы над ім сваё павуцінне і ловячы кожную плётку, падазрэнне ці неразгаданае злачынства. Любоў да прыроды не ўваходзіла ў ягоныя звычкі, і толькі аднойчы ён мусіў адарвацца розумам ад гарадскога злачынцы, каб узяцца за яго вясковага сабрата.

Бачачы, што Холмс надта занураны ў сябе, каб падтрымліваць размову, я адклаў нудную газету і, адкінуўшыся ў крэсле, пагрузіўся ў роздум. У нейкі момант у мае думкі ўварваўся голас кампаньёна.

— Ваша праўда, Ўотсан, — сказаў ён. — Мне таксама такі спосаб урэгулявання спрэчак падаецца недарэчным.

— Надзвычай недарэчным! — усклікнуў я, а потым, раптоўна зразумеўшы, што ён толькі што агучыў мае ўласныя ўнутраныя думкі, зацях у фатэлі і здзіўлена ўтаропіўся ў сябра.

— Але якім чынам, Холмс? Гэта за межамі ўсякага разумення!

Ён шчыра засмяяўся з маёй збянтэжанасці.

— Памятаеце, — сказаў ён, — зусім нядаўна, калі я чытаў урывак аднаго нарыса Эдгара По, у якім галоўны герой прасочвае ход думак свайго напарніка, вы спісалі гэта выключна на аўтарскае майстэрства. Да маёй жа заўвагі, што я таксама часам раблю тое самае, вы паставіліся скептычна.

— Ды не!

— Вядома, вы гэтага не сказалі, дарагі Ўотсан, але вашы бровы выдалі вас. Таму, калі я ўбачыў, як вы ў задуменні адкінулі газету, я ўзрадаваўся чарговай магчымасці прасачыць ходу вашых думак, і ўрэшце мне гэта ўдалося, што лішні раз даказвае, як добра я вас ведаю.

Але такога адказу мне было мала.

— У тым урыўку, што вы прачыталі, — сказаў я, — герой будуе свае высновы паводле дзеянняў чалавека, якога аналізуе. Калі не памыляюся, той спатыкнуўся на груду камянёў, паглядзеў на зоры, і гэтак далей. А я проста моўчкі сядзеў у фатэлі — па чым жа вы маглі прачытаць думкі?

— Дазволю сабе з вамі не пагадзіцца. У кожнага чалавека ёсць адметныя рысы твару, што выяўляюць эмоцыі, і вы не выключэнне.

— Вы хочаце сказаць, што прасачылі ходу маіх думак па выразе твару?

— Менавіта, і перадусім па вачах. Відаць, вы і самі не заўважылі, як зануryліся ў развагі?

— Напэўна.

— Тады я вам раскажу. Пасля таго, як вы адкінулі газету, што ўжо само сабой забрала маю ўвагу, недзе з паўхвіліны вы сядзелі з адстароненым выглядам. Затым вашы вочы спыніліся на партрэце генерала Гордана, што нядаўна ўставілі ў раму, і па змене ў выразе вашага твару я ўбачыў, што вы паглыбіліся ў думкі. Але не надоўга. Ваш позірк перайшоў да партрэта Генры Ўорда Бічэра, які стаяў без рамкі на паліцы з вашымі кнігамі. Потым вы зірнулі на сцяну, і здагадацца, аб чым вы падумалі, было не складана: калі б партрэт быў у рамцы, то заняў бы пустое месца побач з партрэтам Гордана.

— Менавіта так я і падумаў! — усклікнуў я.

— Ну, гэта было няцяжка. Але затым вашы думкі зноў вярнуліся да Бічэра, і вы так пільна ў яго ўглядаліся, быццам па рысах твару стараліся зразумець, якім ён быў пры жыцці. Неўзабаве вы перасталі мружыцца, але па-ранейшаму задуменна пазіралі на партрэт. Вы ўспаміналі падзеі чыёй біяграфіі. І я быў больш чым упэўнены, што не маглі абмінуць у думках тую ролю, якую ён узяў на сябе ад імя Поўначы ў час Грамадзянскай вайны — памятаю, з якім абурэннем вы адгукаліся на тое, як да яго ставяцца самыя неспакойныя нашы людзі. Вы так былі ўпэўненыя ў сваёй праўдзе, што я ведаў — думаючы пра Бічэра, вы гэтага не абмінеце. Але, калі ў наступны момант вы адвялі вочы ад партрэта, я дапусціў, што вашы думкі перайшлі да Грамадзянскай вайны, а калі я заўважыў, як вы падцiснулі вусны, сцялі кулакі, і як бліснула ў вашых вачах, я ўжо не сумняваўся, што вы разважалі пра геройства, з якім абодва бакі ўступілі ў адчайны двубой. Але затым вы зноў спахмурнелі і пахіталі галавой. Мяркую, вы задумаліся над трагізмам і жахамі вайны і пра марна загубленыя жыцці. Рука пацягнулася да старой баявой раны, і на вуснах мільганула ўсмешка: па ўсім відаць, вы падумалі, якое глупства гэтак вырашаць пытанні міжнароднай важнасці. Вось тут я вам і сказаў, што таксама лічу гэта недарэчнасцю, і быў усцешаны, што мае высновы аказаліся слушнымі.

— Абсалютна! — пацвердзіў я. — Пасля ўсяго, што вы расказалі, магу вас запэўніць: з кожным днём вы здзіўляеце мяне ўсё болей.

— Усё было відавочна, мой дарагі Ўотсан, паверце мне. Калі б тым разам вы не выказалі свайго недаверу, я б нічога вам не сказаў. Але вечар прынёс з сабой лёгкі ветрык. Ці не жадаеце трохі прагуляцца па Лондане?

Трэба сказаць, мне надакучыла сядзець цэлы дзень у невялікай гасцёўні, і я з радасцю пагадзіўся. Тры гадзіны мы гулялі па горадзе, назіраючы за няспынным калейдаскопам жыцця, што вiравала на Фліт-стрыт і Стрэндзе. Як заўсёды, я быў у поўным захапленні ад таго, як тонка Холмс умеў заўважаць самыя нязначныя дробязі і наколькі трапныя высновы рабіў. Калі мы вярнуліся на Бэйкер-стрыт, было ўжо дзесяць. А ля пад'езда стаяў экіпаж.

— Ого! Доктар. Агульный практык, я мяркую, — сказаў Холмс. — Практыкуе не так даўно, але справы ў яго ідуць добра. Б'юся аб заклад, прыехаў да нас на кансультацыю. Цудоўна, што мы вярнуліся.

Я ўжо досыць добра вывучыў метады Холмса, каб паспяваць за ягонымі вывадамі, і адразу зразумеў, што гэтым разам ён іх зрабіў, зірнуўшы на стан медыцынскіх інструментаў у лазовай торбе пад ліхтаром у брогаме. Святло ў нашым акне сведчыла, што госць прыехаў менавіта да нас. Не зусім разумеючы, што магло прывесці майго сабрата па прафесіі ў такі час, я рушыў за Холмсам у наш кабінет.

Як толькі мы ўвайшлі, з крэсла пры каміне ўстаў бледны чалавек з рудаватымі бакенбардамі і конусападобным тварам. З выгляду яму было трыццаць тры ці трыццаць чатыры гады, але змардаванасць і нездаровы колер твару казалі пра тое, што жыццё высмактала з яго ўсе сілы і заўчасна скрала маладосць. Ён паводзіўся нервова і нясмела — выглядала, што быў датклівы, — а тонкая белая рука, якой ён, устаючы, абапёрся на камінную паліцу, больш нагадвала руку мастака, чым хірурга. Апрануты ён быў стрымана і проста: чорны сурдут, цёмныя штаны і крыху ярчэйшы гальштук.

— Добры вечар, доктар, — бадзёра павітаўся Холмс. — Рады, што вам не давялося чакаць больш за пару хвілін.

— Вы, відаць, размаўлялі з фурманам?

— Не, я здагадаўся па свечцы на століку. Калі ласка, сядайце і раскажыце, чым я магу вам дапамагчы.

— Мяне завуць доктар Персі Трэвельян, — прадставіўся госць, — я жыву на Брук-стрыт, дом 403.

— Ці не вы аўтар той манаграфіі пра малавядомыя нервовыя хваробы? — спытаў я.

Бледныя шчокі госця адразу пачырванелі, калі ён пачуў, што мне вядомая ягоная кніга.

— Я так рэдка чую нейкія водгукі! Ужо нават падумаў, што ўсе пра яе забыліся, — сказаў ён. — Калі я спытаў у выдавецтве, як прадаецца наклад, яны толькі развялі рукамі. А вы, як я разумею, таксама медык?

— Ваенны хірург у адстаўцы.

— А мяне заўсёды цікавілі нервовыя захворванні. Я б толькі імі і займаўся, але, вядома, трэба пачынаць з чагосьці больш запатрабаванага. Аднак я прыехаў не таму, містэр Шэрлак Холмс, не буду траціць ваш час. Рэч у тым, што нядаўна ў маім доме на Брук-стрыт адбыліся вельмі дзіўныя падзеі, а сёння ўвечары дайшло да таго, што я больш не мог чакаць і выправіўся да вас прасіць парады і дапамогі.

Шэрлак Холмс сеў і запаліў люльку.

— Што ж, гатовы вам даць і першае, і другое, — адказаў ён. — Прашу вас, падрабязна раскажыце пра ўсё, што вас так занепакоіла.

— Некаторыя акалічнасці настолькі банальныя, — пачаў доктар Трэвельян, — што нават няёмка пра іх казаць. Але справа такая невытлумачальная, а апошнія падзеі так непрадказальна закруціліся, што я вымушаны расказаць усё як ёсць, а вы ўжо самі вырашыце, што важна, а што не.

Варта пачаць з пары словаў пра маю доктарскую кар'еру. Я скончыў Лонданскі ўніверсітэт, і не палічыце за самахвальства, але яшчэ за часамі майго студэнцтва прафесары былі ўпэўненыя, што я далёка пайду. Пасля ўніверсітэта я і надалей цалкам прысвячаў сябе навуковай працы, займаючы дробную пасаду ў шпіталі Каралеўскага каледжа, і мне пашчасціла — маімі даследаваннямі такой паталогіі, як каталепсія, зацікавіліся, і я атрымаў прэмію Бруса Пінкертана і медаль за манаграфію пра нервовыя хваробы, якую якраз згадваў ваш сябар. Я не схлушу, калі скажу, што пасля таго ўсё прадракалі мне выбітную кар'еру. Але на дарозе да поспеху легла адна перашкода. Як вы самі разумееце, спецыяліст, які меціць высока, мусіць высока і пачынаць — хаця б з таго, каб знясць пакоі на адной са шматлікіх вуліц вакол Кавендыш-сквер, што вымагае значных выдаткаў на аплату рэнты і мэблю. Апрача таго, трэба паклапаціцца пра сродкі хаця б на некалькі гадоў і на прэзентабельны экіпаж. Усё гэта было мне не па кішэні, і адзінае, на што заставалася спадзявацца, — гэта пацяху адкладаць грошы, і, можа, гадоў праз дзесяць я б змог сабе нешта такое дазволіць. Але аднаго цудоўнага дня шчаслівы выпадак адкрыў перада мной новыя перспектывы.

Аднойчы зранку да мяне завітаў джэнтльмен па імені Блэсінгтан, якога я бачыў упершыню. Без лішніх цырымоній ён адразу перайшоў да справы.

— Вы той самы Персі Трэвельян, які нядаўна атрымаў прэмію і якому ўсе прадракалі выбітную кар'еру? — спытаў ён.

Я кіўнуў.

— Давайце паразмаўляем шчыра, — працягваў ён, — бо гэта ў вашых жа інтарэсах. У вас ёсць талент, а значыць, вы можаце дасягнуць поспеху, але ці тактоўны вы чалавек?

Агаломшаны такім пытаннем, я не змог стрымаць усмешку.

— Хацелася б верыць, што так, — адказаў я.

— Дрэнныя звычкі? Алкаголем не злоўжываеце?

— Ды годзе вам, сэр! — абурыўся я.

— Добра, добра, не буду больш. Але я мусіў спытаць. Дык чаму тады, маючы такія здольнасці, вы не практыкуеце?

Я пацiснуў плячыма.

— Ясна, ясна! — гукнуў ён і сам заклапочана адказаў. — Старое як свет. У галаве густа, а ў кішэнях пуста. А што вы скажаце, калі я прапаную вам месца на Брук-стрыт?

Я са здзіўленнем утаропіўся ў яго.

— Я раблю гэта дзеля сябе, не дзеля вас, — сказаў ён. — Буду з вамі абсалютна шчыры: калі вас задаволіць мая прапанова, я таксама буду задаволены. Разумееце, у мяне ёсць некалькі тысяч, якія я збіраюся куды-небудзь уклаісці, і я хачу іх укласці ў вас.

— У мяне? — аслупянеў я.

— Ну, ёсць і іншыя варыянты, але гэты, як на мяне, самы бяспечны з усіх.

— І што я мушу зрабіць?

— Зараз патлумачу. Я найму вам дом, абстаўлю, аплачу пакаёўку і вазьму на сябе ўсе выдаткі. Вам застанецца толькі сядзець у кабінеце і прымаць пацыентаў. Грошы на жыццё і ўсё неабходнае ў вас будуць. За гэта вы будзеце аддаваць мне тры чвэрці свайго заробку, апошняя чвэрць застанецца вам.

Скажу вам шчыра, містэр Холмс, прапанова гэтага Блэсінгтана падалася мне вельмі дзіўнай. Не буду стамляць вас

аповедамі, як мы ўсё абгаворвалі і заключалі дамову. Урэшце, акурат на Дабравешчанне, я пераехаў у новы дом і пачаў практыкаваць — усё было так, як і абяцаў джэнтльмен. Сам жа ён пераехаў да мяне жыць на правах пастаяннага пацыента. Аказваецца, у яго было слабае сэрца, і ён мусіў знаходзіцца пад пастаянным наглядам доктара. З двух найлепшых пакояў на другім паверсе ён зрабіў сабе гасцёўню і спальню. Блэсінгтан аказаўся чалавекам з дзіўнымі звычкамі, ён цураўся кампаній і надзвычай рэдка выходзіў у свет. Лад жыцця ў яго быў пераменлівы, але ў адным ён быў сама стабільнасць. Штовечар, у адзін і той жа час, ён спускаўся да мяне ў прыёмны пакой, правяраў кнігу ўліку і пакідаў мне па дзве манеты — пяць і тры пенсы — за кожную заробленую гінею, а рэшту забіраў сабе ў сейф, які стаяў у ягоным пакоі.

Можаце быць пэўныя, ён ніколі не меў падставаў пашкадаваць пра свае інвестыцыі. Справы ад самага пачатку ішлі добра. Пáра паспяховых выпадкаў, плюс рэпутацыя, якую я меў яшчэ са шпіталя, адразу ж прынеслі мне славу, і за апошнія гады я зрабіў яго багатым чалавекам.

Цяпер, містэр Холмс, вы ведаеце, хто я такі і што мяне звязвае з містэрам Блэсінгтанам. Засталося расказаць пра ўчорашні вечар і пра тое, што прывяло мяне сюды.

Пару тыдняў таму містэр Блэсінгтан спусціўся да мяне ў кабінет, як мне падалося, нечым вельмі ўстурбаваны. Ён казаў пра зладзейства, якое, па яго словах, было ўчыненае ў Ўэст-Эндзе, і, я памятаю, ён быў настолькі ўсхваляваны, што загадаў на ўсе вокны і дзверы неадкладна паставіць мацнейшыя засаўкі і завалы. Цэлы тыдзень трывожнасць не пакідала, ён увесь час вызіраў у акно і не наважваўся выйсці з дому нават на кароткі шпацыр, які звычайна рабіў перад абедам. Містэр Блэсінгтан паводзіўся так, быццам да смерці баяўся чагосьці або кагосьці, але калі я спытаўся ў яго, ён так абурыўся, што я вырашыў больш не закранаць гэтую тэму. З часам ягоны страх аціх, і ён вярнуўся да свайго распарадку, але потым ад раптоўнай навіны зусім заняпаў духам, і дасёння стан ягоны не змяніўся.

А адбылося вось што. Два дні таму я атрымаў ліст, які зараз вам зачытаю. Ні адрасу, ні даты на ім не пазначана:

«Расійскі арыстакрат, які ў цяперашні момант пражывае ў Англіі, з радасцю звярнуўся б да д-ра Персі Трэвельяна па прафесійную кансультацыю. Ужо некалькі гадоў ён пакутуе ад каталептычных атак, а ў гэтай галіне д-р Трэвельян — адзін з самых вядомых спецыялістаў. Ён просіць дазволу завітаць у шэсць пятнаццаць заўтра ўвечары, калі д-р Трэвельян здолее ў гэты час прыняць».

Прызнаюся, гэты ліст вельмі мяне зацікавіў, бо асноўная цяжкасць у вывучэнні каталепсіі — рэдкасць самога захворвання. Як вы можаце здагадацца, у той вечар я заставаўся ў сваім кабінеце, і ў азначаны час слуга паведаміў, што прыйшоў пацыент.

Гэта быў стрыманы пажылы чалавек, які, без сумневу, адпавядаў усім уяўленням пра расійскага арыстакрата. А вось выгляд яго спадарожніка мяне сапраўды здзівіў. Гэта быў высокі малады чалавек, вельмі сімпатычны, з цёмным суровым тварам і проста геркулесавым целаскладам. Ён падтрымліваў старэйшага за руку і дапамагаў яму сесці ў крэсла, і ўсё з такой далікатнасцю, якой не чакаеш, гледзячы на яго.

— Доктар, я перапрашаю за нечаканы візіт, — звярнуўся ён да мяне, крыху шапялявячы. — Гэта мой бацька, і яго здароўе для мяне на першым месцы.

Я быў крануты такім сыноўскім клопатам.

— Магчыма, вы хочаце застацца падчас кансультацыі? — спытаў я.

— Ні ў якім разе! — з непадробным болем усклікнуў ён. — Вы не ўяўляеце, якая гэта будзе для мяне пакута. Паверце, я не перажыву, калі зноў убачу бацькаў прыпадак. У мяне самога надзвычай слабая нервовая сістэма. З вашага дазволу, я пачакаю ў прыёмным пакоі, пакуль вы яго абследуеце.

Вядома, я пагадзіўся, і малады чалавек выйшаў. Мы з пацыентам паглыбіліся ў абмеркаванне яго хваробы, і я падрабязна ўсё занатоўваў. Ён не вылучаўся вялікім розумам, яго адказы часта гучалі цьмяна, але я спісаў гэта на недасканалае валоданне мовай. Зрэшты, як толькі я сеў запісваць, ён змоўк і нічога не адказваў, а калі я павярнуўся, то быў уражаны: ён застыў у крэсле і з нерухомым адстароненым тварам вытарапіўся на мяне. Таемная хвароба зноў захапіла яго ў палон.

Спярша я адчуў жаль і страх, але потым, баюся, — пэўнае прафесійнае задавальненне. Я памераў пацыенту пульс і тэмпературу, праверыў напружанне цягліц і рэфлексы. Усе гэтыя паказчыкі былі ў норме, што супадала з маім папярэднім досведам. Я выявіў, што добрыя вынікі ў такіх выпадках давалі інгаляцыі амілнітрыту, і цяпер меў выдатную магчымасць чарговы раз праверыць яго гаючае ўздзеянне. Бутэлька стаяла ў мяне ў лабараторыі, унізе, таму, пакінуўшы пацыента ў кабінеце, я пабег туды. Спатрэбілася зусім мала часу, каб яе знайсці — хвілін пяць, не болей, — а калі я вярнуўся, на маё здзіўленне, пацыента ў пакоі ўжо не было.

Вядома, я адразу зазірнуў у прыёмны. Але сын таксама кудысьці знік. Уваходныя дзверы былі зачыненыя, але не замкнёныя на ключ. Слуга, які сустракае пацыентаў, працуе ў нас нядаўна, і хлопец ён надзвычай хуткі. Звычайна ён чакае на першым паверсе і, як толькі я званю ў званок, прыбягае наверх, каб праводзіць наведнікаў да выхаду. Гэтым разам ён таксама нічога не чуў, і заставалася толькі здагадвацца, што здарылася. У хуткім часе з прагулкі вярнуўся містэр Блэсінгтан, але я нічога яму не сказаў, бо, па шчырасці, апошнім часам стараўся кантактаваць з ім як мага меней.

Я ўжо не спадзяваўся яшчэ пабачыць расійца і ягонага сына, і вы толькі ўявіце, як здзівіўся, калі сёння ўвечары ў той самы час яны ўдвух як нічога ніякага зайшлі да мяне ў кабінет.

— Я мушу вельмі і вельмі выбачыцца перад вамі, доктар, што так нечакана пайшоў учора, — сказаў мой пацыент.

— Прызнаюся, вы мяне збянтэжылі, — адказаў я.

— Рэч у тым, — зазначыў ён, — што, калі гэтыя прыпадкі праходзяць, у галаве ў мяне проста кулямеса, і я слаба памятаю, што дзеялася перад тым. Агаломшаны, што апрытомнеў у незнаёмым месцы, я ўстаў і выйшаў на вуліцу, пакуль вас не было.

— А я, — дадаў сын, — убачыўшы, як бацька выходзіць з кабінета, падумаў, што кансультацыя скончылася. І толькі калі мы вярнуліся дадому, сцяміў, што насамрэч адбылося.

— Што ж, — усміхнуўся я, — ніхто не пацярпеў, калі не лічыць таго, як моцна вы мяне азадачылі. Калі вы, сэр, пачакаеце ў прыёмным пакоі, — звярнуўся я да сына, — мы працягнем нашую знянацку перарваную кансультацыю.

Недзе з паўгадзіны мы размаўлялі з бацькам пра сімптомы хваробы, затым я прапісаў яму лячэнне і праводзіў у прыёмны пакой. Сын узяў яго пад руку, і яны пайшлі.

Я ўжо казаў, што менавіта ў гэты час містэр Блэсінгтан штодзень выходзіць шпацыраваць. Неўзабаве ён вярнуўся і падняўся да сябе, але праз хвіліну я пачуў, як ён хапатліва спускаецца ўніз. Праз імгненне ён уварваўся да мяне ў шалёным прыступе панікі.

— Хто заходзіў у мой пакой?! — пракрычаў ён.

— Ніхто, — адказаў я.

— Хлусня! — не суніамаўся ён. — Хадземце са мной.

Я не надаў увагі ягонай грубасці, бо з перапуду ён, здавалася, быў сам не свой. Калі я падняўся, ён паказаў мне на сляды ад чаравікаў на светлым дыване.

— Вы хочаце сказаць, што гэта былі я? — запытаўся я.

Сляды былі свежыя і належалі некаму з яўна большым памерам нагі, чым у яго. Калі памятаеце, пасля абеду сёння ліў моцны дождж, і акрамя тых двух маіх пацыентаў, наведнікаў не было. Па ўсім відаць, малады чалавек, што застаўся ў прыёмным пакоі, з нейкай невядомай прычыны, пакуль я займаўся ягоным бацькам, падняўся ў пакой майго пастаяннага пацыента. Усё было на сваіх месцах, нічога не знікла, але адбіткі ног бясспрэчна сведчылі пра тое, што тут пабываў нехта чужы.

Містэра Блэсінгтана гэтае здарэнне ўразіла нашмат больш, чым я мог чакаць, хаця хто б на ягоным месцы не ўсхваляваўся. Ён сеў у фатэль і пачаў плакаць, і я не мог выцягнуць з яго ніводнага ўцямнага тлумачэння. Але потым ён прапанаваў мне паехаць да вас, і я адразу ж пагадзіўся, што гэта самае правільнае рашэнне, — бо, вядома, выпадак даволі адметны, хоць містэр Блэсінгтан яго залішне драматызуе. Калі б вы пагадзіліся паехаць са мной, упэўнены, вам удалося б хаця б яго супакоіць, бо наўрад ці можна спадзявацца, што ў вас атрымаецца растлумачыць сэнс дзіўных падзей.

Шэрлак Холмс вельмі ўважліва слухаў доўгі аповед, і я зразумеў, што ён усур'ёз зацікавіўся справай. Твар яго быў, як заўсёды, абыякавы, але павекі апускаліся павольна і рэдка, а дым з люлькі віўся штораз гусцейшы, быццам падкрэсліваў кожны новы паварот у апавяданні доктара. Як толькі госць змоўк, Холмс без словаў ускочыў, падаў мне капялюш, узяў са стала свой і следам за доктарам Трэвельянам скіраваўся да выхаду. Праз чвэрць гадзіны мы выйшлі з экіпажа перад згаданым домам на Брукстрыт, адным з тых хмурых звычайных дамоў, якія ўяўляеш, калі чуеш пра дактароў з Ўэст-Энда. Нас сустрэў хлопчык-слуга, і мы адразу ж рушылі наверх па шырокіх сходах, высланых самавітым дываном.

Але нас супыніла неспадзяванка. Святло ў канцы лесвіцы раптам згасла, і з цемры даляцеў дрыготкі пранізлівы крык:

— У мяне пісталет! Клянуся, я стрэлю, калі вы падыдзеце яшчэ хоць на крок!

— Містэр Блэсінгтан, гэта ўжо ні ў якія вароты не лезе! — крыкнуў яму доктар Трэвельян.

— А-а, гэта вы, доктар, — адказаў голас з яўнай палёгкай. — А астатнія джэнтльмены... ці тыя яны, за каго сябе выдаюць?

Мы адчулі на сабе доўгі дапытлівы позірк з цемры. Урэшце голас прамовіў:

— Ладна, ладна, няхай ужо, падымайцеся. І даруйце мне маю празмерную абачлівасць.

Кажучы гэта, ён зноў запаліў лесвічны ліхтар, і мы ўбачылі незвычайнага чалавека, чый выгляд, як і голас перад гэтым, сведчыў аб расхістаных нервах. Ён быў вельмі тоўсты, але некалі, відаць, яшчэ таўсцейшы, бо скура на твары мешкавата абвісла, нібы шчокі ў бладхаўнда. Скура хваравіта пажаўцела, а тонкія рудаватыя валасы, здавалася, падняліся дыбарам ад перажыванняў. У руцэ ён трымаў пісталет, але калі мы падышлі, хутка сунуў яго ў кішэню.

— Добры вечар, містэр Холмс, — прывітаўся ён. — Бязмежна ўдзячны вам, што пагадзіліся прыехаць. Яшчэ ніхто дагэтуль не меў патрэбы ў вашай парадзе так, як я. Думаю, доктар Трэвельян расказаў вам пра гэта нядавальнае ўварванне ў мае пакоі.

— Вядома, — адказаў Холмс. — Хто гэтыя двое, містэр Блэсінгтан, і што ім ад вас трэба?

— Ну... — зноў занерваваўся пастаянны пацыент, — як вам патлумачыць... Не думаю, містэр Холмс, што магу адказаць на ваша пытанне.

— Хочаце сказаць, вы не ведаеце?

— Прашу вас, праходзьце. Зрабіце ласку, зайдзіце і пагледзіце самі.

Ён праводзіў нас у спальню, даволі прасторную і добра мэбляваную.

— Бачыце? — сказаў ён, паказваючы на вялікую чорную скрыню за ложкам. — Я ніколі не быў надта багатым чалавекам, містэр Холмс, і за ўсё сваё жыццё зрабіў толькі адно ўкладанне, доктар Трэвельян вам расказваў. Проста я не веру банкам. Я ніколі не даверу банку сваіх грошай, містэр Холмс. Між намі кажучы, усё, што я маю, ляжыць у гэтай скрыні, таму можаце ўявіць, як мне непрыемна, калі невядомыя людзі ўрываюцца ў мае пакоі.

Холмс паглядзеў на Блэсінгтана ў сваёй запытальнай манеры і пакруціў галавой.

— Я наўрад ці змагу вам дапамагчы, калі вы не скажаце мне праўды, — прамовіў ён.

— Але я расказаў вам усё, што ведаю.



Працяг на стар. 18 (12) »

**« Заканчэнне.**
**Пачатак на стар 10 (4)**

З непадробнай агідай Холмс развярнуўся на абцасах і сказаў:

— Дабранач, доктар Трэвельян.

— Дык вы мне нічога не параіце?! — ускрыкнуў Блэсінгтан, зрываючы голас.

— Магу параіць адно: сказаць праўду.

Праз хвіліну мы былі ўжо на вуліцы і крочылі дамоў. Мы мінулі Оксфард-стрыт і прайшлі палову Харлі-стрыт, калі я ўрэшце здолеў выцягнуць з майго спадарожніка хоць слова.

— Прабачце, Ўотсан, што ўцягнуў вас у такія справункі, — нарэшце вымавіў ён. — Хаця па шчырасці, выпадак даволі цікавы.

— А мне ўсё гэта падаецца глупствам, — прызнаўся я.

— Ну, дастаткова відавочна, што ёсць двое мужчынаў — магчыма, больш, але як мінімум двое, якія з нейкіх прычынаў хочуць дабрацца да гэтага Блэсінгтана. У мяне няма ніякіх сумневаў у тым, што абодва разы той малады чалавек пранікаў у пакой наверсе, пакуль ягоны саўдзельнік вынаходліва адцягваў увагу доктара.

— А каталепсія?

— Гнюсная пастаноўка, Ўотсан, хаця я б не стаў засмучаць гэтым фактам нашага калегу доктара. Такую хваробу зымітаваць вельмі проста, я сам так рабіў.

— Дапусцім.

— Чыста выпадкова Блэсінгтана не было дома абодва разы. Яны нездарма выбралі такі незвычайны час для кансультацыі, бо ведалі, што іншых пацыентаў не будзе. Аднак атрымалася так, што іх візіты супалі па часе з прагулкамі Блэсінгтана, — значыць, яны не вельмі добра ведалі яго распарадак. Няма сумневу, што калі б яны проста хацелі яго абрабаваць, то спачатку разведалі б усё як след. Акрамя таго, я па вачах бачу, калі нехта трасецца за сваю скуру. І проста неверагодна, каб такога кшталту чалавек займеў двух такіх лютых ворагаў і нічога пра гэта не ведаў. Таму я мяркую, што ён ведае, хто яны, але з невядомай прычыны хоча змаўчаць. Магчыма, заўтра ён будзе больш настроены на размову.

— А можа, ёсць іншыя тлумачэнні? — выказаўся я. — Якія-небудзь неверагодныя, але тым не менш дапушчальныя? Можа, усю гэтую гісторыю з расійскім каталептыкам і яго сынам прыдумаў сам доктар Трэвельян, і гэта ён быў у Блэсінгтана ў пакоі?

У святле ліхтара я ўбачыў на твары Холмса гарэзлівую ўсмешку ў адказ на маю здагадку.

— Мой дарагі дружа, — сказаў ён, — гэта першае, пра што я падумаў, але далейшыя аповед доктара мяне пераканаў. Той малады чалавек наслядзіў на лесвічным дыване, так што вялікага сэнсу зазіраць у пакой для мяне ўжо не было. А калі я скажу, што чаравікі ў яго былі з тупымі насамі, не вострымі, як у Блэсінгтана, і на цалю з трэцінай даўжэйшыя, чым у доктара, вы пагодзіцеся, што гэта дакладна быў нехта іншы. Але давайце пачакаем раніцы, бо я буду надзвычай здзіўлены, калі заўтра мы не атрымаем з Брук-стрыт ніякіх звестак.

Прароцтва Шэрлака Холмса спраўдзілася, але надта драматычным чынам. А палове на восьмую, з першымі пробліскамі святла, апрануты ў халат, ён ужо стаяў ля майго ложка.

— Нас чакае экіпаж, Ўотсан, — сказаў ён.

— Што здарылася?

— Едзем на Брук-стрыт.

— Ёсць навіны?

— Сумныя, але нічога не ясна, — адказаў ён, адсоўваючы штору. — Вось аркуш, вырваны з нататніка, алоўкам напісана: «Дзеля ўсяго святога, прыяздждайце хутчэй. П.Т.». Наш калега доктар моцна ціснуў на аловак, калі пісаў цыдулку. Хадземце, дружа, трэба спяшацца.

Недзе праз пятнаццаць хвілін мы зноў былі ў доктара. Ён выбег нам насустрач з выразам жаху на твары.

— Якое няшчасце! — крыкнуў ён, хапаючыся за галаву рукамі.

— Што такое?

— Блэсінгтан забіў сябе.

Холмс прысвіснуў.

— Павесіўся ўначы.

Мы ўвайшлі, і доктар адвёў нас у пакой, які, па ўсім відаць, служыў яму прыёмным.

— Я абсалютна не ведаю, што рабіць, — усклікнуў ён. — Паліцыя ўжо там. Я ў страшэнным шоку ад усяго гэтага.

— Калі вы яго знайшлі?

— Штораніцы яму ў пакой прыносяць кубак гарбаты. Калі пакаёўка зайшла да яго недзе а сёмай, небарака ўжо вісеў пад столлю. Ён прывязаў вяроўку да крука, на якім раней вісела цяжкая жырандоля, і саскочыў уніз з той самай скрыні, якую паказваў нам учора.

На нейкі час Холмс застыў у роздуме.

— З вашага дазволу, — сказаў ён урэшце, — я б хацеў падняцца наверх і сам усё агледзець.

Услед за доктарам мы абодва падняліся ў пакой. Калі мы зайшлі ў спальню, перад намі паўстала даволі жудаснае відовішча. Я ўжо казаў, што яшчэ пры першай сустрэчы Блэсінгтан падаўся мне нейкім абвіслым. Цяпер жа, боўтаючыся на круку, ён абвіс яшчэ мацней, так што ўжо і не вельмі быў падобны да чалавека. Шыя выцягнулася, як у абшчыпанай курыцы, і цела, у параўнанні з ёй, здавалася яшчэ больш тоўстым і ненатуральным. На ім была толькі піжама, з-пад якой нерухома тырчэлі распухлыя шчыкалаткі і нягеглыя ступні. Побач з ім стаяў гожа апрануты інспектар і нешта запісваў у нататнік.

— О, містэр Холмс, — сардэчна павітаўся ён, калі мы ўвайшлі. — Рады вас бачыць.

— Добрай раніцы, Лэнэр, — адказаў Холмс. — Спадзяюся, вы не палічыце, што я ўмешваюся. Вы чулі пра падзеі, што папярэднічалі здарэнню?

— Так, нешта чуў.

— І што вы пра ўсё гэта думаеце?

— Наколькі я магу меркаваць, гэты чалавек проста страціў розум ад страху. Начаваў ён дома, як бачыце. Ложак добра прымяты, у ім спалі. Вы ж ведаеце, большыня самагубстваў здзяйсняецца каля пятай раніцы. Недзе ў гэты час ён і павесіўся. Выглядае на тое, што гэта было абдуманае рашэнне.

— Мяркую, ён мёртвы ўжо гадзіны тры, гледзячы па здранцвеласці цягліц, — дадаў я.

— Нічога незвычайнага ў пакоі не заўважылі? — спытаў Холмс.

— Знайшлі адкрутку і пару шрубаў ля рукамыйніка. Яшчэ, здаецца, ён многа курыў уначы. Я знайшоў акуркі чатырох цыгар у каміне.

— Гм, — прамовіў Холмс, — а муштук у яго вы не знайшлі?

— Не, не бачыў.

— А партсігар?

— Так, ён быў у кішэні пінжака.

Холмс раскрыў партсігар і панюхаў адзіную цыгару, якая ў ім засталася.

— М-м, гэта гаванская, а тыя ўсе іншага гатунку, з завезеных галандцамі з калоній ва Усходняй Індыі. Яны звычайна загорнутыя ў салому і танчэйшыя за ўсе іншыя маркі такой даўжыні, думаю, вы ведаеце, — ён узяў чатыры акуркі і пачаў разглядаць праз кішэнную лупу.

— Дзве з іх курылі з муштуком, а дзве без, — сказаў ён. — Краі ў дзвюх зрэзаныя не вельмі вострым нажом, а ў дзвюх іншых адкушаныя выдатнымі зубамі. Гэта не самагубства, містэр Лэнэр. Гэта вельмі старанна спланаванае і жорсткае забойства.

— Неверагодна! — усклікнуў інспектар.

— Чаму ж?

— Навошта камусьці спатрэбілася забіваць чалавека так нязграбна, праз павешанне?

— А вось гэта нам трэба высветліць.

— Як, думаеце, яны праніклі?

— Праз парадны ўваход.

— Але дзверы былі зачыненыя на засаўку.

— Тады іх зачынілі пасля злачынцаў.

— Адкуль вы ведаеце?

— Пабачыў сляды. Дайце мне некалькі хвілін, і я змагу расказаць вам, што адбылося потым.

Ён падышоў да дзвярэй і ўзяўся метадычна правяраць замок. Затым дастаў ключ, які заставаўся знутры пакоя, і таксама яго агледзеў. Тады даследаваў ложак, дыван, крэслы, камін, цела памерлага і вяроўку, пакуль на яго твары не з'явілася задаволенасць. Мы з інспектарам дапамаглі яму зняць няшчаснага з крука і акуратна накрыць прасцінай.

— А што з вяроўкай? — спытаў Холмс.

— Відаць, адрэзалі адсюль, — паказаў доктар Трэвельян, выцягваючы з-пад ложка вялікі скрутак. — Ён панічна баяўся пажару і заўсёды трымаў побач вяроўку, каб спусціцца праз акно, калі лесвіца будзе ў агні.

— Так, гэта спрасціла ім працу, — задуменна прамовіў Холмс. — Што ж, усе факты навідавоку, і я больш чым упэўнены, што яшчэ да абеду змагу патлумачыць і матыў забойства. З вашага дазволу, я вазьму гэты фотаздымак Блэсінгтана, што стаіць на каміне, — ён дапаможа мне ў расследаванні.

— Але патлумачце нам хоць што-небудзь! — ускліккнуў доктар.

— Магу дакладна апісаць, як усё адбывалася, — сказаў Холмс. — Іх было трое: малады, стары і яшчэ адзін, асоба якога мне не вядомая. Першыя двое, варта зазначыць, — тыя самыя, што выдавалі сябе за расійца і яго сына, іх мы ўжо добра ведаем. У гэтым доме ў іх быў свой чалавек, які іх і пусціў. Магу вам параіць арыштаваць слугу, інспектар, які, як я разумею, толькі нядаўна ўладкаваўся да вас на працу, доктар.

— Падшыванец некуды знік, — сказаў доктар Трэвельян. — Пакаёўка і кухар усюды яго шукалі-перашукалі.

Холмс пацiснуў плячыма.

— Хлопец адыграў важную ролю ў гэтай драме, — зазначыў ён. — Трое мужчын на дыбачках падняліся па лесвіцы — спачатку старэйшы, за ім малады і потым той невядомы…

— Неймаверна, Холмс! — не ўтрымаўся я.

— Ну, гэта няцяжка зразумець па тым, як адбіткі накладзеныя адзін на адзін. Пагатоў, учора я ўжо меў шанец вызначыць, дзе чые сляды. Дык вось, яны падняліся наверх, але дзверы ў пакой містэра Блэсінгтана аказаліся замкнёнымі. З дапамогай дроту яны хутка правярнулі ключ. Драпіны на цыпелі ключа добра бачныя нават простым вокам.

Зайшоўшы ў пакой, яны перш-наперш заткнулі містэру Блэсінгтану рот. Мабыць, ён яшчэ спаў або здранцвеў ад жаху так, што не змог вымавіць ні слова. Сцены тут тоўстыя, і цалкам магчыма, што яго крыку — калі ён усё ж такі паспеў нешта крыкнуць — ніхто не пачуў.

Не сумняюся, што, абясшкодзіўшы яго, яны пачалі раіцца між сабой. Магчыма, іх размова ў нечым нагадвала судовую працэдуру. Падчас яе яны і выкурылі гэтыя цыгары. Стары сядзеў у плеценым крэсле, і гэта ён курыў праз муштук. Малады сядзеў вунь там. А трэці хадзіў туды-сюды па пакоі. Блэсінгтан, мяркую, так і застаўся сядзець у ложку, але дакладна я не ўпэўнены.

Скончылася ўсё тым, што яны вырашылі павесіць Блэсінгтана. Яны так добра падрыхтаваліся, што, імаверна, прыхапілі нешта накшталт блока ці шківа, каб выкарыстаць як шыбеніцу. Можна меркаваць, адкрутка і шрубы якраз для таго і прызначаліся, каб гэтую канструкцыю замацаваць. Але, убачыўшы крук, яны, натуральна, абыйшліся без лішніх клопатаў. Зрабіўшы сваю справу, злачынцы зніклі, а памагаты закрыў за імі засаўку, — скончыў Холмс.

Мы з глыбокай цікаўнасцю слухалі гэты аповед пра начныя падзеі, якія Холмс вывеў з такіх, здавалася б, мізэрных і няўлоўных прыкмет, што нават цяпер, калі ён нам на іх паказаў, мы з цяжкасцю прасачылі ходу ягоных развагі. Інспектар тут жа адправіўся дазнацца пра слугу, а мы з Холмсам скіравалі назад на Бэйкер-стрыт, каб паснедаць.

— Вярнуся да трэцяй гадзіны, — сказаў Холмс пасля сняданку. — Інспектар і доктар мусяць таксама завітаць у гэты час, і я спадзяюся, што змагу датуль высветліць усе няясныя акалічнасці ў гэтай справе.

У дамоўлены час госці былі ў нас, але майго сябра давялося чакаць яшчэ чвэрць гадзіны. Калі ён увайшоў, увесь ягоны выгляд сведчыў пра поспехі расследавання.

— Што-небудзь разведалі, інспектар?

— Мы знайшлі мальца, сэр.

— Выдатна. А я знайшоў злачынцаў.

— Знайшлі?! — ускліккнулі мы ў адзін голас.

— Ну, як мінімум, я дазнаўся, хто яны такія. Як я і чакаў, у галоўным упраўленні ведаюць пра гэтага так званага Блэсінгтана, як і пра яго забойцаў. Іх завуць Бідл, Хэйвард і Мофат.

— Банда, якая абчысціла Ўортынгтанскі банк, — згадаў інспектар.

— Менавіта, — пацвердзіў Холмс.

— Тады сапраўднае імя Блэсінгтана мусіць быць Сатан.

— Так і ёсць, — кіўнуў Холмс.

— Цяпер усё стала на месцы, — сказаў інспектар.

Мы з Трэвельянам пераглянуліся, нічога не зразумеўшы.

— Вы мусіце памятаць нашумелае абрабаванне Ўортынгтанскага банка, — патлумачыў Холмс. — Злодзеяў было пяцёра — чатыры нашыя і пяты, на імя Картрайт. Яны забілі вартаўніка Тобіна і забралі сем тысяч фунтаў. Здарылася гэта ў 1875-м годзе. Усіх пяцярых арыштавалі, бо сведчанні супраць іх былі надзвычай пераканаўчыя. Гэты Блэсінгтан, або Сатан, самы люты з усёй банды, аказаўся даносчыкам. Па яго сведчаннях Картрайта павесілі, а трох астатнім далі па пятнаццаць гадоў турмы. Калі настаў дзень іхнага вызвалення, што адбылося на некалькі гадоў раней за тэрмін, яны дамовіліся, як вы разумееце, знайсці здрадніка і адпомсціць за смерць таварыша. Дзве спробы праваліліся, а вось трэцяя мела поспех. Нешта яшчэ незразумела, доктар?

— Не, вы ўсё выдатна патлумачылі, — адказаў Трэвельян. — Па ўсім відаць, якраз у той дзень, калі ён занепакоіўся, ён і прачытаў у газеце, што іх выпусцілі.

— Так і ёсць. А размовамі пра крадзеж ён проста пускаў нам пыл у вочы.

— Але чаму ён не сказаў вам праўду?

— Разумееце, мой дарагі сэр, ведаючы помслівы характар былых паплечнікаў, ён спрабаваў хаваць ад усіх сваё сапраўднае аблічча як найдаўжэй. Такім сакрэтам нельга было пахваліцца, і ён саромеўся сябе выдаць. Тым не менш гэты нягоднік спакойна працягваў жыць пад шчытом брытанскіх законаў, і — я ўпэўнены, вы мяне зразумееце, інспектар — гэты шчыт бывае не здольны нас абараніць, але меч правасуддзя спраўна карае вінаватых.

Вось такія дзіўныя акалічнасці суправаджалі падзеі, звязаныя з пастаянным пацыентам на Брук-стрыт. З той ночы трох забойцаў ніхто больш не бачыў, паліцыя іх не злавіла, але ў Скотланд-Ярдзе меркавалі, што яны маглі быць сярод пасажыраў сумнавядомага парахода «Нора Крэйна», які знік пару гадоў таму разам з усёй камандай ля партугальскага ўзбярэжжа, за некалькі лігаў на поўнач ад Порту. Слугу праз адсутнасць доказаў давялося адпусціць, а пра «загадкавае здарэнне на Брук-стрыт», як яго празвалі, да гэтага дня нічога істотнага ў друку не з'явілася.

**Пераклад з ангельскай мовы**
**Сержука Мядзведзева**

Літаратурная Беларусь

**Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.**
Тэлефон для даведак: **(8-017) 200-80-91.** Адрас электроннай пошты: **sbp@tut.by**

# ГДР: Тэрыторыя настальгіі?

Алесь КІРКЕВІЧ

**Падзенне Берлінскай сцяны аб'яднала краіну, але шмат для каго апынулася крахам мараў і спадзяванняў.**




Усходні Берлін, метраў за сто ад выхаду з метро — брамка, якая вядзе ў чатырох- ці пяціпавярховы стары будынак. Лесвіца з літымі поручнямі, масіўныя дзверы. За імі — мяккае святло настольнай лямпы і гаспадары своеасаблівай гістарычнай майстэрні — Катрын Раншток ды Лютц Кірхенвітц.

Абодва — ураджэнцы ГДР, для якіх спадчына мінулага — не пустыя словы, але частка жыцця, калі не сказаць — абавязковы элемент штодзённасці. Катрын — прадпрымальніца, якая мае ўласны біяграфічны цэнтр, што займаецца напісаннем чалавечых гісторыяў ды сямейнымі жыццяпісамі. Лютц — кіраўнік таварыства «Песня і сацыяльныя рухі».

### Піянерыя, джаз, апазіцыя…

Катрын распавядае, што нарадзілася ў 1960 годзе ў Ене. Яе пакаленне, то бок народжаных паміж 1957 і 1963 гадамі, у ГДР было прынята называць «залатым» — іх маладосць прыйшла ў часы максімальнага дастатку.

«Мы па максімуме карысталіся дасягненнямі сацыялізму, — распавядае Катрын, — усяго хапала. Пры гэтым у моладзевым жыцці суседнічалі піянерыя ды Саюз Моладзі ГДР з кабарэ, джазам, блюзам, групоўкамі апазіцыі… Маёй марай было наладзіць масток паміж апазіцыяй, універсітэцкай прафесурай ды тэхнакратамі з заводу Карла Цэйса ў Ене».

Навядзенне мастоў, аднак, скончылася для жанчыны нечакана: на пачатку 1980-х гадоў яе выключылі з універсітэту, пасля чаго давялося працаваць бармэнкай, паштаркай, звычайнай рабочай на хлебазаводзе. У 1985-м спадарыня Раншток працавала нават у «Моладзевым клубе» ды займалася… сацыялізацыяй скінхедаў і вяртаннем іх у сацыяльнае рэчышча.

У пэўны момант жанчына нават напісала заяву на выезд у ФРГ, але пасля перадумала. Бацькі б у любым разе засталіся па ўсходні бок сцяны, дый вера ў сацыялізм, як ні дзіўна, не адпускала. Але цікавы сам факт: няўжо можна было наўпрост узяць і напісаць заяву на выезд?..

«Ена была цэнтрам апазіцыі, — тлумачыць Катрын. — Ад сярэдзіны 1970-х ад насельніцтва ішло шмат заяваў, частку якіх задавальнялі. Нядобранадзейным нават раілі пісаць заявы — маўляў, няма чалавека, няма праблемы. Адказу на заяву часам даводзілася чакаць па 2–3 гады. Але самае галоўнае — тое, што гэта была рызыка: калі цябе не выпускалі, дык біяграфія была сапсавана на ўсё жыццё — «ты напісаў»…

Падзенне сцяны, са словаў Катрын, для ўсіх было шокам, нават для апанентаў гэдээраўскага ладу. Людзі апынуліся негатовымі, шмат хто трапіў за борт сацыяльнага жыцця і кар'ернага росту, прафесура працавала таксістамі…

### Я і зараз за сацыялістычную эканоміку!

Спадарыня Раншток пачала пісаць гісторыі людзей, сем'яў ды арганізацыяў на камерцыйнай аснове.

«Адзін з найцікавейшых праектаў, над якім мы зараз працуем, — працягвае Катрын, — серыя мемуараў дырэктараў буйных прадпрыемстваў ГДР. Гэтыя веды даюць магчымасць зразумець эканоміку той краіны, асэнсаваць тое, што мы згубілі. Усё ж такі гэта была эканоміка, разлічаная на агульны дабрабыт, а не на камфорт адзінак. Калі б давялося выбіраць, то я і зараз за такую эканамічную мадэль!»

Са словаў Катрын, даходы ад праекту ў лепшым разе пакрываюць выдаткі на яго. Але справа таго каштуе: з былымі дырэктарамі, якія пасля 1989 года і падзення Сцяны пазбавіліся пасадаў і мелі процьму праблемаў, так ніхто і не паразмаўляў. Сам імідж ГДР як «непаўнавартаснай дзяржавы», згодна спадарыні Раншток, трэба пераасэнсоўваць ды пераглядаць з розных бакоў.

Таварыства «Песня і сацыяльныя рухі» Лютца Кірхенвітца — ні ў якім разе не камерцыйны праект, а хутчэй прыстанак настальгіі. Сам сп. Кірхенвітц, народжаны ў 1945 годзе, лічыць сябе «шасцідзясятнікам». Разам з сябрамі яны прыдумалі і арганізавалі «Фэст палітычнай песні». Нягледзячы на шакуючую, як на той час назву, песні і тэксты былі нечым кшталту творчасці савецкіх бардаў, роднасным жанрам. Высоцкага і Акуджаву некалькі разоў нават спрабавалі запрасіць на фестываль, але моўны бар'ер, відаць, адыграў сваю ролю: публіку яны не надта цікавілі.

Палітычны аспект усё ж такі даваў пра сябе ведаць. У залежнасці ад сітуацыі, фэст то забаранялі, то ўзводзілі ў ранг ледзьве не галоўнай музычнай падзеі ГДР. У гэтым, мабыць, і чытаецца сутнасць гэдээраўскага крэда, якое так нагадвае сучасныя беларускія рэаліі: няма татальных забаронаў, але і свабоды — няма.



Зараз Лютц займаецца захаваннем памяці пра фэст і песенную культуру свайго часу. Вакол яго гуртуюцца аматары падобнай эстэтыкі, каб не забыць пра краіну, у якой прайшла іх маладосць. Сучасную моладзь гэта не вельмі цікавіць: «ГДР не ў модзе…» — пацiскае плячыма рэферэнт.

Калі бліжэй зірнуць на тую тэрыторыю, якая некалі называлася «ГДР», то ўражанне складаецца даволі дэпрэсіўнае: беспрацоўе, зніжэнне колькасці насельніцтва, занепад прамысловасці (усё выкупілі альбо наўпрост выціснулі з рынку заходненямецкія фірмы ды кампаніі). Усяго 10% маёмасці ў краіне належыць усходнім немцам, рэшта — спадчыннікам ФРГ.

Пасля падзення Сцяны адбылася поўная замена элітаў. Цікава, што ўсяго 2% прафесуры мае гэдээраўскае мінулае, рэшта — вывучаныя наноў альбо прыехаўшыя з захаду кадры.

Успрыманне ГДР пры гэтым рознае: ад рэзкага негатыву да непрыхаванай настальгіі. Тут дзейнічае, напрыклад, аб'яднанне «Трэцяе пакаленне з Усходу», якое складае моладзь, што спрабуе намацаць сувязь паміж савецкім мінулым ды сучаснасцю, не расчапіцца ў мультыкультурнай Германіі сённяшняга дня.

### Сам-насам з праблемамі

Яшчэ адзін феномен — падтрымка ўсходнімі немцамі правարадыкальных, як тут кажуць, партыяў і палітычных рухаў, якія крытычна глядзяць на Еўрасаюз ды прыток бежанцаў з Поўдня ды Блізкага Усходу. Пра гэта сведчаць вынікі галасавання на выбарах рознага ўзроўню, цягам якіх усходнікі падтрымалі партыю «Альтэрнатыва для Германіі».

«Гэты феномен досыць лёгка патлумачыць, — разводзіць рукамі спадарыня Раншток. — Пасля знікнення ГДР людзі апынуліся ў разгубленасці ды не маюць шанцаў на паўнавартасную эканамічную інтэграцыю. З боку левых ніякай падтрымкі не было, таму насельніцтва кідаецца ў іншы бок, аддаючы галасы правым».

Некаторыя статыстычныя лічбы адносна былой ГДР падаюцца наўпрост неверагоднымі. Ёсць раёны, 80% насельніцтва якіх наўпрост з'ехалі ў ЗША, Швейцарыю ці хаця б Заходнюю Германію.

«У ГДР праца была ў кожнага, — рэзюмуе Катрын, — а зараз — самі бачыце. Прыклад Марцана (раён ва ўсходнім Берліне. — рэд.) — акурат з гэтай серыі. Няма грошай… Людзі думаюць, як выжыць, а не як схадзіць у рэстаран альбо тэатр. Няма адчування стабільнасці ды ўпэўненасці. Калі чалавек нешта меў і нешта важыў у ГДР, то зараз ён апынуўся проста замкнёны ў сваім шкарлупінні, сам-насам з праблемамі і выклікамі сучаснасці».

Безумоўна, праблема Усходняй і Заходняй Германіі значна больш складаная, і наўрад ці можа быць вытлумачаная ў адным артыкуле. Зразумела адно: Сцяна працягвае сваё нябачнае існаванне і зараз.

Для беларусаў, у сваю чаргу, праблемы былой ГДР і яе насельнікаў — гэта бясцэнны досвед. Хто ведае, як будзе выглядаць палітычнае і сацыяльна-эканамічнае поле нашай краіны праз 3–5 гадоў і як адрэагуюць нашы суграмадзяне на раптоўныя змены ў бок адкрытага рынку.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Варта адзначыць, што захаванне ілюзорнага палітычнага суверэнітэту Мінска выгадна Крамлю. Па-першае, гэта дазваляе знізіць ступень трывогі суседзяў Беларусі з нагоды нарошчвання на яе тэрыторыі вайсковай прысутнасці Расіі да таго часу, калі ўжо будзе позна нешта мяняць. Па-другое, умоўна незалежны Мінск можа быць інструментам знешнепалітычных гульняў Крамля.

**«Дзеркало тижня» (Украіна)**

Паміж Беларуссю і Азербайджанам вельмі вялікае падабенства ў падыходах да крытыкі, да свабоды выказвання меркавання, таму, магчыма, яны знайшлі агульную мову. Ёсць такое падазрэнне, што Аляксандр Лапшын (расійскі блогер, арыштаваны ў Мінску за наведванне Нагорнага Карабаху) мог чымсьці дапячы нават не Азербайджан, а «Бацьку», і Лукашэнка, каб не трапляць пад міжнародную крытыку, мог дамовіцца з Азербайджанам, што ён выдае Лапшына Азербайджану, а той прыбірае крытыка з вачэй. Заўтра ў Азербайджане якога-небудзь беларуса альбо крытыка Лукашэнкі арыштуюць і выдадуць.

**«Эхо Кавказа» (Грузія)**

Кіраўнік Беларусі ўпаўнаважыў Камітэт дзяржбяспекі правесці перамовы з расійскім бокам па праекце пагаднення аб удзеле падраздзяленняў спецыяльнага прызначэння ў сумесных контртэрарыстычных акцыях, якія праводзяцца на тэрыторыі РБ і РФ. Тэкст пагаднення не апублікаваны. Указ, які на законнай падставе дазваляе спецназу чужой дзяржавы праводзіць аперацыі на тэрыторыі Беларусі, выклікаў трывогу ў беларускай грамадскасці… Цяперашняя сітуацыя разглядаецца па аналогіі з падпісаннем пакта Молатава—Рыбентропа ў 1939 годзе.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Што тычыцца Беларусі, то тут, на думку аналітыкаў, трэба ўлічваць наяўнасць узаемазалежнасці Расіі і Беларусі. Беларусь па шэрагу прычын рознага парадку апынулася паміж дзвюх зонаў уплыву, паміж Захадам і Усходам, што адбілася і на яе знешняй палітыцы. У афіцыйных стратэгіях Мінск так ніколі і не абмалёўваў выразнай траекторыі і прыярытэтаў, рашэнні залежалі ад канкрэтнай сітуацыі і ацэнкі Лукашэнкі, часта заснаванай на кароткатэрміновым прагматызме і пошуку хуткіх выгод. Але трэба ўлічваць, што Беларусь залежыць ад Расіі па шэрагу стратэгічных напрамкаў. Яна залежная ў ваеннай сферы і сферы стратэгічнай бяспекі, залежная эканамічна і культурна. А адным з галоўных аспектаў, калі весці гаворку пра бяспеку рэгіёну, з'яўляецца залежнасць Беларусі ад Расіі ў ваеннай сферы.

**«Delfi» (Літва)**

Кітайскія звязаныя крэдыты зусім не спрыяюць развіццю нацыянальнай прамысловасці. Беларускія прадпрыемствы не вытрымліваюць канкурэнцыі з кітайскімі таварамі і вымушаныя закрывацца або згортваць вытворчасць. А вось пакрываць свае абавязацельствы па кітайскіх звязаных крэдытах Мінску давядзецца жывымі грашыма (дакладней, доларамі і іншай замежнай валютай). Таму вялікая верагоднасць, што Беларусь вымушана будзе расплачвацца па кітайскіх крэдытах капіталам і актывамі айчынных прадпрыемстваў.

**ФСК (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАДЖЫКІСТАН. Чым горшыя за казахаў?

Рашэнне Нацбанка Казахстана ўвесці ў абарот банкноту з выявай любімага Елбасы не засталося без увагі суседзяў. На мінулым тыдні кіраўніцтва Нацыянальнага Банка Таджыкістана ўхваліла прапанову жыхара горада Ісфара наконт выпуску новай купюры ў 1000 самоні з партрэтам Эмамалі Рахмона. Ідэю выпусціць купюру з партрэтам кіраўніка дзяржавы прапанаваў сціплы настаўнік адной з мясцовых школ Асадаў. Самае цікавае, што з адпаведным зваротам ён выступіў яшчэ год таму, аднак толькі цяпер на ініцыятыву Асадава звярнулі ўвагу. Відавочна, гэта звязана з тым, што за апошні год парламент ухваліў цэлы пакет законаў, які падымае статус Рахмона як першага таджыкскага правадыра. Напрыклад, да канца жыцця ён атрымлівае права ўмешвацца ў заканадаўчы працэс. Дарэчы, Асадаў прапанаваў дызайн яшчэ некалькіх банкнот, але на гэтыя прапановы ўвагі не звярнулі.

**Паводле таджыкскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Як перамагчы ляноту?

Іспанскі ўрад вуснамі міністра занятасці Фацімы Баньез заявіў пра намер радыкальна змяніць рабочую этыку іспанцаў. Традыцыйна іспанцы на працоўным месцы, мякка кажучы, не напружваюцца. Дастаткова ўзгадаць пра сіесту — абедзенны перапынак, які можа цягнуцца некалькі гадзін. Акрамя таго, спаць іспанцы ідуць звычайна ў гадзіну ночы, у выніку чаго многія не высыпаюцца і дасыпаюць на працы. Такія паводзіны многія звязваюць з тым, што краіна жыве па сярэднееўрапейскім часе, які не адпавядае біялагічным рытмам. Цікава, што так было не заўсёды. Іспанія перайшла на сярэднееўрапейскі час у 1940 годзе па загадзе дыктатара Франка, які хацеў такім чынам сімвалічна падкрэсліць, што краіна будзе жыць па адным часе з саюзным гітлераўскім Берлінам. Чамусьці пасля смерці Франка зменаў у гэтай галіне не было. І вось зараз ідэя ўзбадзёрыць нацыю за кошт пераводу стрэлак гадзіннікаў адрадзілася. Што з гэтага атрымаецца — невядома, бо многім іспанцам падабаецца не вельмі напружаны рытм працы.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### КАЛУМБІЯ. Партызаны стварылі партыю

Шэсць дэлегатаў, якія паводле мірнай дамовы прадстаўляюць інтарэсы лявацкай паўстанцкай групоўкі FARC (Рэвалюцыйныя ўзброеныя сілы Калумбіі) у кангрэсе, заявілі пра намер сфармаваць партыю. Пакуль што дзяжурная назва новай структуры — «Голас за мір і прымірэнне». У прынцыпе, такі ход трэба было чакаць, паколькі дамова паміж урадам краіны і FARC дапускае ўдзел былых паўстанцаў у выбарах 2018 года. Ці атрымаецца «Голасу» трансфармавацца ў сур'ёзную палітычную сілу — пытанне няпростае. Правыя групоўкі ненавідзяць паўстанцаў і дапускаюць забойства як форму барацьбы з «чырвонай пагрозай». Таму ў парламент кіраўніцтва FARC вырашыла накіраваць далёка не лепшыя свае кадры. Застаецца дадаць, што ў гісторыі Лацінскай Амерыкі ёсць цэлая катэгорыя партый, якія былі створаны на базе партызанскіх рухаў. Некаторыя з іх былі нават пры ўладзе, а ў Нікарагуа Сандзінісцкі фронт нацыянальнага вызвалення наогул з'яўляецца вядучай партыяй.

**Паводле іспанскай прэсы**

### РАСІЯ. Ішак пасварыў узбекаў і рускіх



Рэклама новага рэстарана «Eshak», адкрытага ў Екацярынбургу расійскім комікам Сяргеем Светлаковым, абурыла прадстаўнікоў узбекскай дыяспары. На рэкламе ўбраны ў традыцыйны ўзбекскі падшываны халат і цюбецейку Сяргей Светлакоў з казаном плову ў руках. А з-за пляча расійскага коміка вызірае ішак. Некаторыя прадстаўнікі ўзбекскай дыяспары горада не знаходзяць тут нічога смешнага — на іх думку, узнікае ўражанне, што асёл належыць да ўзбекскай нацыі. Лідар узбекскага зямляцтва ўжо звярнуўся да пракурора з просьбай праверыць рэкламу на наяўнасць прыкмет экстрэмізму. Ёсць інфармацыя, што МЗС Узбекістана ўжо накіравала дыпламатычныя ноты пасольствам у Расіі і Украіне, дзе ў Светлакова таксама ёсць рэстараны сеткі «Eshak». Не выключана, што Светлакову прыгадалі і папулярнае гумарыстычнае шоў «Наша Russia», дзе акцёр выконваў ролю прараба двух працоўных мігрантаў з Сярэдняй Азіі. Цікава, што некаторыя ўзбекі падтрымалі Светлакова, бо лічаць асла сімвалам працавітасці.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

# Новы год — 14 студзеня?

Алег НОВІКАЎ

**Кволая рэакцыя расійскай грамадскасці на дзяжурную прапанову — вярнуцца да юліянскага календара, — сведчыць пра ўзмацненне ў краіне кансерватыўнага трэнду.**



Адна з відавочных заганаў пуцінскай мадэлі «кіраванай дэмакратыі», калі ўсё вырашае расійскі правадыр і яго атачэнне, — імітацыя дэмакратычных працэдураў. У такой сітуацыі сістэмныя палітыкі вымушаныя прадукаваць загадзя нерэальныя, але гучныя законапраекты, якія дапамагаюць ім вылучыцца на агульным фоне і нагадаць пра сябе выбаршчыкам.

Якіх толькі арыгінальных прапаноў ні агучвалі спікеры і дэпутаты расійскіх думскіх партый за апошнія часы! Увесці абмежаванне на негатыўныя навіны, каб паведамленні пра вайны, тэракты, крызісы, эпідэміі і катастрофы займалі не больш за 10% эфірнага часу выпуску тэленавінаў; пазбаўляць грамадзянства і высылаць з краіны расіянак, якія выйшлі замуж за замежнікаў; перафарбаваць Крэмль у белы колер, і гэтак далей. Як правіла, такія заявы не маюць асаблівых наступстваў. У лепшым выпадку, яны некалькі дзён трымаюцца ў інфармацыйнай стужцы.

Падобны лёс чакаў і чарговую ідэю камуністаў, якія прапанавалі перанесці святкаванне Новага года з 1 на 14 студзеня. «У Расіі Новы год любяць і чакаюць усе — і дарослыя, і дзеці. Але ёсць адна праблема: маштабныя гулянні прыпадаюць на строгі калядны пост. Чаму мы, праваслаўныя, так не паважаем і не шануем сваю веру і культуру? У каталікоў усё правільна: 25 снежня — Каляды, потым Новы год», — аргументуюць сваю прапанову зюганаўцы.

Пазітыўныя вынікі каляндарнай рэформы, калі верыць аўтарам, цяжка пераацаніць. У тым ліку яна дазволіць ацвярэзіць суайчыннікаў. Як гаворыцца на сайце КПРФ: «Зараз народ ад канца снежня пускаецца ва ўсе цяжкія. Раство — свята ціхае і сямейнае. Як следства, калі Новы год будзе прыходзіцца на 14 студзеня, гэта будзе стрымліваць насельніцтва ад п'янства, таму што 15–16 студзеня трэба будзе выходзіць на працу пасля калядных вакацый».

Першая рэфлексія на прапанову камуністаў — прастрацыя. Менавіта бальшавікі былі асноўнымі лабістамі пераходу на грыгарыянскі каляндар. Малавядома, але сябрам Саўнаркаму, якія разглядалі гэтае пытанне 16 лістапада 1917 года, прапаноўваўся і памяркоўны варыянт: кожны год адкідаць па 24 гадзіны і на працягу 13 гадоў атрымаць каляндар, як у Еўропе. Аднак асабіста Ленін катэгарычна настаяў на ўвядзенні заходнееўрапейскага варыянту. Беручы пад увагу гэтую гісторыю, ёсць усе падставы трактаваць учынкі сучасных камуністаў як следства нейкіх дэвіяцый, якія вартыя выключна смеху.

Сапраўды, жартаў на гэты конт ужо хапае. На інтэрнэт-форумах заклікаюць адмяніць метрычную сістэму і перайсці на вымярэнне «ў лакцях». Або ўвесці ў КПРФ замест старшыні пасаду «Патрыярх Кампартыі», а замест статуту выкарыстоўваць Біблію. Пра слабую нізавую падтрымку праекту сведчаць і

**Менавіта бальшавікі былі асноўнымі лабістамі пераходу на грыгарыянскі каляндар. Сябрам Саўнаркаму, якія разглядалі гэтае пытанне 16 лістапада 1917 года, прапаноўваўся і альтэрнатыўны варыянт. Аднак асабіста Ленін настаяў на рэформе**

вынікі галасавання пад інтэрнэт-петыцыяй камуністаў. За месяц ідэю перанесці Новы год на 14 студзеня падтрымалі каля 300 падпісантаў і больш за 1200 выказаліся супраць.

Аднак нечакана ініцыятыву КПРФ падтрымалі прадстаўнікі палітыкуму і эліты. Прычым, не толькі асобы кшталту Жырыноўскага або саратаўскіх арыстакратаў — апошнія прапанавалі ў якасці эксперыменту аднавіць дарэвалюцыйны каляндар на тэрыторыі Саратаўскай вобласці. Далучыўся да камуністаў скандальны блогер Усевалад Чаплін. Ён лічыць, што традыцыя сустракаць Новы год 1 студзеня — праява комплексу непаўнавартасці праваслаўных. «Мусульмане і іудзеі лічаць для сябе магчымым захоўваць каляндар, які адрозніваецца ад заходняга, і ніхто ад гэтага не памёр. Чаму мы да гэтага часу не можам пазбавіцца псіхалагічнай залежнасці ад Захаду ў каляндарным пытанні?» — задаецца пытаннем Чаплін.

У падтрымку пераносу Новага года нечакана выступіла РПЦ, якая раней традыцыйна ўстрымлівалася ад каментараў адносна такога кшталту прапаноў. Нагадаем, што ўпершыню ідэя вяртання юліянскага календару была агучана ў Дзярждуме ў 2006-м нацыяналістам Сяргеем Бабурыным.

Зараз кіраўнік Патрыяршай камісіі па пытаннях сям'і, абароны мацярынства і дзяцінства протаіерэй Дзмітрый Смірноў выказаўся за ідэю перайсці ад грыгарыянскага календара да юліянскага. Праўда, пры гэтым ён прызнаў, што пакуль большасць грамадзян Расіі не зразумеюць, навошта святкаваць Новы год 14 студзеня.

Ці сапраўды ў Расіі збіраюцца перанесці Новы год на 14 студзеня? Дэбаты вакол каляндарнага пытання каментуе маскоўскі журналіст **Дзмітрый Ільін:**

— Нягледзячы на тое, што ўсё больш фракцый грамадства пагаджаюцца з ідэяй рэформы календару, пакуль у такую перспектыву верыцца цяжка. Аргументы аматараў каляндарнай рэформы супярэчаць элементарнай логіцы. Тым праваслаўным расіянам, якія трымаюць пост і стала ходзяць у храм, рэформа непатрэбная. Яны Новы год і так не святкуюць, паколькі для гэтых людзей сапраўднае свята — Божае Нараджэнне. Акрамя таго, ідэю адзначаць Новы год 14 студзеня падтрымлівае толькі РПЦ. Усе астатнія Праваслаўныя Цэрквы адзначаюць яго менавіта 1 студзеня, а Раство — 25 снежня. Так што незразумела, пра каго вырашыў паклапаціцца Зюганаў. Аднак нельга ігнараваць тое, што па гэтым пункце адбылася змычка ідэалагічна заўзятых антаганістаў — РПЦ і КПРФ. Ствараецца кансенсус пад канчатковае абгрунтаванне асаблівага, асобнага ад еўрапейскага рускага шляху.




Фота www.peacekeeper.ru

# Балканская анамалія

Алег НОВІКАЎ

**Еўропа, падаецца, ужо звыклася з трыумфальным электаральным маршам папулістаў-еўраскептыкаў. У гэтым сэнсе навіны з Румыніі і Македоніі, дзе ў мінулыя выходныя на выбарах перамаглі праеўрапейскія сілы, цягнуць на сенсацыю. У прэсе нават з'явіўся правакацыйны тэзіс: Еўрасаюз выратуюць не заможныя, а бедныя еўрапейскія краіны.**

Сенсацыя нават падвоеная, калі ўлічыць, што пераможцы ў Румыніі і Македоніі належаць да лагеру сацыял-дэмакратаў. Еўрапейская сацыял-дэмакратыя знаходзіцца не ў лепшым стане. Напрыклад, у Францыі ўсё ідзе да таго, што ўпершыню практычна за 50 гадоў кандыдат ад сацыялістаў не выйдзе ў другі тур прэзідэнцкіх выбараў.

І тут з Бухарэста паведамілі, што мясцовыя сацыял-дэмакраты атрымалі 46 працэнтаў у абодвух палатах парламента. Праз нейкі час прыйшла аналагічная інфармацыя са Скоп'е. Варта зазначыць, што эсдэкі перамаглі ў краінах, якія лічацца раем для нацыяналізму і папулізму. Тая ж Румынія — адна з самых бедных краін ЕС, прыкладна траціна яе грамадзян шукае лепшай долі за мяжой. Тым, хто застаўся, уласцівыя моцныя нацыяналістычныя і аўтарытарныя забабоны. З улікам разгулу карупцыі, выбары даўноператварыліся ў кірмаш кандыдатаў, звязаных з лакальнымі алігархамі, якім належаць усе ўплывовыя медыя.

Выбары ў мінулы ўік-энд, падаваліся, толькі замацуюць трэнд. Аднак нечакана мы сталі сведкамі катастрофы правых папулістаў і фурору эсдэкаў, якія засталіся вернымі еўрапейскай рыторыцы.

Палітолагі цяпер намагаюцца зразумець румынскую анамалію. Нават беручы пад увагу мясцовую спецыфіку і розныя малавядомыя фактары, уздымаецца правакацыйнае пытанне: ці здольныя бедныя Балканы выканаць місію выратавальніка еўрапейскай інтэграцыі? Так — адказваюць некаторыя. «Апынуўшыся ва ўладзе, сацыял-дэмакраты Румыніі могуць выступаць у якасці найбольш дысцыплінаванай партыі еўрапейскага мэйнстрыму і служыць надзейнай праеўрапейскай палітычнай сілай», — піша нямецкая TAZ.

Такі падыход ахвотна ілюструюць лічбамі. Прасочваецца заканамернасць: чым вышэй паказчыкі эканамічнага дабрабыту краіны, тым лепшыя вынікі дэманструюць партыі, настроеныя да Еўрасаюза скептычна. Выключэнне ў гэтай групе складаюць толькі Грэцыя, дзе валавы нацыянальны прадукт (ВНП) ніжэй за сярэднееўрапейскі і роўны $20290, і Венгрыя (ВНП — $ 12990) са сваімі праблемамі, якія паўплывалі на папулярнасць еўраскептычных настрояў у насельніцтва, — напрыклад, тэма міграцыі.

З іншага боку, дзесяць краін, якія дэманструюць самыя горшыя паказчыкі па ВНП на душу насельніцтва, належаць да Усходняй Еўропы. Тая ж Румынія знаходзіцца на перадапошнім месцы (тут ВНП роўны $9500). Горшы паказчык толькі ў Балгарыі ($7200). Аднак ні румынская, ні балгарская палітычныя эліты не сумняюцца адносна еўрапейскага выбару. «Ні ў адной з усходнееўрапейскіх краінаў не чакаецца з'яўлення руху за выхад, ці палітычных сілаў, якія падвяргаюць сумневу саму ідэю Еўрасаюза», — сумна канстатуе расійская прэса.

Гэты парадокс некаторыя намагаюцца растлумачыць тым, што альтэрнатывы інтэграцыі ў Еўропу для краін на перыферыі ЕС фактычна няма. Дыскусіі пра выхад з аб'яднання могуць дазволіць сабе толькі заможныя краіны, дзе ёсць нейкія падмуркі для нацыянальнай самастойнай гаспадаркі.

Праўда, у ідэі, што бедныя Балканы змогуць збалансаваць націск еўраскептыкаў, хапае апанентаў. Па-першае, усё ж галоўную скрыпку ў аб'яднанні будуць гуляць заможныя краіны, дзе еўраскептыцызм становіцца сёння амаль модай.

Па-другое, еўрапейскасць румынскіх эсдэкаў ставяць пад вялікае пытанне. Сярод іх, напрыклад, таксама хапае карупцыянераў, якія будуць рабіць усё, каб Румынія не імплементавала антыкарупцыйнае заканадаўства ЕС. Плюс румынскія сацыял-дэмакраты — не класічная левацэнтрысцкая партыя, электаральнай базай якой выступаюць прафсаюзы. Электарат эсдэкаў мае мазаічны характар. Ёсць у партыі і людзі, якіх цяжка лічыць еўрапейцамі, і партыйнае кіраўніцтва павінна ўлічваць падобныя настроі.

Напрыклад, феміністычныя лозунгі або заклікі да шлюбаў геяў — звычайныя рэчы на Захадзе, — застаюцца для румынскіх эсдэкаў табу. Нават наадварот — мясцовыя эсдэкі былі не супраць выкрасліць з тэксту румынскай Канстытуцыі блок, які ў мяккай форме дазваляе аднаполыя шлюбы.

Напэўна, каб высветліць, хто мае рацыю ў гэтых дэбатах, спатрэбіцца паглядзець на канкрэтныя крокі новага кабінету. Будучая палітыка сацыял-дэмакратаў ужо зараз выглядае вельмі інтрыгуючай. Напрыклад, цікавы курс адносна Малдовы, дзе нядаўна прэзідэнтам стаў прарасійскі сацыяліст Ігар Дадон, якія абяцае пераарыентацыю краіны на Маскву. Папярэдні румынскі ўрад прытрымліваўся ідэі інкарпарацыі Малдовы.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ангела Меркель



Лічыцца, што канцлер Германіі зрабіла першы крок да таго, каб ператварыць Чэмпіянат свету па футболе ў 2018-м у Расіі ў палітычную акцыю супраць пуцінскага рэжыму.

Падставай для такіх высноў стала нечаканая актыўнасць Нямецкага футбольнага саюза, які раптам выступіў у абарону грамадзянскіх свабод у Расіі. На гэты конт выказаўся былы футбаліст, а зараз менеджар нацыянальнай зборнай ФРГ Алівер Бірхоф. Акрамя крытыкі на адрас Масквы функцыянер паабяцаў, што сваю пазіцыю на гэты конт немцы прадэманструюць падчас турніру ў 2018-м. У якой форме будзе выказаная незадаволенасць нямецкіх спартсменаў унутранай палітыкай Крамля, Бірхоф пакуль не ўдакладніў. Аднак тое, што заявы Бірхофа транслявалі ўсе СМІ Германіі, сведчыць: за гэтымі выказваннямі яўна стаяць людзі з федэральнага ўраду.

Праўда, нельга выключаючь, што антырасійская футбольная фразеалогія звязаная выключна з выбарчай кампаніяй. Меркель, як вядома, падчас выбараў робіць стаўку на крытыку Пуціна. Так ці інакш, каментатары не выключаюць, што словы Бірхофа — гэта пачатак выпрацоўкі на Захадзе нейкай агульнай тактыкі паводзін падчас Мундыяля. Бліжэйшая будучыня дасць адказы на пытанне, што сапраўды задумаў Захад. Пачатак найбуйнейшых футбольных баталій у Расіі ўжо не за гарамі.

### Ігар Каламойскі



Украінскі алігарх, які ў свой час падтрымаў Майдан і, будучы губернатарам Дняпрапятроўшчыны, актыўна фінансаваў добраахвотніцкія антысепаратысцкія фармаванні, пагадзіўся на перадачу дзяржаве банка «Прыват». Банк — дэ-факта падмурак банкаўскай сістэмы Украіны (у «Прываце» трымаюць рахункі каля 40% украінскіх укладчыкаў).

Адмова ад «Прывату» з пункту гледжання бізнесу была цалкам лагічнай — банк знаходзіцца на мяжы банкруцтва, для яго існавання неабходна ў самы хуткі час знайсці каля 5 мільярдаў долараў. Аднак як палітычны гулец, аддаўшы дзяржаве «Прыват», Каламойскі, бачна, сканаў. Фактычна, цяпер ён не будзе здольны фінансаваць свае палітычныя праекты, — напрыклад, партыю «Укроп».

Сыход Каламойскага з украінскага палітычнага рынку, дзе шмат што вызначаюць грошы спонсараў, азначае перамогу клану Парашэнкі, у якога цяпер напросту няма вартых канкурэнтаў. Як следства, паўстае праблема рэсурсаў для тых, хто выступае супраць Парашэнкі. Перш за ўсё, гэта тычыцца Юліі Цімашэнка — асноўнай апаненткі цяперашняга прэзідэнта, якая актыўна рыхтуецца да хуткіх пазачарговых парламенцкіх выбараў.

Праўда, пакуль нацыяналізацыя «Прывата», хутчэй, ударыла па рэйтынгу Парашэнкі. 5 мільярдаў долараў на рэкапіталізацыю банку будуць шукаць у бюджэце, што фактычна гарантуе рост інфляцыі. Гэта ўжо выклікала ў краіне буйны попыт на валюту. Акрамя таго, дробны і сярэдні ўкраінскі бізнес, які працуе звычайна нелегальна, трымаў рахункі ў «Прываце». Цяпер падатковая атрымлівае доступ да гэтай інфармацыі.

### Эва Маралес



Лідар Балівіі, першы індзейскі прэзідэнт у свеце, падчас кангрэсу сваёй партыі «Рух да сацыялізму» (MAS) заявіў, што хоча зноў балатавацца ў прэзідэнты ў 2019 годзе.

Праўда, ёсць адна праблема — Канстытуцыя краіны забараняе адной і той жа асобе кіраваць дзяржавай больш за два тэрміны. Маралес, які займае прэзідэнцкую пасаду з 2005 года і, будучы пераабраны ў 2009-м, больш абірацца не мае права. Аднак, як заявіў Маралес, для яго параграфы Канстытуцыі — не перашкода, паколькі яго новай прэзідэнцкай кадэнцыі жадае народ, а народ — вышэй за нейкія законы.

Як індзеец-прэзідэнт збіраецца вырашаць праблему з новым тэрмінам, пакуль не зразумела. Балівійскі закон дазваляе змяняць Канстытуцыю рознымі шляхамі: ад галасавання ў парламенце да рэферэндуму. Нягледзячы на тое, што нават сярод актыву MAS хапае крытыкаў палітыкі Маралеса, няма сумневаў, што ў выпадку балаціроўкі ён зноў стане кіраўніком краіны. Як сведчыць практыка, Маралес здольны мабілізаваць індзейскага выбаршчыка, які ў любым выпадку будзе галасаваць за чырванаскурага палітыка.

# Мілы богу і людзям, вечны выгнаннік і пілігрым

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**За спінай яго называлі «бабай», пра што ён, дарэчы, добра ведаў. Але не зважаў на гэта, таму што верыў: кожны чалавек выпраменьвае святло, якое ў стане змяніць свет.**



В.Ваньковіч. Партрэт Томаша Зана

Ва ўнутраным ліставанні кіраўніцтва філаматаў адзначала, што ён «да заданняў не здатны, у іх выкананні слабы і няўстойлівы, у суджэннях за ветрам ідзе». Тамаш Зан — адзін з заснавальнікаў таварыства філаматаў і самы папулярны сярод іх, стваральнік масавай таемнай арганізацыі «Таварыства прамяністых», шматлікія творы якога на беларускай мове згубіліся ў завірусе часу.

### Народжаны ў карчме

Тамаш Зан нарадзіўся 220 гадоў таму, 21 снежня 1796 года, у карчме вёскі Мясата Ашмянскага павета ў сям'і ўдзельніка паўстання Тадэвуша Касцюшкі — Караля Зана. Той вымушаны быў хавацца ад рэпрэсій расійскіх уладаў і мусіў уцячы. Маці Тамаша, Кацярына, вымушаная была бегчы з немаўлём Тамашом і старэйшым сынам Вінцэнтам у лес, каб не трапіць у рукі казацкім войскам. Толькі дапамога мясцовай сялянкі ўратавала ім жыццё.

Пасля амністыі Караль знайшоў працу аканома ў маёнтку Вязынь, а Тамаш пайшоў у парафіяльную школу мястэчка Узда. У 1807 годзе хлопец паступіў у гімназію ў Мінск, дзе, згодна Зану, «нянавісці і розніцы між нацыямі не ведалі». Яго сябрамі ў гімназіі сталі браты Міхал і Юзэф Верашчакі, праз якіх Зан пазнаёміўся з іх сястрой Марыляй, якая пры яго пасярэдніцтве пазней стала каханай Адама Міцкевіча.

З-за хваробы давялося пакінуць гімназію і перабрацца ў арандаваны бацькамі фальварак Выверы пад Маладзечна. Менавіта ў Маладзечанскай павятовай школе Тамаш завяршыў навучанне. Тут упершыню праявіліся яго арганізацыйныя здольнасці да розных забаў. Пад яго кіраўніцтвам вучні школы ладзілі гульню ў вайнушку, у якой удзельнічалі дзве арміі: адна лічылася войскам сілы — бога Марса (Расійскай імперыі), другая ж любові — армія бога Апалона (Рэчы Паспалітай).

### «Архіпрамяністы»

У 1815 годзе Тамаш Зан паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта, падпрацоўваў гувернёрам, увайшоў у разнастайныя таемныя таварыствы, у тым ліку масонаў, пакуль, урэшце, у 1817 годзе не стаў адным са стваральнікаў таварыства філаматаў. Аднак яго сур'ёзна не ўспрымалі нават найбліжэйшыя сябры, а яго ідэі выклікалі толькі смех.

Таму для іншых філаматаў стала сапраўднай нечаканасцю, калі ў сярэдзіне красавіка 1820 года тэорыя «прамяністасці» Зана ахапіла ўніверсітэцкую моладзь. Праз месяц нават скептычны ў адносінах да Зана Малеўскі вымушаны быў пісаць да Міцкевіча: «Пра Занаўскіх прамёнкаў пісаць, гэта пісаць пра рэчы, што пераходзяць у веру. Навёў вялікі шум, кажуць паўсюль, вітаюцца прамяністы...»

6 мая 1820 года была праведзена маёўка, на якую сабралася шмат моладзі. Гэтая падзея яшчэ больш папулярызавала ідэі прамяністых, захапіўшы студэнцкія інтэрнаты і ўсю Вільню. Па горадзе актыўна карысталіся словамі «распуснік» або «прамяністы», і нават дзеці сталі затыкаць насы, калі чулі брыдкія словы: «Злыя словы абуджалі ў прамяністых пачуццё дрэннага паху, таму на двузначныя рэчы ці мовы нос затыкалі».

Ігнат Дамейка апісаў свайго сябра, Тамаша Зана, як «сярэдняга росту, смуглаватага твару, з малымі агністымі вачыма і цёмнымі кучаравымі валасамі, з высокім ілбом, які трохі звужаўся ўверсе. Калі ён спяваў, імправізаваў, тады ад яго, казалі, ад чала і вачэй нібы сыходзіла прамення, якім проста паланяў сэрцы ўсіх, хто яго слухаў. Нездарма Зан атрымаў ганаровую мянушку «архіпрамяністы».

У адказ на пытанне бібліятэкара Кантрыма, што ж такое прамяністасць, сам Зан адказваў, што «ў гульнях мы хочам моладзь заахвоціць да шляхетнасці, да дабрачыннасці, да навукі спосабам вясёлым. Усе сілы, якія вядуць да добрага, — прамяністасцю, да злога — распустаю называем».

Уплыў Зана перайшоў усе чаканні. Папулярнасць гэтага дзівака, якім яго бачылі, абудзіла зайздрасць як сярод малодшых сяброў філаматаў, так і старэйшых. Выключнасць і пэўная таямнічасць, якой сябе акружылі прамяністыя, не магла падабацца іншым. Былы жаўнер Касцюшкі, універсітэцкі бібліятэкар Кантрым заўважыў:

**Дзейнасць таемных таварыстваў у Віленскім універсітэце зацікавіла царскія ўлады, якія ў 1823 годзе арыштавалі іх заснавальнікаў. Але Тамаш Зан узяў віну за заснаванне аб'яднанняў на сябе, чым ўратаваў астатніх**

«Той дурань альбо лайдак, калі не належыш да Прамяністых, бо гэта добрыя людзі».

Недапушчаныя да таварыства Зана заснавалі аб'яднанне «антыпрамяністых». Філамат Петрашкевіч ужо праз некалькі тыдняў пасля слыннай маёўкі паведамляў Міцкевічу: «Маем сяброў і несяброў. Першых лічба большая, але калі ўспомнім, што дробныя прычыны вялікія наступствы нараджаюць, тады да нешматлікіх непрыяцеляў належыць нам так адносіцца, як былі велькімі».

Студэнт Рукевіч, якога не ўзялі ў прамяністыя, перарабіў на манер зваротаў да айца-заснавальніка — Тамаша Зана, некалькі хрысціянскіх малітваў: «Ойча наш, прамёнку святла», альбо «Веру ў айца прамёнку». Гэта дайшло да біскупа, а ад яго да баязлівага рэктара Шымона Малеўскага, сын якога перадаў інфармацыю ад свайго бацькі да Міцкевіча: «Хутка дойдзе да Пецярбурга, не будзе часу тлумачыцца».

Зан жа быў у добрым гуморы. Жартаваў з віленскіх плётак, а ў прапагандзе прамяністасці бачыў добрыя вынікі: «Нарабіў гуку, ніколі аб тым не мысліў, ніколі не спадзяваўся. Шмат добрага з такога кроку, можам спадзявацца і шмат зрабілі...»

І ўсё ж дзейнасць таемных таварыстваў у Віленскім універсітэце зацікавіла царскія ўлады, якія ў 1823 годзе арыштавалі іх заснавальнікаў, у ліку якіх апынуліся Юзаф Яжоўскі, Адам Міцкевіч, Ян Чачот. Але Тамаш Зан узяў віну за заснаванне аб'яднанняў на сябе, чым уратаваў астатніх.

Перад адпраўкай у ссылку да яго пусцілі сям'ю і сяброў. У апошні вечар у камеры Зана сабралася некалькі дзясяткаў чалавек: «...Чачот пад акампанемент гітары Тамаша спяваў толькі што складзеную ім песню на народнай гаворцы, песню жалосную, развітальную, якая сваёй мелодыяй і зместам выклікала ўсеагульны плач...»:

*«Да лятуць, лятуць да дзікіе гусі,*
*Да нас павязуць да далёкое*
*Русі...»*

### Заснавальнік музея, геолаг, сябар Гумбальта

Нарэшце ў кастрычніку 1824 года Тамаша Зана выправілі ў ссылку ў Арэнбург, дзе год ён правёў у турме. 22 лістапада 1825 года яго вызвалілі. У вольны час Зан праводзіў геалагічныя даследаванні, збіраў нумізматычную, мінералагічную і заалагічную калекцыі. З-за абмежаванай колькасці адукаваных чыноўнікаў ваенны губернатар Сухтэлен прызначыў у 1830 годзе Зана ў Арэнбургскую памежную камісію. Менавіта знаходзячыся на дадзенай працы, Зан арганізаваў першы ў Арэнбургскім краі музей, заснаваны 24 лістапада 1830 года. Ужо праз год той налічваў больш за тысячу экспанатаў.

Пасля задушэння паўстання 1830–1831 годзе ў Арэнбургскай губерні з'явілася 2800 ссыльных з тэрыторыі Беларусі, Літвы і Польшчы. Зан дапамагаў уладкавацца сваім землякам. Але ў 1833 годзе па ілжываму абвінавачанню ўлады распачалі справу пра змову ссыльных і спробу ўзняць паўстанне. Тамаш у ліку абвінавачаных зноў апынуўся за кратамі.

Пасля таго, як улады разабраліся ў справе, Зан быў зноў выпушчаны на волю, каб яшчэ больш актыўна займацца навуковымі даследаваннямі. Ён пазнаёміўся з вядомым нямецкім вучоным Аляксандрам Гумбальтам, які прыехаў на Урал, і дзякуючы яму зацікавіўся геалогіяй. Тамаш Зан пачаў самастойныя геалагічныя росшукі, у выніку знайшоў радовішчы нафты, золата і іншых каляровых металаў.

У 1837 годзе яго навуковая дзейнасць была высока ацэнена імператарам Мікалаем І, і Зану дазволілі пераехаць у Санкт-Пецярбург. У сталіцы Расійскай дзяржавы ён займаўся апрацоўкай сабраных матэрыялаў і працаваў у бібліятэцы Горнага ўніверсітэта, у якім у 1839 годзе здаў экзамены на кваліфікацыю горнага інжынера. Двойчы Тамаш Зан выступаў з дакладамі ў Рускім геаграфічным таварыстве.

### «Мілы Богу і людзям»

У 1840 годзе Зан атрымаў дазвол вярнуцца на Радзіму. Ён спачатку працаваў у Віленскім корпусе горных інжынераў, затым інспектарам дзяржаўных маёнткаў, пакуль нарэшце не набыў маёнтак у Аршанскім уездзе і ў 1845 годзе не выйшаў у адстаўку. Здавалася, што цяпер можна адчуць, што такое сапраўдная воля, але Тамаш Зан цяжка захварэў. Як адзначае Ігнат Дамейка, «гэта быў пачатак вар'яцтва, якое прыйшло не адразу, нягледзячы на лекі, што давалі яму брат».

Сябры ўзялі на сябе клопаты за хворым. Яму дапамагала Марыля Верашчака, якая выйшла замуж за графа Путкамера і жыла ў маёнтку Больцінікі (сёння вёска ў Воранаўскім раёне). Тамаш вандраваў па сябрах, пакуль у вёсцы Аборак не пазнаёміўся з Брыгідаю Свентажэцкай. Нягледзячы на розніцу ў больш чым два дзясяткі гадоў, у кастрычніку 1846 года Брыгіда і Тамаш Зан ажаніліся. Далейшыя дзевяць гадоў Зан вёў актыўнае жыццё, займаўся краязнаўчымі росшукамі і літаратурнай творчасцю, а жонка падарыла яму чатырох сыноў.

Тамаш Зан памёр 7 ліпеня 1855 года ў набытым маёнтку Кахачын, з якім напачатку ён ніяк не мог справіцца, і таму наракаў на свой лёс «вечнага выгнанніка і пілігрыма».

«Мілы Богу і людзям» — менавіта такі надпіс пазначаны на магілках у Смалянах на помніку Тамаша Зана, асоба якога зрабілася легендай яшчэ пры жыцці.

# Колькі гадоў Дзеду Марозу?

Анатоль ТРАФІМЧЫК

**Усе прызвычаіліся ставіць вядомага навагодняга персанажа ў адзін шэраг са старажытнымі казачнымі героямі. Але насамрэч Дзеду Марозу толькі 80 гадоў.**

Хто такі Дзед Мароз? Вікіпедыя кажа, што гэта казачны персанаж усходнеславянскага гарадскога фальклору, створаны па матывах жыццяпісу Святога Мікалая і народных уяўленняў пра мароз. Існаванне Дзеда Мароза прывязваецца да зімовай змены каляндарнага года.

Але адлік новага года ў розныя часы вёўся па-рознаму. У славян такая перазменка прывязвалася да цыклу работ на зямлі. Таму нават пасля ўвядзення хрысціянства і — адпаведна — хрысціянскага календара, нашы продкі былі схільныя звязваць пачатак года з надыходам вясны (часцей кажуць пра 1 сакавіка, хоць гэта вельмі ўмоўна, бо арыенціроўка была не на хрысціянскі каляндар).

## Новы год 1 студзеня?

Традыцыя лічыць пачаткам года 1 студзеня ўзыходзіць да распараджэння рымскага імператара Юлія Цэзара, які ў 45 годзе да нараджэння Хрыстова ўвёў каляндар, названы юліянскім.

Першыя сведчанні пра адлік года ад 1 студзеня згодна з хрысціянскім календаром на беларускай зямлі адносяцца да XII стагоддзя. Тым не менш у народзе гэта яшчэ доўга не прыжывалася. Да таго ж у хрысціянстве адбыўся раскол (канчаткова ў XI стагоддзі), а праваслаўнымі было прынята весці гадавы адлік ад 1 верасня (гэта дзень пачатку заснавання свету).

І толькі ў 1583 годзе кароль Рэчы Паспалітай Сцяпан Баторый загадам увёў грыгарыянскі каляндар (уведзены папам Грыгорыем XIII за год да таго). З тых часоў Новы год на беларускіх землях пачалі афіцыйна адзначаць 1 студзеня. Дарэчы, большасць еўрапейскіх краін пераходзіла на сучасную традыцыю святкавання 1 студзеня на працягу XVI–XVII стагоддзяў. Таму ВКЛ сапраўды знаходзілася ў тагачасным цывілізацыйным трэндзе.

Зразумела, адразу прышчапіцца традыцыя не магла. Таму даследчыкі лічаць, што быў час, калі беларусы маглі адзначаць Новы год ажно тры разы: 1 студзеня, 1 сакавіка і 1 верасня.

Асобна зазначым, што ў Расіі адлік новага года з 1 студзеня быў уведзены толькі 1700 годзе ўказам Пятра I, але — па юліянскім календары, які, у сваю чаргу, быў зменены на грыгарыянскі толькі бальшавікамі ў 1918 годзе.

Праўда, пасля падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) беларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. Таму функцыянаванне грамадства па грыгарыянскім календары было перарванае.

Зрэшты, для беларускага сялянства апісаныя вышэй каляндарныя пертурбацыі не мелі прынцыповага значэння. Яно жыло ў культурнай парадыгме той рэлігійнай канфесіі, да якой належала. Паноўнымі ж былі праваслаўе, уніяцтва (1596–1839) і каталіцызм. Найважнейшае значэнне па-ранейшаму мелі і элементы паганства.

Таму тая ж упрыгожаная ялінка (яна з'явілася ў нас у XIX стагоддзі, але ў сялянскую хату прыйшла толькі ў XX) прынагоджвалася не да Новага года, а ў сувязі з Калядамі. Таму не было і святкавання Новага года як нейкай урачыстасці. Адпаведна, не была распрацавана і «праграма» свята, і Дзеда Мароза не існавала. Затое яго функцыі (перш за ўсё выканання жаданняў і дарэння прэзентаў) выконваў Святы Мікалай.

Яго прыход спачатку адбываўся 6 снежня. Але з'яўленне Святога Мікалая было перасунута да Раства Хрыстова ў сувязі з тым, што Рэфармацыя хрысціянства, якая разгарнулася па Еўропе ў XVI–XVII стагоддзях, не ўхваляла ўшанавання святых. Гэтым самым фактычна стварылася глеба для ўзнікнення Дзеда Мароза.

## Дзед Мароз: пачатак

У шматлікіх краінах аналагам Дзеда Мароза з'яўляецца сёння ўсім вядомы Санта-Клаус. Фармаванне яго вобраза пачалося з кнігі Вашынгтона Ірвінга «Гісторыя Нью-Ёрка», якая ўбачыла свет у 1809 годзе. У ёй гаварылася пра Святога Мікалая. Аднак апісаную гісторыю неўзабаве развіў іншы амерыканскі пісьменнік — Клемент Кларк Мур. Ён у 1823 годзе апублікаваў паэму «Ноч перад Раством, або Візіт Святога Мікалая». У гэтым творы ўпершыню і з'явіўся Санта-Клаус — казачны персанаж, які дорыць падарункі дзецям.

Да 1840 года перароджанага са Святога Мікалая Санта-Клауса ведалі па ўсіх Злучаных Штатах Амерыкі. У далейшым — праз творы выяўленчага мастацтва і розную літаратуру — вобраз узбагачаўся і «раскручваўся». Яго геаграфія ахапіла ўсю заходнюю цывілізацыю.

Падобная гісторыя генезісу і ў Дзеда Мароза. Сама прыродная з'ява марозу здаўна персаніфікавалася ўсходнімі славянамі. У міфалогіі беларусаў існаваў бог холаду Зюзя. У расіян яго называлі проста Марозам. Яго вобраз знайшоў адбітак у фальклоры. Узнік шэраг чарадзейных казак з такім персанажам.

У 1840 годзе расійскі пісьменнік-рамантык Уладзімір Адоеўскі апублікаваў апавяданне «Мароз Іванавіч». У ім развівалася традыцыя вобраза, закладзеная ў фальклоры. Сам вобраз Мароза яшчэ не быў прывязаны да Новага года.

Да кшталтавання вобраза спрычыніліся таксама такія творы, як паэма Мікалая Някрасава «Мароз, Чырвоны нос» (1863) і п'еса Мікалая Астроўскага «Снягурачка» (1873).

У другой палове XIX стагоддзя ў мяшчанскім асяродку Расіі назіраліся спробы стварэння самабытнага дзеда, які дарыў бы дзецям падарункі на Раство. Пасля шэрагу варыянтаў у 1886 годзе ўпершыню адзначаецца Марозка. З яго да пачатку XX стагоддзя вырастае блізкі да знаёмага нам вобраз Дзеда Мароза. Але замацавацца ён не паспеў — рэвалюцыі 1917 года прынеслі кардынальныя культурныя трансфармацыі.

Паколькі Беларусь тым часам уваходзіла ў склад Расійскай імперыі, дык гэта гісторыя мае дачыненне і да гарадоў «Паўночна-Заходняга краю».

## Дзед Мароз і Краіна Саветаў

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў пралетарскай культуры не было месца мяшчанству і рэлігійнасці. Вобраз Дзеда Мароза трапіў пад фактычную забарону разам са святочнай ёлкай. Хоць яшчэ пры Уладзіміры Леніне ёлка суіснавала з атэістычнымі павевамі. Асабліва строга забарона дзейнічала з 1929 года.

Аднак ужо ў 1935 годзе савецкім кіраўніцтвам з ухвалення Сталіна было вырашана вярнуцца да навагодняга дзейства з ёлкаю і Дзедам Марозам. Але прынагодзілі іх не да Раства (свята рэлігійнага, а таму непрымальнага), а да Новага года (свята свецкага).

1936 год савецкія дзеці сустракалі са святочнай ёлкаю. Яшчэ праз годзік — у студзені 1937-га — на навагоднім свяце ў маскоўскім Доме Саюзаў віталі гасцей Дзед Мароз і яго ўнучка Снягурка.

Калі ў дакастрычніцкі час ставілася на мэце вобразам Дзеда Мароза дапоўніць рэлігійнае святкаванне Раства Хрыстова, дык бальшавікамі гэты персанаж рэанімоўваўся ў супрацьвагу рэлігійнасці. Урачыстая сустрэча, святкаванне Новага года, хоць і была запачаткаваная Пятром I, але як масавая з'ява ўкаранілася пры савецкай уладзе і з дапамогай яе, каб пераключыць народ са святкавання Божага Нараджэння на аналагічны атэістычны арыенцір. Больш за тое, у сталінскі час Дзед Мароз быў персанажам не апалітычным, а ідэйным. Іншым разам даходзіла да таго, ён маляваўся… з курыльнай люлькай (у чым заключаўся намёк на вобраз Іосіфа Сталіна).

Трэба сказаць, што стаўленне да Дзеда Мароза ў савецкага кіраўніцтва развіваліся паралельна з палітыкай адносна казкі як жанру мастацкай літаратуры. На працягу 1920-х гадоў казка ўсё больш прызнавалася небальшавіцкім жанрам, а значыць, варожым савецкай уладзе. На дзяржаўным узроўні было вырашана пазбавіцца ад уплыву казкі на дзяцей. Аднак абсурдную памылку неўзабаве зразумелі — і казку вярнулі ў кола дзіцячага чытання. Сінхронна вярнуўся і Дзед Мароз.

Пасля Другой сусветнай вайны тандэм Дзеда Мароза і Снягуркі паспрабавалі дапоўніць хлопчыкам у чырвоным футры і шапцы з лічбавым азначэннем наступнага года. Хлопчык так і называўся — Новы Год — і выступаў пераемнікам Дзеда Мароза як года старога, мінулага. Пік папулярнасці хлопчыка Новага Года, як можна прасачыць пра тагачасных паштоўках, адносіцца да канца 1950 — сярэдзіны 1960-х гадоў. Але вобраз не прыжыўся і цяпер практычна забыты.

## А што ў Беларусі?

У Беларусі сітуацыя больш складаная. Дзед Мароз з'явіўся ў БССР у другой палове 1930-х гадоў. Але ў Заходняй Беларусі пра яго савецкую іпастась практычна ніхто не чуў. Там працягвалі культываваць вобраз Святога Мікалая. Тым не менш, у 1927 годзе з-пад пяра Сяргея Новіка-Пеюна пад псеўданімам Малады Дзядок у Вільні асобны кніжачкай быў надрукаваны «калядны абразок у 1-й дзеі» «Ёлка Дзеда Мароза».

Знаёмства з творам, аднак, гаворыць хутчэй пра перайманне расійскіх дакастрычніцкіх спроб увасаблення Дзеда Мароза ў суладдзі з беларускай фальклорнай традыцыяй вобраза Мароза-Зюзі.

Прапанаваны пісьменнікам беларускі варыянт вобраза не стаў распаўсюджаным. Прычыны гіпатэтычна бачацца ў тым, што гэты персанаж зараджаўся і развіваўся як сімулякр урбаністычнага культурнага кантэксту праваслаўных хрысціян. Між тым у гарадах Заходняй Беларусі пераважалі і дамінавалі ў міжваенны перыяд яўрэі (іудзеі) і палякі (каталікі). Беларускія культурныя асяродкі ў гарадской мясцовасці тым часам толькі фармаваліся.

«Бальшавіцкі» Дзед Мароз здолеў упершыню паўстаць перад «заходнікамі» адно напярэдадні 1940 года.

З гадамі па ўсёй Краіне Саветаў усталяваўся той вобраз Дзеда Мароза, які нам вядомы з дзяцінства. Пра сучаснае фармаванне персанажа можна казаць, пачынаючы з 1970-х гадоў. З цягам часу забылася, што ён ствараўся дзеля секулярызацыі і атэізацыі культуры і свядомасці савецкіх людзей. Сёння і праваслаўе (Маскоўскага патрыярхату і яшчэ некаторых, але не ўсіх) да навагодняга Дзеда Мароза са Снягуркай ставіцца канструктыўна. Каталіцкая культура мае свой аналаг — Санта-Клауса, аднак ён з'яўляецца канцэптуальным элементам святкавання Божага Нараджэння, рэлігійнай культуры.

Нягледзячы на адносна малады ўзрост персанажа, калектыўная памяць у нашым грамадстве не захавала звестак пра тое, як да народнай культуры былі прышчэплены Дзед Мароз і Снягурка. Таму цяпер іх існаванне здаецца спаконвечным. Значыць, рэалізацыя задумы бальшавікамі прайшла даволі спраўна. Прынамсі, больш удала, чым ажыццяўленне імі сваёй палітыкі. Затое Дзед Мароз і Снягурка, як нятленны Фенікс, з года ў год прыходзяць да нас і знікаць, у адрозненне ад савецкай улады, не збіраюцца. Пры гэтым яны нават не здагадваюцца, што іх, па сутнасці, няма.



# Любімы калядны персанаж — Каза-танцорка

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Музыкі з беларускага гурта «Vuraj» — ледзь не самыя вядомыя мінскія калядоўшчыкі. Штогод на Каляды музыкі пераўтвараюцца ў Зюзю, Казу-танцорку ды Смаргонскага Мядзведзя. Мы запыталіся ў лідара гурта Сяргея Доўгушава, ці лёгка ствараць свята для іншых.**

Мы сустракаемся з Сяргеем Доўгушавым перад чарговай рэпетыцыяй, якія ў напружаныя перадсвяточныя дні адбываюцца штодня. У гэтым годзе гурт «Vuraj» супольна з тэатральным праектам Андрэя Саўчанкі ставіць музычны спектакль «Калядная казка пра Казу і Пятра» (паводле казкі гродзенца Ігара Кузмініча).

Акрамя ўласна музычнага спектакля, будуць традыцыйныя калядныя гульні і конкурсы, танцы ды спевы — такая паўнавартасная дзіцячая беларускамоўная ялінка. У Мінску пройдзе шэсць спектакляў, таксама музыкі плануюць выступіць і па-за сталіцай — у прыватнасці, у Віцебску, ёсць запрашэнні і ў іншыя гарады.

Сяргей Доўгушаў кажа, што большасць юных наведнікаў беларускамоўных дзеяў — гэта дзеці з рускамоўных сем'яў. Ці разумеюць яны, пра што спектаклі? «А што ж там не разумець: «Го-го-го, каза. Го-го-го, шэра. Дзе рожкі дзела?» — «На соль праела»», — смяецца Сяргей Доўгушаў, напяваючы куплет з вядомага каляднага спеву пра казу. Аднак прызнае, што пастаноўкі, якія збольшага складаюцца з абрадавых спеваў, дзецям зразумець прасцей, чым тэкставыя спектаклі.

«Паколькі ў гэтым годзе мы ўпершыню ставім спектакль, больш за палову якога займае менавіта тэкст, для нас гэта новы досвед таксама — ці лёгка пастаноўка пойдзе дзецям», — кажа Сяргей Доўгушаў.

Сяргей кажа, што Казу-танцорку дзеці любяць найбольш з усіх казачных персанажаў. А таксама Зюзю — канешне, ён жа прыносіць падарункі! Хаця, кажа музыка, дзеці паміж Зюзям і Дзедам Марозам усё ж выбіраюць апошняга: «Калі раней я прыязджаў у кватэры віншаваць дзяцей з Новым Годам, замаўлялі менавіта ў якасці Дзеда Мароза. Ніяк гэтую савецкую спадчыну не выкараніць, новыя пакаленні вельмі хутка і трывала засвойваюць гэты вобраз».



Ці ёсць кампрамісны варыянт? «Святы Мікалай — можа быць, занадта рэлігійны персанаж. Але ў беларускай традыцыі ёсць проста Мароз (без дапаўнення Дзед). Калі спалучыць гэтае імя з вобразам Зюзі — такога сухенькага дзядка з доўгай барадой — дзецям, думаю, спадабаецца», — разважае Сяргей Доўгушаў.

А ці дарэчна ўводзіць вясковую традыцыю калядавання ў горад? Сяргей Доўгушаў кажа адназначна — так. «Гэта раней камусьці можа быць падавалася дзіўным ці смешным, а цяпер людзі рэагуюць вельмі пазітыўна, нават калі ты калядуеш у кватэры альбо офісе. Не важна — гараджанін ці вясковец, слухачам вельмі падабаюцца народныя абрады ды аўтэнтычныя спевы», — кажа ён.

Напярэдадні нашай гутаркі прайшло ўзнагароджванне прэміяй «Героі года» (па версіі вядомага музычнага сайта «Тузін гітоў») — сёлета гэтае званне атрымаў гурт «Vuraj», абагнаўшы такіх моцных канкурэнтаў, як гурты «Re1ikt», «Стары Ольса» ды «Brutto». Чаму, будучы настолькі папулярнымі сярод сваіх прыхільнікаў, гурт траціць столькі часу на падрыхтоўку дзіцячых святаў?

«Нейкай вымушанасці тут няма, нам падабаецца працаваць з дзеткамі, у іх можна шмат часу павучыцца. І ёсць значная розніца: калі раней мяне запрашалі ў школы, куды на выступ масава зганялі дзяцей — няважна, цікава каму ці не, — іграць было няпроста. Калі ж мы ўсё самі арганізоўваем, і прыходзяць бацькі з дзеткамі, якія хочуць нас пачуць, выступаць — адно задавальненне», — кажа Сяргей Доўгушаў.

Музыка пацвярджае, што падчас Калядаў для артыстаў значна больш магчымасці зарабіць, чым у звычайныя дні. «Аднак гэта не значыць, што мы «бамбім» да самага Новага года. Некаторыя артысты і ўстановы ў калядны перыяд арганізоўваюць па некалькі канцэртаў на дзень, але мы маем магчымасць выступаць столькі, колькі лічым патрэбным, каб гэта прыносіла задавальненне нам самім».

Ці застаецца час для падрыхтоўкі святкаванне, калі ўсе калядныя дні занятыя рэпетыцыямі ды выступамі? Сяргей Доўгушаў кажа, што калядная праца, наадварот, дапамагае стварыць святочны настрой: «Я вельмі люблю адзначаць Каляды — усё навокал упрыгожанае, урачыстае, а святочныя выступы прыносяць радасць і натхненне».



## Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але набыць «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак. 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак **3012741108019** у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. Код банка: 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**УНП 190790926**

**Таксама газету можна набыць у нашым офісе і ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр
**Мінск:** (8 029) 625 57 51
Кошт аднаго месяца — **3 рублі 20 капеек, квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1251

Падпісана да друку 23.12.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.